8-9

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ



МЕНСК
1931

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!




# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІС ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 8-9

ЖНІВЕНЬ—ВЕРАСЕНЬ

МЕНСК—1931

Ю. Ленскі

# Новая стадыя рэволюцыйнага ўздыму ў Польшчы

Цэлы рад масавых баёў, якія адбыліся за апошнія месяцы ў Польшчы, знамянуе новую вышэйшую стадыю рэволюцыйнага ўздыму, якая ставіць перад компартыяй надзвычай адказныя задачы. Ва ўсёй клясавай абстаноўцы, у настроях пролетарыяту, сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі адбываецца пералом у бок рэволюцыйнага выхаду з крызісу. Гэты фактар значна наблізіў пэрспэктыву непасрэдных баёў за ўладу, надаўшы задачам мобілізацыі і падрыхтоўкі сіл больш актуальны, ударны характар.

Пленум ЦК Компартыі Польшчы, які нядаўна адбыўся і рашэньні якога заснаваны на паказаньнях XI пленуму ВККІ, даў грунтоўны аналіз насьпяваньня прадпасылак рэволюцыйнага крызісу ў Польшчы і выплываючыя з гэтага аналізу практычна-організацыйныя дырэктывы на бліжэйшы пэрыод.

Экономічны крызіс у Польшчы, падобна таму, як і ў Нямеччыне, набывае катастрофічныя разьмеры. У галіне скарачэньня прамысловае вытворчасьці Польшча займае другое месца пасьля Нямеччыны. Агульны паказальнік продукцыі ў I квартале 1931 году (прымаючы 1928 г. за 100) упаў у Нямеччыне да 69,9, у Польшчы—да 71,9, у Злучаных Штатах—да 76,9, у Вялікабрытаніі—да 87,7. Па вастрыні аграрнага крызісу Польшча высоўваецца на першае месца сярод капіталістычных дзяржаў Эўропы, выпярэджваючы Нямеччыну. Зруйнаваныя масы польскага, украінскага і беларускага сялянства сьпіхваюцца ў бяздоньне нябывалае нэндзы.

> „Хто хоча ўбачыць схудалае жабрацтва,—піша адзін са старэйшых буржуазных публіцыстаў Сьвентахоўскі,—няхай прыглядзіцца да яго ў вёсцы... тут большасьць насельніцтва есьць усяго два ці адзін раз у дзень, пераважна бульбу. Я ведаю сем'і, дзе ўжо з два месяцы няма печанага хлеба, які спажываецца амаль выключна з дамешкай бульбы. Над гэтай зьбяднелай масай кружацца, як каршуны, зборшчыкі падаткаў, якіх гэтая маса ненавідзіць і баіцца больш за сьмерць, пажар, град, кражы і ўсякага няшчасьця. Для сваіх патрэб сяляне, жадаючы ўхіліцца распродажу з таргоў, прадаюць ня толькі лішкі, але і тое, без чаго яны ня могуць абыйсьціся,—коняй, кароў... і розныя гаспадарчыя прылады... Ня ўсе, аднак, дабраахвотна распрадаюць сваю гаспадарку. У шмат каго маемасьць прадаецца з таргоў, якія даводзяць іх да поўнага зруйнаваньня..."

Колькасьць зарэгістраваных беспрацоўных, якая быццам за апошнія тры месяцы зьменшылася на 120 тысяч (з 380 да 260 тыс.), пачынае зноў скачкамі ўзрастаць. Закупараная вёска падпадае яшчэ большаму згаленьню. „Восень і зіма, што набліжаюцца, стануць цяжкім іспытам для польскага грамадзтва“—піша „Кур'ер Познанскі“.

„Цяпер дрэнна, але можа быць яшчэ горш; таму трэба падцягнуць падпружку, пакуль ня будзе лепш, чаго вам жадаю“—раіць абрачоным на голад і нэндзу дзяржаўным служачым міністар Бэрнэр, паўтараючы словы Вітаса, выказаныя ў 1925 годзе.

Будзе яшчэ горш—прызнае польская буржуазія. Уся яе мудрасьць зводзіцца цяпер да захаваньня сваіх клясавых позыцый у часе катастрофічнага пэрыоду. „Чакаць, перачакаць“ вось лёзунг, кінуты „ідэолёгам“ польскага фашызму—былым міністрам фінансаў Матушэўскім і падхоплены ўсімі фашыстамі і соцыял-фашыстамі ў Польшчы.

> „Мы павінны перачакаць—паўтарае адзін з органаў пілсудчыны—„Слова Польске“. Толькі якоесьці вялікае намаганьне ўсяго грамадзтва, асабліва заможных кляс, якія павінны зразумець, што глеба гарыць у іх пад нагамі, магло-б аўладаць цяперашнім становішчам“.

Адзіны лёзунг, які можа быць цяпер даны організацыям—паўтараюць „левыя“ соцыял-фашысты з „Соцыялістычнага Квартальніка“—гэта перачакаць“ Гэты лёзунг у разуменьні соцыялістычных шарлатанаў павінен дапамагчы буржуазіі аўладаць грозным становішчам.

Але працоўныя масы ня могуць і ня хочуць цярпліва чакаць. Шалёнае наступленьне капіталу сустракаецца з рэволюцыйным контрнаступленьнем пролетарыяту, якое разьвязвае сілы, што караняцца ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху, а таксама ўцягвае ў змаганьне хісцкія элемэнты гарадзкой дробнай буржуазіі. Гэта іменна *ўсеагульнасьць рэволюцыйнага ўздыму*—пры значнай яшчэ няроўнамернасьці—характарызуе перелом, які адбыўся ў шырокіх масах пролетарыяту і эксплёатуемага сялянства. 1-га мая, Яворжна, забастоўкі ў Дамброўскім раёне, забастоўка трамвайнікаў, забастоўка маракоў у Гдыні, усеагульная забастоўка ў Горадні—вось паасобныя зьвеньні гэтага пералому.

Ужо нязвычайна баявы характар майскіх дэмонстрацый, у якіх актыўны ўдзел прымала таксама сялянская маса, упартае змаганьне за вуліцу, прарваўшае ў некаторых мясцох фронт паліцыі, сьведчылі пра высокі ўзровень рэволюцыйнай актыўнасьці мас, якія ідуць пад нашымі сьцягамі.

Крывавыя барыкадныя баі ў Яворжна сыгналізавалі пра глыбокае бражэньне ў масах, пераходзячых да вышэйшых форм змаганьня. Частковая забастоўка дамброўскіх гарнякоў на чале з комуністамі, наўпрэкі соцыял-фашыстам, якія хацелі разрадзіць атмосфэру пры дапамозе аднадзеннай дэмонстрацыйнай забастоўкі, казала пра наступіўшы зрух у забастовачным руху. Забастоўка трамвайнікаў у самым цэнтры фашысцкай дыктатуры ўзьняла на змаганьне нярухомыя да гэтага часу атрады пролетарыяту ў стратэгічна важных для фашызму пунктах (дзяржаўных і муніцыпальных служачых, маракоў, чыгуначнікаў).

Такім чынам, значна пашырыўся фронт забастовачнага змаганьня: цэнтр цяжару перасунуўся да буйных прадпрыемстваў і да рашаючых вузлавых пунктаў; яскрава выкрыліся тэндэнцыі да пашырэньня забастовачнага змаганьня за цэлыя галіны вытворчасьці. Перарастаньне абарончых забастовак у наступальныя, высокі ўзровень баявой солі-

дарнасьці бастуючых, растучы ўдзел беспрацоўных, спалучэньне забастовачнай зброі з больш вострымі формамі змаганьня за вуліцу, перапляценьне экономічнага і політычнага змаганьня прымусілі буржуазію і ўрад пайсьці на ўступкі. Адсюль пераважаючая большасьць пераможных забастовак, выклікаючых у рабочай клясе ўпэўненасьць у сваіх сілах. *У гэтым заключаецца іх міжнароднае значэньне.* Калі забастоўкі рурскіх гарнякоў і бэрлінскіх мэталістаў давялі масам, што рэволюцыйныя профорганізацыі зьяўляюцца адзінай сілай, якая змагаецца супроць перакладваньня цяжару крызісу на плечы працоўных, то апошнія забастоўкі ў Польшчы давялі магчымасьць пераможнага змаганьня пад кіраўніцтвам комуністаў. *Кіруючая роля компартыі значна ўзмацнілася.*

Праз перашкоды фашысцкага тэрору ўсё шырэй прарываецца рух беспрацоўных, хваля якога залівае Польшчу, Заходнюю Украіну і Зах. Беларусь. Выключная агрэсыўнасьць дэмонстрацый беспрацоўных, ствараючых пагрозу для фашысцкага рэжыму, прымушаюць пускаць у ход апрача набояў дэмагогічныя абяцанкі і нікчэмныя падачкі пры адначасовым урэзваньні фонду дапамогі беспрацоўным. За апошні час фашысцкі ўрад высунуў выкрываемы намі проект дачы работы беспрацоўным шляхам скарачэньня дзён і гадзін занятых рабочых.

Давядзеная да роспачы падаткамі і квотніцкімі пазыкамі вёска ўяўляе—паводле слоў буржуазных публіцыстаў—бурлівы кацёл, пазбаўлены кляпанаў забесьпячэньня. „У сувязі з усеагульным убоствам—піша Сьвентахоўскі—зразумела небясьпека нейкага выбуху роспачы, які ўзмацняецца разлагаючымі элемэнтамі, якія ў гэтым становішчы знаходзяць магчымым сеяць зьнішчальную буру“. Антыпадаткавы рух ахапіў шырокія масы сялянства ня толькі на Заходняй Украіне і Беларусі, але і ў самой Польшчы. Закулісныя перагаворы польскіх фашыстаў з украінскім нацыянал-фашыстамі гавораць пра прыліў новай хвалі нацыянальна-вызваленчага руху ў той час, як украінская і беларуская буржуазія прадаецца польскаму імпэрыялізму. Крывавая „пацыфікацыя“ яшчэ больш абвастрыла нацыянальна-вызваленчае змаганьне супроць польскай окупацыі. Павялічыліся сутычкі з паліцыяй і асаднікамі. Зноў пачаліся падпалы. Узмацнілася змаганьне нізоў супроць згодніцкай верхавінкі ў культурна-нацыянальных саюзах, у коопэратывах і інш.

Нарэшце, зьявіўся новы фактар—глыбокае бражэньне сярод дзяржаўных служачых, якое будзе садзейнічаць разлажэньню дзяржаўнага апарату. „Цяжкія іспыты дзяржаўных служачых—перасьцерагае ўрад зьезд фашысцкага саюзу паштавікоў—выклікаюць небясьпеку, што яны могуць здрадзіць у такіх акалічнасьцях і праявах грамадзкага жыцьця, калі іх актыўнае супрацоўніцтва стане рашаючым момантам“. Інакш кажучы, абрачоныя на голад і ўбоства масы дзяржаўных служачых перастаюць быць надзейнай апорай фашысцкага рэжыму. Сымпатыі да пролетарскай рэволюцыі пачынаюць узнікаць сярод руйнуемых крызісам пластоў гарадзкой дробнай буржуазіі. Гэтыя сымпатыі выкрыла забастоўка варшаўскіх трамвайнікаў. „Газэта Варшаўска“ з абурэньнем і непакоем пісала тады пра „паводзіны шырокай публікі, якая не спрабавала нават зламаць забастоўку, як гэта яна рабіла ў мінулыя гады“.

Найбольш характэрнай рысай пераломy, які адбываецца ў настроях і самасьвядомасьці мас, зьяўляецца *паскоранае зжываньне ілюзій, якія пашыраюцца соцыял-фашыстамі і народніка-фашыстамі аб мінулым „дэмократычным“ выхадзе з крызісу.* Паказаны намі шлях

рэволюцыйнага вырашэньня крызісу знаходзіць водгук у шырокіх масах. У ходзе штодзеннага змаганьня звужваецца амплітуда хістаньняў сярод мас, расьце іх баяздольнасьць. Таму ўсё больш слабеюць прывадныя пасы фашысцкай дыктатуры з масамі. У паасобных — *праўда яшчэ рэдкіх выпадках* — гэты процэс адбываецца бурным тэмпам. Яскравы прыклад дала забастоўка трамвайнікаў у Варшаве, выклікаўшая нябывалы разрыў паміж верхавінамі і нізамі социял-фашысцкіх і фашысцкіх профсаюзаў. Але гэты процэс не набыў яшчэ бурных разьмераў па ўсім фронце. Побач з развалам фашысцкай „рабочай" партыі ББС існуе яшчэ масавы базіс ППС, якая ўзмоценым манэўраваньнем часткова компэнсуе знадворнае зьмяншэньне свайго ўплыву і неаднакраць становіцца на чале мас, каб схіліць іх з рэволюцыйнага шляху. Тактыка падмены забастовачнага змаганьня аднадзеннымі дэмонстрацыйнымі забастоўкамі з некаторым яшчэ посьпехам праводзіцца социял-фашыстамі, якім часам удаецца, праўда, толькі на кароткі час, аўладаць рэволюцыйнымі настроямі рабочых. Социялфашызм праявіў значную ўмеласьць прыстасоўваць сваю фразэолёгію і тактыку да цяжкіх для яго ўмоў рэволюцыйнага ўздыму.

„Адным з горшых вынікаў ранейшай тактыкі социялізму, падобна таму як і ў іншых краінах — пісаў нядаўна правадыр „левых" социялфашыстаў Зарэмба — было створанае тактыкай мінімалізму ўражаньне, што социялізм страціў рэволюцыйны характар у грамадзкім сэнсе гэтага слова. Социялізм павінен зноў заняць старую позыцыю змаганьня супроць капіталістычнага ладу, бо ў адваротным выпадку гэтую позыцыю зоймуць іншыя і саштырхнуць социялізм на далейшы плян".

„Іншыя" — гэта значыць комуністы. Адсюль — прынцыпова антыкапіталістычная, рэволюцыйная фразэолёгія „левых" шарлатанаў, якія балбочуць аб „ліквідацыі капіталізму", аб „непасрэдным змаганьні за социялізм" аб „рэволюцыйным нізрынуцьці дыктатуры" і г. д., чым мацней няўпэўненасьць ў лягеры фашызму, чым прыкметней нарастае крызіс верхавін пад уплывам экономічнага развалу і абвостранага клясавага змаганьня, тым яскравей выступае роля социял-фашызму, як апошняга рэзэрву і галоўнай социяльнай апоры буржуазіі. III пленум нашага ЦК правільна падкрэсьліў, што „па меры росту рэволюцыйнай хвалі магчыма яшчэ цэлая градацыя „дэмократычных" манэўраў для ратаваньня дыктатуры буржуазіі, магчымы розныя знадворныя формы фашысцкага рэжыму, розныя дэкорацыі для ашуканьня мас". Таму — згодна паказаньняў XI пленуму ВККІ — пленум нашага ЦК завастрыў увагу партыі на змаганьні за масавыя апорныя пункты социял-фашызму (народніка-фашызм, нацыянал-фашызм), на заваёве рашаючае большасьці пролетарыяту, асноўных мас сялянства і прыгнечаных народаў для рэволюцыі. Гэтая задача стаіць зараз перад партыяй па-новаму. Мы павінны паскорыць тэмпы разлажэньня социял-фашызму. Намаганьні партыі павінны адказваць узросшым магчымасьцям ажыцьцяўленьня гэтай задачы. Такая пастаноўка тым больш патрэбна, што на глебе галавакружэньня ад посьпехаў, накшталт забастоўкі варшаўскіх трамвайнікаў, у некаторых зьвеньнях партыі можа ўзьнікнуць недаацэнка існуючай небясьпкі социял-фашызму (падобныя сымптомы маюць месца, напрыклад, у Дамброўскай організацыі).

Цяперашнюю стадыю рэволюцыйнага ўздыму характарызуе таксама ўсё мацней выступаючая ў ім *гегемонія пролетарыяту* пры шпаркім выраўненьні дыспропорцыі паміж сялянскім рухам ў Польшчы, на Заходняй Украіне і ў Беларусі. Гэта адна з асноўных прад-

пасылак перамогі рэволюцыі ў рашаючых цэнтрах панаваньня польскай буржуазіі.

Аднак, слабым бокам рэволюцыйнага руху, які ўсё шырэй прарываецца праз перашкоды фашысцкага тэрору, зьяўляецца далёка яшчэ не зьліквідаваная раздробленасьць выступленьняў пролетарыяту і сялянства, а таксама паасобных частак рабочае клясы, перш за ўсё беспрацоўных і занятых рабочых. Рух беспрацоўных распылены. Удзел працуючых у дэмонстрацыях беспрацоўных мінімальны. Нарэшце, сельскагаспадарчы пролетарыят усё яшчэ значна адстае ад агульнага рэволюцыйнага руху рабочых і сялянскіх мас. *Пашырэньне масавага базісу руху і коордынаваньне яго важнейтых зьвеньняў* становіцца неабходнай умовай разгорнутага пераможнага наступленьня супроць фашысцкай дыктатуры, супроць усёй капіталістычнай сыстэмы.

„Шпарка расьце — кажа рэзолюцыя III пленуму — баявое напружаньне ў масах. Насьпяваюць стыхійныя выбухі, узьнікаюць новыя формы змаганьня, праяўляюцца магчымасьці прарыву фашысцкага фронту ў найбольш слабых мясцох. На ўласным вопыце працоўныя масы ўсё хутчэй падыходзяць да рашаючых баёў за ўладу, за дыктатуру пролетарыяту".

Нарастаючы рэволюцыйны крызіс, крызіс клясавага панаваньня буржуазіі, не аддзелены, як мы ўжо адзначылі, кітайскім мурам ад цяперашняга рэволюцыйнага ўздыму. Насьпяваньне яго прадпасылак адбываецца паскораным тэмпам. „Гэты крызіс — падкрэсьлівае пленум нашага ЦК — паставіць перад партыяй ва ўсёй шырыні задачу падрыхтоўкі і організацыі ўзброеннага паўстаньня рабочых, сялян і салдат. Ужо цяпер партыя павінна рыхтавацца да гэтых задач пры дапамозе ўзьняцьця баяздольнасьці сваіх радоў і ўзмацненьня змаганьня за рашаючую большасьць пролетарыяту".

* * *

Характар і кірунак дзейнасьці партыі ў цяперашні пэрыод пленум вызначыў лёзунгам, пастаўленым на чале палітычнае рэзолюцыі: *„Праз штодзеннае змаганьне да рашаючых баёў за ўладу"*. Гэта значыць, што ў цяперашніх умовах асноўным фактарам насьпяваньня рэволюцыйнага крызісу зьяўляецца адпор, аказваемы масамі атакам капіталу, паступовы пераход шырокіх мас пролетарыяту і эксплёатуемага сялянства ў рэволюцыйнае контрнаступленьне. Такім чынам, пастаянная організацыя штодзенага змаганьня вакол непасрэдных патрэб пролетарыяту, сялянства і гарадзкой беднаты, пашырэньне фронту гэтага змаганьня, коордынаваньне руху працуючых і беспрацоўных, выявядзеньне буйных мас на вуліцу, організацыя масавага адпору ўзброеным сілам фашызму, сутыканьне ў ходзе змаганьня нізоў з верхавінамі соцыял-фашысцкіх, народніка-фашысцкіх і нацыянал-фашысцкіх партый, пераход шырокім мільённым фронтам да вышэйшых форм рэволюцыйнага змаганьня, перанясеньне яго ў салдацкія кашары — вось вузлавыя пункты задач, вызначаных III пленумам.

Адпаведна з гэтым патрэбна: 1) зьвярнуць асаблівую ўвагу на організацыю забастовачнага змаганьня ў важнейшых чыгуначных цэнтрах, сярод муніцыпальных рабочых, сярод варшаўскіх мэталістаў, лодзінскіх тэкстыльшчыкаў, дзяржаўных служачых, перш за ўсё паштавікоў; 2) скарыстаць цяперашні пэрыод для правядзеньня масавых забастовак сельска-гаспадарчых рабочых супроць арбітражнага дагавору, за палепшаньне ўмоў працы; 3) узмацніць кіраўніцтва рухам

беспрацоўных, каардынаваць іх выступленьні ў акруговым і краёвым маштабе, пашырыць удзел працуючых у змаганьні беспрацоўных і наадварот; 4) арганізаваць — асабліва сярод экспляатуемага сялянства — масавую адмову ўплаты падаткаў, усякіх спагнаньняў, пазык, а таксама масавы адпор падатковым экзэкуцыям і карным экспэдыцыям; 5) узмацніць працу ў арміі, у „Стшэльцы“ і іншых падобных арганізацыях; 6) разгарнуць самаабарону і палепшыць арганізацыйна-тэхнічны бок яе кадраў.

Для ўзьняцьця актыўнасьці партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху пленум вырашыў зрабіць паварот ад агульнай пропаганды і мобілізацыі шырачэзных народных мас супроць усякіх праяў нацыянальнага прыгнечаньня, супроць польскай окупацыі за самавызначэньне аж да адлучэньня, як актуальную праграму змаганьня за нацыянальнае вызваленьне. На гэтай аснове комуністы Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі павінны ўцягнуць у адзіны фронт змаганьня супроць польскага імпэрыялізму таксама масы, якія ідуць яшчэ за нацыянал-фашысцкімі партыямі, адрываючы гэтыя масы ад здрадніцкіх правадыроў пад аб'яднаючым лёзунгам самавызначэньня аж да адлучэньня. Толькі такім чынам компартыя здолее заваяваць шырокія масы прыгнечаных народаў, як саюзьнікаў пролетарскай рэволюцыі.

У ходзе штодзеннага змаганьня за хлеб, працу і свабоду неабходна максымальна ўзмацніць арганізацыйны склад партыі і яе прывадныя пасы да мас—асабліва на буйных прадпрыемствах. Павінна быць цалкам і поўнасьцю выканана дырэктыва аб падваеньні партыйных радоў. У найкарацейшы тэрмін павінна быць дасягнута значнае ўзмацненьне рэволюцыйных профсаюзаў, опозыцый у соцыялфашысцкіх і фашысцкіх саюзах, рэволюцыйнага профруху.

„Кожная арганізацыя, кожная ячэйка, кожны член партыі—напамінае пленум—павінны цьвёрда ўявіць сабе, што нашае арганізацыйнае пранікненьне ў масы будуць вызначаць тэмп перарастаньня штодзеннага змаганьня ў рашаючыя баі за ўладу“. Таму партыя абавязана ўзмацніць змаганьне супроць усякіх праяў хвасьцізму, супроць правага, як галоўнай небясьпекі, і левага опортунізму, супроць недаацэнкі сытуацыі і левых авантурысцкіх пераскакваньняў праз цяперашні этап разгорнутага змаганьня за масы. З гэтага пункту погляду павінна быць праведзена грунтоўная ацэнка практыкі апошняга пэрыоду экономічнага і палітычнага змаганьня, пасьлядоўная самакрытыка памылак і недахопаў партыі.

Каб прысьцяшыць рэволюцыйны выхад з крызісу, партыя ў сваіх акцыях *высоўвае лёзунгі, якія каардынуюць рух мас, разьвязваюць іх баявую энэргію,* прыводзяць іх непасрэдна да сутычкі з фашысцкім дзяржаўным апаратам, ставіць перад ім рубам пытаньне аб уладзе і забясьпечвае пераход да вышэйшых форм змаганьня. Такі характар мае цяпер лёзунг: „ні граша падаткаў ураду голаду, беспрацоўя, тэрору і вайны“. Зьвязаная з імі антыпадатковая акцыя мобілізуе да змаганьня, якое абвастраецца, супроць фашысцкай дыктатуры шырокія масы пролетарыяту, сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі. Падобную ролю можа адыграць лёзунг конфіскацыі сродкаў харчаваньня ў вялікіх магазынах і ў памешчыцкіх маёнтках. У вёсцы шырокая акцыя пад гэтым лёзунгам будзе разьвязваць змаганьне сялянскіх мас за зямлю бяз выкупу. Такое-ж узьдзеяньне на масы можа зрабіць лёзун скарыстаньня сялянамі памешчыцкіх сенажацяй і лясоў.

імкненьню мас да больш непасрэдных форм змаганьня супроць фашызму адказваюць лёзунгі, якія заклікаюць вызваляць сілай арыштаваных і разбройваць фашысцкіх дружыньнікаў. Па меры насьпяваньня рэволюцыйнага крызісу партыя павінна будзе абвастраць свае лёзунгі і правадзімае пад імі змаганьне.

У галіне забастовачнага руху пленум сконцэнтраваў увагу на коордынаваньні і разгортваньні змаганьня ў масавыя забастоўкі, увязаныя з вулічнымі дэмонстрацыямі, ахапляючыя групы фабрык, цэлыя раёны і галіны вытворчасьці, забастоўкі, якія—*пры актыўнай волі партыі*—будуць перарастаць у чырвоную ўсеагульную забастоўку.

Пытаньне аб усеагульнай забастоўцы, якая да гэтага часу была *толькі* прадметам пропаганды, стала цяпер перад пленумам, як больш конкрэтная практычная проблема. Цесна ўвязваючы популярызацыю ўсеагульнай краёвай забастоўкі з пропагандай узброенага паўстаньня, пленум прызнаў, што ўжо ў цяперашні пэрыод магчымы *частковыя* рэпэтыцыі такой забастоўкі.

Па меры росту баявога напружаньня ў масах, партыя павінна падводзіць гэтыя масы да ўсеагульнай забастоўкі пры дапамозе шырокай організацыі політычных стачак, якія, дэзорганізуючы дзяржаўны апарат, будуць разьвязваць рэволюцыйныя сілы ва ўсёй краіне, а таксама дапамагуць коордынаваць рух занятых рабочых і беспрацоўных, рух пролетарыяту, эксплёатуемага сялянства і прыгнечаных народаў. Глыбокае бражэньне сярод мас стварае глебу для забастоўкі солідарнасьці ня толькі на паасобных фабрыках, але і ў групе фабрык. Дынаміка перарастаньня больш буйных забастовак у краёвую забастоўку залежыць ня толькі ад агульнага разьвіцьця падзей, але і ад суб'ектыўнай ролі партыі. Забастоўка варшаўскіх трамвайнікаў давяла, што пры належнай актыўнасьці партыі магчыма шпаркае пашырэньне фронту забастовачнага змаганьня. Ацэньваючы вопыт гэтай забастоўкі, пленум кажа, што наша організацыя, якая праявіла ў ёй вялікую актыўнасьць, ня здолела, аднак, разгарнуць шырокую кампанію солідарнасьці і ўцягнуць у сумеснае змаганьне перш за ўсё комунальных рабочых. Улічваючы высокі ўзровень рэролюцыйных настрояў у масах, забастовачных настрояў сярод комунальных рабочых і чыгуначнікаў, варшаўская організацыя павінна была згрупаваць свае намаганьні на затрымцы стратэгічных рашаючых пунктаў (электрастанцыі, чыгуначных майстэрань, важнейшых мэталюргічных фабрык), дзе пераважае наш уплыў, і адначасова з праклямаваньнем забастоўкі муніцыпальных рабочых заклікаць да ўсеагульнай забастоўкі ў Варшаве. Гэта значыць, што ўсеагульная забастоўка ў Варшаве стала рэальнай магчымасьцю сёнешняга дня. Усеагульная забастоўка ў цэнтры фашысцкай дыктатуры можа лёгка разгарнуцца ў рэпэтыцыю ўсеагульнай краёвай забастоўкі.

Падобную ролю можа адыграць сапраўды масавая забастоўка чыгуначнікаў. Вельмі характэрны вопыт усеагульнай забастоўкі ў 1928 годзе, якая пачалася з чыгунак. Гэта ня была яшчэ стопроцантавая агульна-краёвая забастоўка, а толькі яе магутная рэпэтыцыя, якую партыя наша ня здолела разгарнуць у выніку опортуністычнага правядзеньня тактыкі адзінага фронту.

Трэба адкінуць усякі схэматызм у гэтым пытаньні. Погляд на краёвую ўсеагульную забастоўку, як на адначасовы акт, пасьля якога можа адразу наступіць узброенае паўстаньне, ня мае нічога агульнага з рэальным разьвіцьцём змаганьня за ўладу. Узброенае паўстаньне ня выска-

чыць аўтоматычна з усеагульнай забастоўкі, а будзе вынікам раду клясавых баёў і ўзброеных сутычак з фашысцкай дыктатурай. Падобным чынам усеагульная краёвая забастоўка ў поўным сэнсе гэтага слова ня зваліцца аўтоматычна, раптоўна на голаву, але пры вышэйшым рэволюцыйным напружаньні ў масах вырасьце з забастовачнай хвалі, якая ўсё шырэй разьліваецца. Спалучаючы тады ўсеагульную краёвую забастоўку з курсам на ўзброенае паўстаньне, партыя павінна ўжо цяпер імкнуцца да максымальнага, зразумела не мэханічнага, пашырэньня фронту змаганьня, а не чакаць „наступу" рэволюцыйнага крызісу, які „прынясе ўсеагульную забастоўку".

Пленум падкрэсьліў таксама вялізарнае значэньне масавых палітычных забастовак, як зброі *барацьбы супроць ваеннай падрыхтоўкі польскага імпэрыялізму, у абарону СССР*, барацьбы, якая павінна стаяць у цэнтры ўсёй дзейнасьці партыі. Чым больш паглыбляецца крызіс капіталізму, тым настойлівей буржуазія шукае выхаду на шляху контррэволюцыйнай вайны супроць СССР. Палітычная рэзолюцыя пленуму, на аснове выразнай ацэнкі міжнароднага і ўнутранага становішча Польшчы, правільна сыгналізуе аб далейшым росьце небясьпекі антысавецкай інтэрвэнцыі і аб неабходнасьці ўзмацненьня змаганьня з ёю. Паказваючы на вялізарныя дасягненьні соцыялістычнага будаўніцтва і процілегласьць процэсы развалу капіталістычнае гаспадаркі, пленум цесна ўвязаў абарону СССР з пропагандай рэволюцыйнага выхаду з крызісу.

Нарастаючы рэволюцыйны крызіс у Нямеччыне ставіць перад партыяй задачу яшчэ больш цеснага, чымся да гэтых часоў, супрацоўніцтва з компартыяй Нямеччыны. Міжнародная буржуазія на чале з амэрыканскім капіталам прабуе выратаваць капіталістычную Нямеччыну ад пролетарскай рэволюцыі. Гэтае „ратаваньне" азначае яшчэ большае заняволеньне германскага народу, закаванага ў кайданы вэрсальскіх дагавароў. Германская буржуазія ідзе на капітуляцыю перад францускім імпэрыялізмам, каб узмацніць свой клясавы фронт у змаганьні з рэволюцыяй. Гэта *непарыўна зьвязана з організацыяй антысавецкага блёку* і будзе штурхаць нямецкую буржуазію на гнілы компроміс з польскім імпэрыялізмам.

Страх перад нямецкай рэволюцыяй штурхае таксама ў гэтым кірунку і польскую буржуазію, патрабуючы адначасна гарантый непарушнасьці заходніх граніц Польшчы. „Памылковы погляд, пашыраемы асабліва заграніцай—піша орган пілсудчыкаў „Кур'ер Цодзенны"—быццам Польшча жадала нацягнутых адносін паміж Францыяй і Нямеччынай. Мы ўсе жадаем стабілізацыі ў Эўропе. Мы ўсе разумеем, што нямецка-француская згода азначае плаціну перад усякімі грознымі ускладненьнямі. У гэтым выпадку ўсе мы аднэй думкі. Гэтую позыцыю занялі ў сойме прадстаўнікі ўсіх партый, пачынаючы з прадстаўніка нацыянал-дэмократыі — Стронскага, праз прадстаўніка ўрадавага лягеру — Мацкевіча, канчаючы соцыялістам Недзялкоўскім.

У гэтых умовах абавязкам компартыі Польшчы зьяўляецца *ўзмацненьне фронту сумеснага рэволюцыйнага змаганьня пролетарыяту Польшчы і Нямеччыны.* Змаганьне за зьнішчэньне кайданаў вэрсальскай сыстэмы становіцца ўдарнай задачай нашай партыі. Яна азначае перш за ўсё жорсткае змаганьне супроць польскае імпэрыялістычнае дзяржавы, як жандара гэтай сыстэмы ва ўсходняй частцы капіталістычнай Эўропы. У сувязі з гэтым буйнейшае значэньне набывае ўзмоцненае змаганьне за вызваленьне прыгнечаных польскім імпэрыялізмам наро-

даў, за зьнішчэньне польскай окупацыі, за вывад польскага войска і окупацыйных уладаў, за поўнае права гэтых народаў на самавызначэньне аж да адлучэньня ад польскае дзяржавы. Усё гэта адносіцца ня толькі да Заходняй Украіны і Беларусі, але і да Верхняй Сылезіі, да Данцыгскага калідору і да тэрыторыі, населенае літоўцамі. Мы павінны ўжо цяпер высьвятляць працоўным масам, што пролетарская рэволюцыя ў Польшчы і Нямеччыне азначае зьнішчэньне вэрсальскіх дагавораў і заснаванага на іх уціску і эксплёатацыі. *Баявы саюз пролетарыяту Польшчы і Нямеччыны павінен стаць сілай, якая ў цэнтры Эўропы нанясе сьмяротны ўдар прагніўшаму капіталізму.*

---

А. Сталевіч

# Напярэдадні баёў за ўладу

*(Да вынікаў V пленуму ЦК КПЗБ)*

V-ты пленум ЦК КПЗБ, які адбыўся ў чэрвені м-цы, адзначыў, што ў краі і надалей паглыбленьне гаспадарчага крызісу будзе баразьніць грунт рэволюцыі і гэтым садзейнічаць шпаркаму нарастаньню рэволюцыйнай сытуацыі, што будзе выяўляцца ў форме больш масавых завостраных баёў, стыхійных выбухаў да партызанскіх выступленьняў уключна.

Апошнія падзеі ў Польшчы і Заходняй Беларусі з усёй вадавочнасьцю пацьвердзілі правільнасьць ацэнкі сытуацыі, зробленай V пленумам. Бурная забастоўка трамвайнікаў у Варшаве і Катавіцах, барыкадныя бai беспрацоўных у Жэрардаве, Плоцку, Велюню, масавы адпор сялян пры спагнаньні падаткаў — вось рэволюцыйная хроніка апошніх некалькіх тыдняў у карэннай Польшчы.

На Заходняй Беларусі, дзе, як адзначыў V пленум, наглядалася некаторае адставаньне ад рэволюцыйнага руху ўсёй Польшчы, цяпер маем выраўненьне рэволюцыйнага фронту па лініі рабочага і сялянскага руху. У Вільні на працягу прыблізна месяца адбываліся пастаянныя выступленьні беспрацоўных, якія прымалі ўсё больш масавы і востры характар. У нядаўнай сутычцы з паліцыяй беспрацоўныя паранілі некалькі паліцыянтаў і шпікаў, а адна з дэмонстрацый беспрацоўных накіравалася да дому, дзе затрымаўся Пілсудзкі праездам праз Вільню, і наладзілі там бурнае выступленьне з лёзунгамі, накіраванымі супроць самога обэр-фашыста Пілсудзкага. Па сваёй упартасьці і палітычнаму выяўленьню выступленьні беспрацоўных у Вільні ня ўступаюць рэволюцыйным выступленьням беспрацоўных у Польшчы.

У Горадні на грунце зьніжэньня зарплаты і новых рэдукцый узьнікала забастоўка комунальных служачых, да якіх далучыліся рабочыя іншых прадпрыемстваў. Такая шырокая ледзь не агульная забастоўка, як Горадзенская, мае месца на Заходняй Беларусі ўпяршыню пры фашысцкай окупацыі. Ня меншае значэньне ў разьвіцьці рэволюцыйнага руху мае забастоўка тэкстыльшчыкаў у Беластоку, дзе на конфлікт, які ўзьнік на адной з малых фабрык, узьнялася забастоўка солідарнасьці на ўсіх тэкстыльных фабрыках і закончылася перамогай рабочых, а арыштаваныя рабочыя былі выпушчаны з вастрогу.

Бязумоўна, што апошнія рэволюцыйныя праявы ў рабочым руху на ЗБ вельмі паказальны для ацэнкі агульна-польскага рэволюцыйнага руху. Трэба прыняць пад увагу, што на ЗБ об'ектыўныя варункі меней

спрыяючыя для разгортваньня барацьбы пролетарыяту, чым у карэннай Польшчы. Тут маецца значная лічбовая слабасьць пролетарыяту, яго нацыянальная стракатасьць, што выкарыстоўваюць для сваёй разьбіяцкай работы социял-фашысты; большае дэклясаваньне, бо пролетарыят цясьней зьвязаны з вёскай і з гарадзкой дробнай буржуазіяй; тут, урэшце, колёніяльная політыка фашысцкага ўраду выкідае на брук большы лік беспрацоўных, што сьведчыць аб тым, што ўрад коштам грабежніцкай політыкі на паняволеных беларускіх і украінскіх землях хоча зьмякчыць крызіс у цэнтральнай Польшчы.

Таксама трэба адзначыць слабейшы організацыйны ахоп рабочае клясы ў рэволюцыйным анты-фашысцкім профруху. Ня гледзячы на гэтыя об'ектыўныя абставіны, рабочы рух на ЗБ, асабліва ў апошнія часы, дасягнуў роўню агульна-польскага.

Значна ажывіліся і прынялі больш масавы характар выступленьні сялян супроць падаткаў, шарваркаў, комосацыі ліхвярства і рознай кабалы. Асабліва бурна ўздымаецца хваля стыхійнага абурэньня працоўных мас вёскі супроць окупанцкай улады, супроць абшарніцка-кулацкай прыгоннай эксплёатацыі. Цяпер на ЗБ пастаяннае зьявішча: падпалы панскіх двароў, кулацкіх і асадніцкіх сяліб, урадавых установаў, полёнізатарскіх школ, замахі на чыгункі і інш. Як паведамляе „Жыцьце Навагрудзке", у Баранавіцкім павеце зьявіўся партызанскі ўзброены атрад, які ў сутычцы з карнай экспэдыцыяй забіў поліцэйскага афіцэра і некалькі поліцыянтаў раніў. Выразнае выяўленьне партызанскай барацьбы мае нядаўні факт бомбавага замаху на цягнік пад станцыяй Яшуны.

Грунт пад нагамі окупантаў гарыць. Пролетарыят Варшавы, Дамброва і Сылезіі што-раз мацней ударае па ўстоях капіталізму ў Польшчы. Неспакойна і ў арміі. Фашысцкія ўлады ў прыдушэньні рэволюцыйнага руху абыходзяцца пакуль сіламі поліцыі і фашысцкіх банд. Фашыст ня хоча стыкаць армію з рэволюцыйнымі радамі рабочых і сялян, баіцца, каб тыя-ж рабочыя і сяляне, апранутыя ў вайсковыя мундзіры, акунуўшыся ў полымя рэволюцыйных баёў, не павярнулі штыкоў супроць капіталістаў і абшарнікаў. Фашысцкі ўрад у карных экспэдыцыях на ЗУ і ЗБ ужывае адборныя кулацкія часткі войска. Былі выпадкі (Граева), калі афіцэры адмаўлялі цывільным уладам у вайсковай дапамозе пры разгроме рэволюцыйных выступленьняў рабочых, баючыся, што войска пяройдзе на бок змагаючых мас. Аднак, карныя экспэдыцыі ўсё больш разрастаюцца ў грамадзянскую вайну,— армія ня можа доўга застацца на баку разгортваючыхся рэволюцыйных падзей. І вось гэты стык арміі з масамі можа быць гібельным для фашысцкай дыктатуры.

Вельмі характэрна для апошніх рэволюцыйных падзей тое, што найменшы конфлікт паміж працай і капіталам выклікае магутныя солідарныя выступленьні аж да агульнай стачкі, выступленьні, якія ідуць часта-густа пад знакам політычнай барацьбы і контрнаступленьня. Прыбываюць новыя рэволюцыйныя атрады і саюзьнікі пролетарыяту. Маса цягнецца да адкрытых рэволюцыйных выступленьняў, да яднаньня ў баёх на вуліцы з усімі атрадамі арміі працы, маса хоча барацьбы за гэтую вуліцу. Нянавісьць і рэволюцыйнае нагрмаджэньне шукае выхаду ў зацятых сутычках з поліцыяй — усё часьцей падаюць газэты весткі аб усё большым ліку барыкадных баёў, аб пабітых і параненых поліцэйскіх, аб разгромах магістратаў. Маса вучыцца біць клясавага ворага і ня раз ужо ў крывавых схватках перамагала яго на некаторы час.

Гаспадарчы крызіс усё мацней развальвае народную гаспадарку, дэградацыя адзначаецца ва ўсіх галінах жыцьця краю. Капіталістычная гаспадарка Польшчы выяўляе ўсё шырэйшыя шчыліны, якія сьведчаць аб надыходзячым яе развале. Бязумоўна, што тэмпы нарастаньня рэволюцыйнай сытуацыі ў Польшчы паскарае і фінансавы крах Нямеччыны, з якой Польшча гаспадарча цесна зьвязана. Польскі злоты пасьля колькігодняе стабыльнасьці пачаў у апошнія часы рэзка падаць уніз. Да прамысловага і аграрнага крызісу далучаецца і фінансавы. „Усё мацнеючы фінансавы крызіс нязьмерна больш паглыбляе іншыя труднасьці, з якімі гаспадарчае жыцьцё павінна змагацца“ (Przegląg Gospodarczy 15-VII).

На „вярхох“ выразна наглядаецца нарастаньне дэзорыентацыі. Побач з тэрорам, які мае формы грамадзянскай вайны, фабрыканты нярэдка трусьліва ідуць на ўступкі бастуючым рабочым, каб не дапусьціць пашырэньня забастовачнай хвалі, да аб‘яднаньня і ўзмацненьня рэволюцыйных выступленьняў. Урад зьніжае зарплату служачым, а пасьля абурэньня і пагрозы забастоўкай з боку служачых ідзе на некаторыя ўступкі. Побач з манэўрамі тут ёсьць і моманты дэзорыентацыі, элемэнты таго, што вярхі ўжо ня так шумнавяшчальна і ўпэўнена кіруюць, як гэта яны рабілі ў часы так званай стабілізацыі, асабліва гэта яскрава выявілася ў бюджэтнай палітыцы фашысцкага ўраду.

Таму V пленум ЦК КПЗБ слушна адзначае, што „рэволюцыйны рух у Польшчы ўваходзіць у новую больш высокую фазу, якая значна прыбліжае насьпяваньне ўсіх прадпасылах *рэволюцыйнага крызісу* ў Польшчы.

Паглыбленьне гаспадарчага крызісу, нарастаньне фінансавага крызісу, пры ўздыме рэволюцыйнага руху і посьпехах рэалізацыі пяцігодкі ў СССР — усё гэта зьяўляецца чыньнікамі, якія паскараюць падрыхтоўку вайны супроць СССР з боку польскага і міжнароднага імпэрыялізму. Факты апошніх палітычных падзей ў Эўропе, асабліва ў зьвязку з проектамі Гувэра, паказваюць, што антысавецкі блёк усё больш консолідуецца і актывізуецца, што пагроза інтэрвэнцыі і надалей застаецца вельмі актуальнай.

Бязумоўна, што важнейшае значэньне ў справе разгортваньня рэволюцыйнага руху, у справе пакрыжаваньня імпэрыялістычных, антысавецкіх плянаў Польшчы зьяўляецца суб‘ектыўны чыньнік — Компартыя. Пленум адзначыў, што „партыя павінна максымальна ўзмацніць сваю актыўнасьць па заваяваньні рашаючае большасьці рабочае клясы і па падняцьці яе баявой актыўнасьці, як перадавой рэволюцыйнай клясы, па ўзмацненьні барацьбы за саюзьнікаў пролетарскай рэволюцыі, концэнтрацыі ўсіх сіл на адпор фашысцкаму тэрору, па ўзмацненьні сувязі з масамі і пашырэньні сваіх трансмісій да мас, па стварэньні баявых рэволюцыйных кадраў і павышэньні палітычнай ініцыятывы партыйных організацый“.

Пленум распрацаваў тры вузлавых пытаньні: заваяваньне саюзьніка пролетарыяту, пашырэньне трансмісій у масы і пытаньне кадраў. Гэтыя пытаньні павінны паслужыць партыі на бліжэйшы час асноўнымі зьвеньнямі, пры дапамозе якіх партыя зможа мобілізаваць масы і організаваць іх барацьбу. Пленум прайшоў пад знакам бальшавіцкай самакрытыкі, якая памагла ўскрыць рад недахопаў, якія выявіліся ў практычнай працы на мясцох, узброіла партыю супроць паўтарэньня гэтых недахопаў, памагла выкаваць правільную бальшавіцкую лінію.

За справаздачны пэрыод партыя дабілася значных дасягненьняў. Пленум адзначыў організацыйнае ўзмацненьне партыі, узрасла роля партыі, як самастойнага кіраўніка экономічнай барацьбой рабочае клясы, маюцца дасягненьні ў організацыі барацьбы беспрацоўных, узмоцнена кіраўніцтва выступленьнямі сялянскіх мас, адзначаецца рост уплыву партыі, КСМ у арміі і сярод новабранцаў. Аднак, гэтыя дасягненьні былі-б непараўнальна большымі, каб ня рад недахопаў, выяўленых у партыйнай практыцы.

Некаторыя парторганізацыі на мясцох у падыходзе да мас, у справе заваяваньня саюзьніка пролетарыяту праяўлялі адарваны пропагандызм, вузкую замкнутасьць у політычных і організацыйных адносінах. Асабліва гэта яскрава выявілася на мясцох у кіраўніцтве нацыянальна-вызваленчым рухам і нацыянальна-вызваленчай барацьбой. Організацыі на мясцох у значнай меры выявілі недаацэнку барацьбы за нацыянальныя конкрэтныя дамаганьні мас; у нацыянальна-вызваленчым руху комфракцыі часта выпаласквалі нацыянальна-вызваленчы зьмест, мэханічна пераносілі ў гэты шырокі дробна-буржуазны рух зьмест і форму клясавай барацьбы пролетарыяту. У гэтым замазваньні ўсякай розьніцы паміж клясавым рухам пролетарыяту і нацыянальна-вызваленчым рухам выявілася недастатковае разуменьне ролі пролетарыяту, як правадыра ўсяго народу ў яго барацьбе за нацыянальнае вызваленьне і адначасна стварала небясьпеку здэформаваньня і распыленьня комфракцый, растварэньня партыйных організацый у організацыях нацыянальна-вызваленчага руху.

Няўменьне сваячасова рэагаваць на акружаючыя падзеі, слабая політычная ініцыятыва і самадзейнасьць, недастатковая конкрэтызацыя і ўжываньне ў конкрэтных варунках лёзунгаў і задач партыі з боку нізавых зьвеньняў—вось асноўныя недахопы, якія на гэтым адрэзку часу зьяўляюцца вялікім тормазам у справе заваяваньня большасьці працоўных мас. Адгэтуль недахопы і ў організацыйнай працы партыі: паўсямеснае скарачэньне масавых рэволюцыйных організацый, слабасьць рэволюцыйнага профруху, недастатковае вылучэньне шырокага партыйнага і беспартыйнага актыву. Бязумоўна, што ва ўсім гэтым мае вялізарнае значэньне шалёны поліцэйскі і экономічны тэрор, разьбіяцкая провокатарская работа соцыял-і нацыянал-фашыстаў, манэўры ўраду і рад іншых об'ектыўных прычын.

Улічваючы надзвычайную шпаркасьць тэмпаў нарастаньня рэволюцыйнай сытуацыі і маючы на ўвазе тыя хібы, якія выявіліся ў рабоце партыі, V пленум з усёй рашучасьцю і настойлівасьцю адзначыў неабходнасьць зрабіць паварот у справе політычнай ініцыятывы і самадзейнасьці зьнізу да верху ва ўсёй партыі. „Парторганізацыі павінны палепшыць і сваячасова зьмяніць формы і мэтоды нашай работы для пранікненьня ў масы і ўзмацненьня сувязі з імі; неабходна дакладна ўлічваць усе процэсы, якія адбываюцца ў масах, зьмены ў настроях мас, шпарка схватваць тое, што асабліва закранае ў даную хвіліну масы на даным прадпрыемстве, фольварку, вёсцы, сваячасова формуляваць патрабаваньні, увязваць іх з нашымі агульнымі лёзунгамі“.

Адставаньне ад рэволюцыйных падзей, хвасьцізм, асабліва ў варунках шпаркага насьпяваньня рэволюцыйнай сытуацыі, зьяўляецца вялікай небясьпекай у партыі. Ліквідацыя адставаньня ляжыць ня толькі ў тым, каб сваячасова рэагаваць на кожны конфлікт паміж працай і капіталам, на кожны факт жыцьця і барацьбы працоўных мас, але і ўмець выклікаць такія конфлікты, сказаць перад масамі тое, аб чым яны думаюць, але што яшчэ ім няясна, сказаць так, каб мобілізаваць гэтыя

масы на больш арганізаваную барацьбу. Адначасна трэба ўмець выпукліць на першы плян тое новае, тое асноўнае ў масавых выступленьнях, у стачачнай барацьбе, у кожным руху мас, што зьяўляецца паказальнікам росту рэволюцыйнага награмаджэньня і што будзе садзейнічаць разьвіцьцю контрнаступленьня працоўных мас на фашысцкую дыктатуру.

Побач з адставаньнем маецца небясьпека і ультралевых заскокаў, што асабліва яскрава выявілася ў падыходзе да нацыянальна-вызваленчай барацьбы мас і да стыхійных форм барацьбы працоўнага сялянства. Асабліва наглядна гэта выявілася ў апошнім выпадку, калі некаторыя парторганізацыі, абыходзячы масавы арганізаваны адпор, шукалі выхаду з галечы, голаду і окупацыі ў несваячасных партызанскіх выступленьнях.

Актуальнейшай задачай дня, асноўным варункам перамогі над пануючымі багатымі клясамі зьяўляецца заваяваньне рашаючай большасьці пролетарыяту. Маючы на ўвазе вялізны процант беспрацоўных на ЗБ і пастаянны рост беспрацоўя, пленум зрабіў націск на арганізацыю шырокага руху беспрацоўных, на максымальнае ўзмацненьне яго і ўвязку з барацьбой яшчэ працуючых. Злучэньне масавай стачкі з дэмонстрацыяй беспрацоўных і заваяваньне вуліцы масавымі супольнымі выступленьнямі, пры ўдзеле масавай арганізаванай самаабароны— вось форма барацьбы найбольш адпавядаючая сучаснаму стану рэволюцыйнага руху. Шырокім стасаваньнем тактыкі адзінага фронту зьнізу, асабліва завастраючы ўвагу на дэмаскаваньне „левай“ фразы соцыял-фашызму, рэволюцыйным прыкладам усьведамляць рабочыя масы, якія яшчэ ідуць за соцыял-фашызмам і фашызмам, адрываць з-пад іх уплыву, уцягваць і організоўваць пад рэволюцыйнымі антыфашысцкімі сьцягамі.

Вялікую ўвагу зьвярнуў пленум на нацыянальнае пытаньне, на кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчым рухам, які мае ў варунках ЗБ вялізнае значэньне ў справе заваяваньня саюзьнікаў пролетарыяту, уцягненьня ў рэчышча пролетарскай рэволюцыі ўсіх элемэнтаў і праслоек, гатовых актыўна змагацца супроць польскага імпэрыялізму і фашысцкай окупацыі. Толькі нацыянальна-вызваленчы рух можа ўключыць у свае рады найбольш шырокія пласты, павесьці за сабой тыя элемэнты, якія пакуль яшчэ ня ідуць за рабоча-сялянскім рухам. Барацьба компартыі з фашызмам за сярэднія пласты набывае асаблівае значэньне, бо 1) удзельная вага гэтых пластоў у варунках ЗБ, як у аграрнай краіне, значна большая, як ва ўсёй Польшчы; 2) барацьба гэтая адбываецца ў час нарастаньня рэволюцыйнай сытуацыі краю і падрыхтоўкі вайны супроць СССР.

Барацьбу супроць польскага імпэрыялізму і окупацыі партыя разгортвае на грунце ўсякіх праяў фашысцкай політыкі, экономічнага і нацыянальнага ўціску ўсіх прыгнечаных народаў на Заходняй Беларусі.

Каб пасьпяхова разгарнуць нацыянальна-вызваленчую барацьбу, неабходна зрабіць паварот у кіраўніцтве гэтай барацьбой, неабходна „рашуча парваць з мэтодамі камандваньня нацыянальна-вызваленчым рухам і трактаваньня організацыі гэтага руху, як беспасрэдных экспозытур партыі. Трэба падтрымоўваць і вылучаць беспартыйны актыў да фактычнага кіраўніцтва рухам, падтрымоўваць яго ініцыятыву, чуйна прыслухоўвацца да тых прапаноў, якія ён выстаўляе. Ня звужаць уласьцівых у нацыянальна-вызваленчым руху спосабаў дзеяньня і выказваньня“.

Асноўным і найбольш мобілізуючым лёзунгам у нацыянальным пытаньні зьяўляецца: права прыгнечаных нацыянальнасьцяй на самавызначэньне аж да аддзяленьня. Зьмест, які ўкладаў Ленін у гэты лёзунг, у варунках Заходняй Беларусі заключае наступнае: „1) бязьлітасная барацьба з польскім імпэрыялізмам супроць окупацыі; 2) цалкам свабодны і ня прымушаны выказ волі данага народу ў пытаньні дзяржаўнай прыналежнасьці; 3) шлях да ажыцьцяўленьня гэтага лёзунгу ў сучаснай сытуацыі вядзе толькі праз супольную рэволюцыйную барацьбу працоўных мас Заходняй Беларусі і ўсяе Польшчы пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго партыі за зваленьне дыктатуры буржуазіі“. Адначасна партыя ў сваёй штодзеннай агітацыі тлумачыць масам, што толькі ў выніку пераможнай пролетарскай рэволюцыі, як гэта мы наглядаем у СССР, магчыма аб'яднаць разарваныя імпэрыялізмам беларускія землі ў адну БССР.

Пленум уносіць яснасьць у дзейнасьць партыі на культурна-асьветным грунце. Рашуча змагаючыся з буржуазнай ідэолёгіяй, з буржуазным нацыяналізмам, неабходна супроцьстаўляць у нацыянальнай культуры рэволюцыйныя элемэнты яе і пры дапамозе гэтых элемэнтаў разьбіваць дэмагогію і фашызацыю беларускіх нацыянал-фашыстаў.

Пленум завастрыў увагу партыі на барацьбе супроць беларускага нацыянал-фашызму, які зьяўляецца „аднэй з важнейшых апор фашысцкай окупацыі, актыўным правадніком усіх мерапрыемстваў польскага фашызму, адным з важнейшых фактараў у організацыі вайны супроць СССР і прыдушэньня нацыянальна-вызваленчай барацьбы паняволенага беларускага народу“.

Праз усе рашэньні пленуму праходзяць чырвонай ніткай мобілізацыя мас супроць падрыхтоўкі інтэрвэнцыі, барацьба ў абарону СССР, популярызацыя дасягненьняў соцыялістычнага будаўніцтва і падрыхтоўка мас на выпадак вайны, каб ператварыць яе ў вайну грамадзянскую за рабоча-сялянскі ўрад, за савецкую Польшчу.

Рост політычнай сьвядомасьці мас, адыход іх з-пад уплыву соцыял-і нацыянал-фашызму асабліва востра ставіць перад КПЗБ задачу ўзмацненьня існуючых рэволюцыйных масавых організацый, стварэньне і пашырэньне markdownразнародных трансмісій партыі да мас, самае чулае і ўмелае выкарыстоўваньне новых форм, якія высоўваюцца самымі масамі ў ходзе рэволюцыйнай барацьбы.

Пастановы V пленуму ўзбройваюць організацыі КПЗБ бальшавіцкім аружжам, пры дапамозе якога партыя ў цэлым з большым посьпехам зможа давесьці масам, што выхад з беспрацоўя, голаду, галечы і окупацыі ляжыць у пролетарскай рэволюцыі, зможа організаваць масы на барацьбу за фабрыкі, зямлю, нацыянальнае вызваленьне і ўладу.

М. Галадзед.

# Задачы навуковай работы і роля Беларускай Акадэміі Навук [1])

На даным этапе перад Акадэміяй Навук стаяць адказьнейшыя практычныя задачы, якія маюць вялікае політычнае значэньне.

Ход клясавай барацьбы ў Беларусі склаўся такім чынам, што Акадэмія (гэта новая організацыя, якую мы стварылі ў 1928 годзе), альбо вярней, частка яе членаў, адыгрываўшых там выдатную ролю, аказалася па той бок барыкад. Акадэмія — гэта наша ўласнае дзіцё і замест таго, каб адзіным фронтам змагацца за соцыялізм, частка „акадэмікаў“ ашукала давер'е савецкай улады і вяла работу супроць нас.

Нам прышлося выкінуць з Акадэміі частку тых людзей, якія працавалі супроць нас. Прышлося трошкі ўзварушыць Акадэмію. Мы вымушаны былі пайсьці на гэта, бо некаторыя людзі працавалі супроць пролетарскай дыктарутуры, на карысьць польскага і міжнароднага фашызму.

На тым, што мы далі па руках лазутчыкам польскага фашызму і ізолявалі організатараў капіталістычнай інтэрвэнцыі з лягеру беларускага нацыянал-дэмократызму, зразумела, хто-небудзь імкнуўся і спэкульнуць.

Некаторыя падгалоскі нацыянал-дэмократаў ставілі пытаньне і хто-небудзь яшчэ ставіць і зараз: „Ну, што-ж, у бальшавікоў гэта ўсё паказальнае, і нацыянальная політыка — гэта таксама паказальнае. Усё робіцца для формы, а потым — зноў будзе ліквідавана“.

Для кожнага дарослага чалавека, які ўсё-ж такі хоць трошкі ўяўляе сабе сэнс процэсу клясавай барацьбы пролетарыяту, зусім ясна, што гэтыя гутаркі выходзяць з клясава-варожага нам лягеру. Усім вядома, што справа ідзе не аб ліквідацыі нацыянальнай політыкі, не аб затрыманьні разьвіцьця нацыянальнай культуры, як гэта імкнуцца паказаць нацыянал-фашысты і іх агентура, справа ідзе аб выраўнаньні клясавага фронту пролетарыяту, аб замацаваньні гэтага клясавага фронту, аб консолідацыі лепшых сіл, якія стаяць на позыцыях пролетарыяту, для таго, каб хутчэй рушыць справу нацыянальнай політыкі, каб яшчэ хутчэй рушыць справу нацыянальнай культуры, пролетарскай па сваім зьмесьце і нацыянальнай па форме.

Ва ўсякім разе тое, што мы стукнулі па абнаглелых актыўных контр-рэволюцыянэрах, нашыя клясавыя ворагі за межамі імкнуцца скарыстаць у сваіх мэтах.

[1]) Скарочаная стэнограма прамовы на прыёме дэлегацыі Белар. Акадэміі Навук.

На гэтым фоне рэорганізаванай Акадэміі Навук трэба напружыць усе сілы для таго, каб сьцяг нацыянальнай па форме і социялістычнай па зьмесьце культуры трымаць высока, і навуковую працу ўзьняць на такую вышыню, каб усім было відавочна, што мы можам больш пасьпяхова працаваць без нацдэмаўскіх „вучоных“, што ў нас хопіць сіл для таго, каб навуку і культуру, якая нам патрэбна, клясавую культуру — рушыць гіганцкімі тэмпамі наперад. І лепш будзе, калі ў нас будзе менш тых людзей, якія перашкаджаюць нам працаваць на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Ня трэба забыцца, што Беларуская Акадэмія Навук з сёнешняга дня павінна зьявіцца вярхоўным органам навукі ў БССР: гэта абстаноўка ўскладае яшчэ большыя абавязацельствы на нашу Акадэмію і на ўсіх яе работнікаў. А каб апраўдаць назву „Вярхоўны штаб навукі“, *трэба даць працу высокай навуковай якасьці, трэба ўзьняць навуковы аўторытэт Акадэміі.*

Політычны аўторытэт у Акадэміі, зразумела, павінен быць, бо аполітычнай Акадэміі ў прыродзе ня бывае, ня было і ня будзе; розьніца толькі ў тым, якой клясе акадэмія служыць. Наша Акадэмія павінна служыць і ўжо служыць рабочай клясе. Але гэтым справа ня вычэрпваецца; пытаньне стаіць аб уздыме і *навуковага* аўторытэту. Таму *якасьць навуковай продукцыі мае рашаючае значэньне для Акадэміі.*

На даным этапе социялістычнага будаўніцтва разьвіцьцё навукі набывае рашаючае значэньне. Конкрэтныя задачы социялістычнага будаўніцтва, якія перад намі зараз стаяць, ня могуць быць вырашаны без аўладаньня перадавой тэхнікай. Гэта апошняя задача ў сваю чаргу ўпіраецца ў далейшае разгортваньне работы нашых навукова-дасьледчых устаноў і максымальную ўвязку нашай тэорэтычнай работы з практычнымі задачамі, што стаяць перад намі. Гэта ўскладае асобныя абавязацельствы на БАН.

Чаму-б, напрыклад, БАН, як сьлед, не заняцца вывучэньнем натуральных багацьцяў БССР.

У нас работа над вышуканьнем рудных і нярудных выкапняў набывае вялізарнае значэньне. Напрыклад, мы цяпер з-за мяжы імпортуем шамотную цэглу, бо для Магнітагорску, Кузьнецкага басэйну, Днепрабуду і г. д. патрэбна агнятрывалая цэгла, а ў нас, нібы, не хапае сваёй шамотнай гліны.

Аказваецца, што шамотную гліну можна і ня ўвозіць. Ёсьць некаторыя даныя, што ў нас у Крычаўскім раёне ёсьць залежы гэтай гліны. Калі сапраўды ўся гэтая справа была-б дасканала дасьледвана і высьветлена, мы маглі-б у БССР пабудаваць вялікі гігант па выпрацоўцы агнятрывалай цэглы з тысячамі рабочых, прычым урад Савецкага Саюзу пайшоў-бы на ўсякія капітальныя ўкладаньні для гэтай мэты. Чаму-б БАН ня ўзяцца за хутчэйшае вышуканьне гэтай шамотнай гліны?

Альбо возьмем тарфяную проблему, якая для БССР мае вельмі вялікае значэньне. З торфам у нас справа ўжо вырашана ў сэнсе скарыстаньня яго, як энэргетычнай базы. Асінбуд зьяўляецца лепшым доказам гэтага. Зараз мы павінны ўзяцца за хэмічную пераапрацоўку торфу ў іншыя продукты.

Паколькі мы ў БССР пакуль што не знайшлі іншых выкапняў, будзем больш інтэнсыўна працаваць над торфам. Даказана, што з торфу атрымліваецца добры кокс, які можа нават конкураваць з вугальным коксам. Даказана (лябораторным шляхам), што з торфу можна вырабляць сьпірытус. Сьпірытус на даным этапе разьвіцьця тэхнікі ў Саюзе

ССР можа адыграць вялікую ролю для разьвіцьця індустрыялізацыі. Чаму торф не паставіць на выраб сьпірытусу, а сьпірытус — на службу індустрыялізацыі (з яго можна вырабляць сынтэтычны каўчук)? Лябораторным шляхам гэта ўжо даказана (выпрацоўка сьпірытусу з торфу), а вось на прамысловыя рэйкі мы пакуль што ня здолелі гэтую справу паставіць.

Ёсьць даныя, што ў БССР мы маем шмат валакністага торфу, а гавораць, што немцы на 50 проц. ваявалі ў шынэлях з торфу. Да ваўнянага валакна дадаецца 50 проц. валакністага торфу і атрымліваецца добрая шынэль. Яшчэ можна знайсьці цэлы рад спосабаў ужываньня торфу для мэт індустрыялізацыі. Я ўжо не гавару аб тым, што торф добра скарыстоўваецца як угнаеньне. Гэта менш складаны працэс, а ўсё-ж такі ён скарыстоўваецца ў нас слаба.

Кажуць, што ў БССР знайшлі балотную руду. Адначасова кажуць, што балотная руда нерэнтабельна для распрацоўкі, паколькі мы маем вялізарныя залежы высокагатунковай руды ў Савецкім Саюзе. Пры такіх залежах руды, якія ёсьць у СССР і якія перавышаюць сусьветныя запасы, бязумоўна, з балотнай рудай нам цяжка высунуцца, каб арганізацаць мэталюргічную базу ўсесаюзнага значэньня. Але трэба да канца давесьці і гэтую справу. Калі чаго-небудзь вялікага нельга зрабіць, дык, мабыць, што-небудзь дробнае мясцовага значэньня можа выйсьці

Ёсьць некаторыя архіўныя матар'ялы, якія паказваюць тое, што калісьці на Віцебшчыне быў, або хацелі пабудаваць мэталюргічны завод на сапраўднай рудзе. Трэба праверыць гэтыя матар'ялы. Можа сапраўды вакол Віцебску ёсьць руда; трэба правесьці дадатковыя дасьледы. Гэта — непасрэдная працы Акадэміі. Затраты на гэтыя вышукальныя работы над выкапнямі заўсёды сябе апраўдаюць. Ня трэба шкадаваць затрат на такую працу. Прычым, у нашых умовах вялізарнейшую ролю адыгрываюць нярудныя выкапні, як, напрылад: фосфарыты (я ўжо ўпамінаў аб шамотнай гліне), маргелі, крамяні; зараз з крэменю выпрацоўваюць добрую шкляную паперу, а гэтая справа ў нас застаецца пакуль што саматужнай. У нас у адным раёне ёсьць такі саматужны заводзік, а ўжо з Ленінграду просяць крамяні для млыноў і плоцяць добрыя грошы за гэта.

На жаль, некаторыя нашы навукова-дасьледчыя інстытуты, некаторыя навуковыя работнікі часта займаюцца агульнымі разважаньнямі, а не конкрэтнай справай.

Возьмем сельскую гаспадарку і ў прыватнасьці такое конкрэтнае пытаньне, як спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі БССР. Акадэмія павінна дапамагчы нам зламаць консэрватыўныя настроі ў некаторых нашых спэцыялістаў па сельскай гаспадарцы і зьнішчыць сумненьні, якія заключаюцца ў тым, што, нібы, разьвіцьцё ільну і канапель у нас не патрэбна форсаваць. Яшчэ наглядаюцца такія адрыжкі ў некаторых спэцыялістаў сельскай гаспадаркі.

Мы ня можам далей у галіне разьвіцьця сельскай гаспадаркі ісьці па такім шляху, каб у нас быў „Мюр і Мэрыліз“—усяго патрошку і ў той-жа час усяго не хапае.

Сутнасьць соцыялістычнага плянаваньня заключаецца ў тым, каб правільна вызначыць вытворчыя функцыі кожнага раёну СССР.

Паўночны Каўказ, Украіна, Сібір, Сярэдняя Волга, наогул прыволскія вобласьці, дзякуючы сваім умовам, могуць стаць і ўжо сталі раёнамі таварна-збожжавай гаспадаркі.

Мы, Беларусь, ня можам зьявіцца таварна-збожжавым раёнам. Мы павінны зьявіцца *раёнам таварнай жывёлагадоўлі, тэхнічных культур і кораньплодаў*. Адначасова мы можам быць і павінны быць з хлебам. Для гэтага патрэбна, каб нашыя агра-хэмікі папрацавалі больш практычна над тым, каб наша беларуская глеба замест 30 пудоў з дзесяціны дала-б 80-100 пудоў, а ў нас ня так цяжка гэтага дабіцца.

Буйным-жа таварна-збожжавым раёнам мы ня можам быць. Але ці можам мы заставацца далей рэспублікаю бяз пэўнага вытворчага профілю ў сыстэме Савецкага Саюзу? Зразумела, ня можам.

Для жывёлагадоўлі ў нас ёсьць усе падставы, але справа гэта вельмі марудна прасоўваецца наперад як па колькасьці, так і па якасьці. Да гэтага часу мы мала зрабілі для паляпшэньня пароды жывёлы; ёсьць паасобныя экзэмпляры добра выведзенай буйнай рагатай жывёлы і толькі. Па сьвіньнях ёсьць, праўда, зусім добрыя вынікі. Мы павінны гэтую справу як мага хутчэй пасунуць наперад.

Лубяныя культуры—лён і каноплі. Проблема мэліорацыі балот у сувязі з задачай разьвіцьця лубяных культур зьяўляецца гіганцкай проблемай. Ужо вынайдзен спосаб і практычна ставіцца на прамысловыя рэйкі пераапрацоўка пянькі ў бавоўну. А што гэта азначае? Бавоўна адразу вырашае цэлы рад проблем, у тым ліку і паляпшэньне матэрыяльнага забесьпячэньня рабочай клясы. Пянька сама па сабе можа быць скарыстана для многіх галін народнай гаспадаркі, а з пераапрацоўкаю пянькі ў бавоўну мы гэты сырэц можам скарыстаць для тэкстыльнай прамысловасьці.

Чаму не паставіць рэальную задачу—спэцыялізацыю сельскай гаспадаркі БССР па лініі разьвіцьця лубяных культур, жывёлагадоўлі і зьвязанай з гэтым кармовай базы?

У гэтай справе неабходна больш сур'ёзна і больш рашуча рушыцца наперад і *сапраўды ператварыць нашую сельскую гаспадарку са спажывецкай гаспадаркі сялянскага тыпу ў буйную колгасна-саўгасную таварную прамысловую гаспадарку*.

Ці можам мы ператварыцца са спажываючага ў вытвараючы раён? *Бязумоўна, можам*. Вытворства лубяных культур і разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў такім разьмеры, які-б даў нам магчымасьць пашырыць сырцовую і харчовую базу—гэта і ёсьць ператварэньне ў вытвараючы раён. А дабіцца гэтага мы ня толькі можам, а і абавязкова павінны.

Ці можам мы Сярэднюю Азію назваць раёнам вытвараючым? Хоць Сярэдняя Азія (акрамя Казакстану) не зьяўляецца раёнам вытвараючым па таварным збожжы, але паколькі там асноўная база бавоўны для ўсяго Савецкага Саюзу, пастолькі яна зьяўляецца сур'ёзным вытвараючым раёнам.

Вырашыць усе гэтыя пытаньні спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі БССР без дапамогі навуковай думкі і бяз удзелу навуковых работнікаў і спэцыялістаў, гэта зусім, зразумела, мы ня зможам.

Мы павінны больш інтэнсыўна папрацаваць па ўсіх гэтых галінах і дабіцца ператварэньня БССР са спажываючага ў вытвараючы раён, чаго-б гэта нам не каштавала.

Трэба адзначыць, што ў гэтай галіне вельмі марудна разгортваецца навуковая думка нашых спэцыялістаў. У нас мала вынікаў работы над новымі культурамі; мы топчамся на адным месцы. Нават і лён і каноплі слаба разьвіваем, і навукова-дасьледчыя інстытуты не зьяўляюцца штурхачом гэтай справы.

Іншыя раёны СССР працуюць над увядзеньнем новых культур— валакністых, каўчуканосных культур і інш., а нашыя сельска-гаспадарчыя інстытуты зусім мала займаюцца гэтай справай. Даводзіцца нам самім штурхаць нашых інстытутчыкаў на новыя думкі. Больш таго, мы ў народна-гаспадарчым пляне прынялі пастанову пабудаваць цукровы завод у раёне Брагіна з тым, каб ужо зараз разьвіваць культуру цукровых буракоў з мэтаю правядзеньня вопытаў—ці будуць яны рэнтабельны, ці будуць яны пасьпяваць у нашым краі і г. д.

А нашыя гора-дасьледчыкі па сельскай гаспадарцы замест таго, каб ухапіцца за гэтую справу і рушыць яе як сьлед наперад, пачынаюць у газэтах дыскутаваць і даказваць нерэнтабельнасьць разьвіцьця цукровых буракоў у Беларусі ў той час, як урад ідзе на затраты значных грошай для правядзеньня вопыту.

Замест таго, каб паставіць гэтае пытаньне, правесьці вопыт да канца, гультаяватыя людзі пачынаюць дэмобілізоўваць грамадзкасьць.

Правільна будзе трымацца таго правіла ў навукова-дасьледчай працы—лепш больш патраціць сродкаў, іншы раз, можа і дарэмна, але давесьці справу па правядзеньні таго ці іншага вопыту да канца. Што мы ад гэтага трацім у адным выпадку, тое мы шмат разоў наганяем у другім выпадку, калі зробім якое-небудзь адкрыцьце. Тут, бязумоўна, патрэбна шырокая ініцыятыва; больш таго, трэба, каб спэцыяліст-дасьледчык у пэўнай меры рызыкаваў там, дзе гэта патрэбна, у сваёй рабоце. Здаровая рызыка, дзе гэта патрэбна, дзе яна зьвязана з імкненьнем спэцыяліста сваім вынаходніцтвам дапамагчы соцыялістычнаму будаўніцтву, нам вельмі неабходна. Гэту рызыку спэцыяліста мы падтрымліваем і будзем падтрымліваць заўсёды і матар'яльна і політычна.

Ці можа Беларуская ССР са сваімі вучонымі ўнесьці сваю лепту ў разьвіцьцё навукі і тэхнікі ўсяго Савецкага Саюзу? Зразумела, можа, і гэта абавязкова трэба рабіць. Мы ўжо штосьці маем, але трэба ўзмацніць наш удзел у гэтай справе. Гэта ёсьць лепшы шлях для таго, каб ўзмацніць навуковы аўторытэт самой Акадэміі. Часам якое-небудзь, на першы погляд, нібы невялічкае вынаходніцтва, узьнімае і вучоных і самую ўстанову, дзе яны працуюць, на шмат ступеняй дагары.

Вось некалькі прыкладаў конкрэтнай працы, якой можа займацца Акадэмія Навук. Усёй сумы гэтых пытаньняў самой Акадэміі Навук, мабыць, ня ўдасца вырашыць, але затое мы ўтварылі такія ўмовы для працы Акадэміі, якія даюць магчымасьць усе ведамсьцьвеныя навукова-дасьледчыя ўстановы і інстытуты скарыстаць іменна ў гэтым напрамку. Неабходна, каб Акадэмія Навук сама праяўляла ініцыятыву і адначасова штурхала-б нашыя ведамсьцьвеныя дасьледчыя інстытуты на конкрэтную навукова-дасьледчую працу. Напрыклад, Інстытут Прамысловасьці, Інстытут рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і іншыя спэцыяльныя інстытуты і ўстановы Акадэмія павінна контраляваць і правяраць іх дзейнасьць, ажыцьцяўляць мэтодолёгічнае кіраўніцтва імі.

Але ўсё гэта не азначае, што мы павінны закінуць задачу *разьвіцьця гуманітарных і грамадзкіх навук.*

*Разьвіцьцё грамадзкіх, гуманітарных навук у нашых умовах, ва ўмовах пролетарскай дыктатуры, мае вялікае значэньне, бо на гэтых навуках формуецца ідэолёгія пролетарыяту і ўсіх працоўных мас цэлага новага пакаленьня.*

Гэта задача ў нас стаіць вельмі востра яшчэ і з тэй прычыны, што ў грамадзкія, гуманітарныя навукі ў нас, у БССР, занесена шмат элемэнтаў нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі, розных „тэорый самабытнасьці“ і іншай непатрэбнай шалухі.

Галоўная задача ў гэтых навуках—барацьба за марксыцкую мэтодолёгію, гэта, як кажуць, стрыжань усёй працы. Паўтараю, на грамадзкіх, гістарычных і наогул на гуманітарных навуках формуецца ідэолёгія, цэлага маладога пакаленьня, і мы ня можам гэтую справу адсунуць на задні плян. Наадварот, гэта задача павінна прыцягнуць да сябе галоўнейшую ўвагу.

Адна з важнейшых задач — гэта напісаньне гісторыі Беларусі. На жаль, да гэтага часу ў нас няма гісторыі Беларусі, напісанай панашаму, марксыцкай гісторыі, а на гісторыі мінулага, гаварыў Ленін, мы вучымся тварыць будучае. У нас няма ніводнага марксыцкага падручніка па гісторыі Беларусі. У нас ёсьць таварышы, якія ведаюць гісторыю Беларусі з марксыцкага пункту гледжаньня, але гэта ляжыць у іх галовах, а марксыцкага падручніка мы яшчэ не пісалі. Мы выхоўваем мільёны пролетараў, а на чым мы будзем іх вучыць?

А тое, што мы навучаем мільёны, — гэта факт.

Пры складаньні дырэктыў па контрольных лічбах на 1932 год, якія ўжо Саветам Народных Камісараў зацьверджаны, мы ўзялі такія тэмпы вучобы, што 60 проц. усяго насельніцтва будзе сядзець на школьных лаўках (сюды ўваходзяць розныя курсы і г. д.).

Чаму мы будзем навучаць гэтыя 60 проц.? Якой гісторыі—буржуазнай ці пролетарскай? Якія мы падручнікі паднясем па гуманітарных навуках гэтым 60 проц. працоўнага насельніцтва? Гэта вялікая справа. Школа-ж, ВНУ і курсы — гэта ня толькі асьветныя ўстановы. Трэба ведаць, што кожная школа — ёсьць лябораторыя, у якой формуецца ідэолёгія мільёнаў, у якой пераапрацоўваецца чалавек, і рэзультат работы гэтай лябораторыі ў значнай меры будзе залежаць ад таго, на чым мы будзем вучыць масы, на якіх падручніках, якіх кнігах. Таму вялікай памылкай было-б недаацэньваць і гуманітарныя навукі.

Зараз некалькі слоў наконт мэдыцыны. Трэба ўсямерна падтрымліваць навукова-дасьледчую работу ў гэтай галіне. Працаваць у галіне мэдыцыны, гэта значыць працаваць над энэргетычнымі рэсурсамі пролетарыяту, над разьвіцьцём жывой людзкой энэргетыкі. Жывая энэргетыка пролетарыяту, — гэта галоўная з усіх энэргетык. Толькі простыя профіляктычныя мерапрыемствы — і тыя павялічваюць нашы энэргетычныя рэсурсы. З мэдыцынай зьвязаны рад прыродазнаўчых і спэцыяльных навук, якія нам патрэбны, як паветра. Таму зьяўляецца вельмі дзіўным, калі чуеш аб недаацэнцы гэтай галіны навукі.

Выходзячы з таго, што мы зараз шчыльна, як ніколі, падыйшлі да шырокага разгортваньня будаўніцтва соцыялізму, перад намі з асаблівай вастратой паўстала проблема скарыстаньня ўсіх спэцыялістаў і вучоных, скарыстаньня іх ведаў для соцыялістычнага будаўніцтва.

Адсюль і тое, што наша партыя востра ставіць пытаньне аб паляпшэньні ўмоў работы спэцыялістаў і вучоных.

Для вас усіх не сакрэт, што для старых спэцыялістаў на пэўным этапе мы адносіліся настарожана. Сярод старых спэцыялістаў знайшліся такія элемэнты, якія па ўказаньнях замежных капіталістаў і за іх сродкі праводзілі падрыў соцыялістычнага будаўніцтва, шкодзілі на кожным кроку.

Няма ніводнай галіны народнай гаспадаркі, дзе-б не працавалі шкоднікі. У асноўных галінах народнай гаспадаркі шкодніцтва зьвіло сабе моцнае гняздо. Мы гэтых шкоднікаў у асноўным вылавілі і як сьлед пакаралі.

Гэтыя шкодніцкія элемэнты, якія знайшліся сярод старых спэцыялістаў, якія ня верылі ў моцнасьць савецкай улады і імкнуліся яе лік-

відаваць на карысьць буржуазнай дыктатуры, прымусілі савецкую ўладу і партыю настаражыцца і прыняць адпаведныя меры.

Зараз становішча мяняецца. Шкодніцтва мы ў асноўным разьбілі. Значная частка старых спэцыялістаў і вучоных, якія не замешаны ў шкодніцтве, рэзка адмежаваліся ад шкоднікаў і цалкам і поўнасьцю аддаюць сябе справе партыі, справе пролетарыяту. Частка тых спэцыялістаў, якія хістаюцца і чакаюць, убачылі, што савецкую ўладу нельга скінуць. Што-ж ім застаецца рабіць — сядзець і чакаць? — гэта бязглуздзіца, і яны пачынаюць актыўна працаваць з намі. А мы дапаможам ім далучыцца да актыўнай работы.

Крыўдзіцца на партыю і савецкую ўладу асобным навуковым працаўнікам за тое, што мы па сім-тым як сьлед ударылі, ня прыходзіцца. Бясспрэчна тое, што многія з старых спэцыялістаў сумленна працуюць і тое недавер'е, якое мы праяўляем да людзей, якія хістаюцца, каму-небудзь не спадабаецца, але нічога ня зробіш — „лес рубаць — шчэпкі ляцяць“. Там, дзе змагаюцца дзьве клясы не на жыцьцё, а на сьмерць, там пападае і тым, хто хістаецца.

У асноўным гэтыя хістаньні былі выкліканы тым, што частка старых спэцыялістаў ня верыла ў моц савецкай улады. Зараз ужо для ўсіх стала вядомым, што савецкая ўлада ў міжнародных адносінах самая моцная ўлада. Няма ў сьвеце такой улады, якая была-б такой моцнай, як савецкая. Не дарма самая варожая буржуазная дзяржава— Францыя — з намі загаварыла.

Многія спэцыялісты, якія раней хісталіся, зараз упэўніліся ў тым, што мы не жартуем, а будуем соцыялізм, і ім заставацца ў баку ад будаўніцтва соцыялізму таксама няма ніякага сэнсу. Нарэшце, гэта азначае — быць выкінутым за борт пераможнага руху па шляху соцыялізму.

Задача спэцыялістаў заключаецца ў тым, каб прыступіць да актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, а партыя і ўлада з свайго боку будзе ствараць такія спрыяючыя ўмовы, якія дадуць поўную магчымасьць разгарнуць свае сілы і ўжыць свае веды на справу будоўлі. Мы і раней утваралі такія ўмовы, але частка спэцаў злоўжывала нашым давер'ем.

Ужо вышэй было сказано, што спэцыялісты ў сваёй дасьледчай рабоце павінны рызыкаваць там, дзе гэта патрэбна. Мы здаровую рызыку будзем падтрымліваць. Нават тады, калі спэцыяліст зробіць памылку, але калі гэта будзе зьвязана з жаданьнем дапамагчы справе пролетарыяту, хто яго будзе за памылку судзіць, хто яго, сумленна рызыкуючага спэцыяліста, будзе наогул зьневажаць?

Усякая новая справа, усякае новаўвядзеньне абавязкова зьвязана з рызыкай, і чалавек, які баіцца рызыкі, ніколі нічога новага даць ня зможа.

Наша задача — дапамагчы спэцыялістам стаць моцна на пролетарскія пазыцыі і стварыць адпаведныя ўмовы для іх работы.

Ва ўмовах БССР задача мобілізацыі ўсіх навуковых сіл і спэцыялістаў на справу соцыялістычнай будоўлі павінна ўзяць на сябе Беларуская Акадэмія Навук.

Беларуская Акадэмія Навук павінна зьявіцца вярхоўным штабам навукова-дасьледчай работы ў БССР. Задача Акадэміі ў першую чаргу павінна заключацца ва ўздыме ўсёй навукова-дасьледчай работы на высокі навуковы, я-б сказаў, экономічны ўзровень, у плянаваньні ўсёй навукова-дасьледчай работы, каб найбольш эфэктыўна скарыстаць сілы, сродкі і дасягненьні асобных інстытутаў і лябараторый, каб навуковая работа дала больш практычных вынікаў на карысьць соцыялістычнага будаўніцтва.

Галодка

# За сапраўдную перабудову партработы на вёсцы, за палепшаньне якасьці партыйнага кіраўніцтва

Рабочая кляса і бядняцка-серадняцкія масы БССР пад кіраўніцтвам УсеКП(б) і КП(б)Б і пры брацкай дапамозе саюзных рэспублік дабіліся вялізарнейшых посьпехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва ня толькі ў горадзе, але і на вёсцы.

Пасеўная плошча 1931 г. ў параўнаньні з мінулым годам узрасла на 7 проц., а пад ільном і каноплямі на 55 проц. (кругла).

Соцыялістычны сэктар па пасеўнай плошчы займае амаль што 50 проц. усёй пасеўнай плошчы БССР і гэта сьведчыць аб тым, што і ў БССР, як і ва ўсім СССР, саўгасы, колгасы і МТС сталі галоўнымі вытворцамі збожжавых, тэхнічных і жывёлагадоўчых продуктаў. Значна пасунулася ўперад спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі БССР у напрамку ператварэньня яе з спажывецкай краіны ў краіну вытворчую, у краіну ільну, канапель, малочнай і мясной жывёлагадулі і гародніцтва, чаго патрабаваў ад нас XVI зьезд УсеКП(б) і XIII зьезд КП(б)Б.

Пад сельскую гаспадарку і яе спэцыялізацыю падведзена значная тэхнічная база, як-та: пабудова 30 МТС, 44 ільназаводаў, 3 канапельных заводаў, завоз жняярак, сенакасілак, ільнацерабілак і г. д.

Колектывізацыя на 1-е жніўня дасягнула звыш 42 проц., і колгасьнік у БССР таксама стаў цэнтральнай фігурай зямляробства.

У выніку ўсяго гэтага колгасьнік, як цэнтральная фігура зямляробства, як асноўная і галоўная апора савецкай улады на вёсцы, цяпер атрымлівае магчымасьць, як казаў Ленін, сапраўды шырока, сапраўды ў масавым разьмеры праявіць сябе, як актыўны будаўнік соцыялістычнай гаспадаркі.

Магутная хваля колектывізацыі ў значнай ступені зьмяла са сцэны і працягвае зьмятаць апошнюю сур'ёзную капіталістычную клясу ў нас—кулакоў на вёсцы. Кулацтва як класа ящчэ далёка не зьліквідавана і будзе аказваць шалёнае супраціўленьне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, колектывізацыі, мяняючы формы і мэтоды свайго змаганьня.

Вось гэтыя зьмяніўшыяся гаспадарчыя ўмовы і соцыяльна-клясавыя суадносіны, вялізарнейшай важнасьці і цяжкасьці задачы, якія павінны быць вырашаны ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі, патрабуюць самай рашучай перабудовы партработы на вёсцы, самага настойлівага палепшаньня якасьці работы, якасьці кіраўніцтва і колькас-

нага павялічэньня складу вясковых парторганізацый. Патрэбна нашы мэтоды і прыёмы кіраўніцтва і работы прывесьці ў адпаведнасьць з новымі задачамі, з новымі павышанымі тэмпамі будаўніцтва, з павышанымі запатрабаваньнямі партыйцаў, у адпаведнасьць з зьмяніўшыміся ўмовамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Высунутае т. Сталіным палажэньне адносна „працы па-новаму" датычыцца ўсіх організацый і ўстаноў, а ня выключна працаўнікоў народнай гаспадаркі. Яно ў роўнай меры датычыцца і вясковай партыйнай організацыі, якая па сваёй колькасьці, якасьці, формах і мэтодах работы значна адстае ад сучасных задач і тэмпаў будаўніцтва. А сэнс усёй перабудовы павінен заключацца ў тым, каб павярнуцца тварам да вытворчасьці і организацыйна перабудавацца па вытворчым прынцыпе і на гэтай падставе колькасна і якасна ўзмацніць парторганізацыю так, каб яна была баяздольна і магла пасьпяхова вырашаць усе задачы па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Умовы для гэтага ёсьць і яны павінны быць выкарыстаны. Гэта—налічча саўгасаў, МТС з вялікай колькасьцю рабочых з салідной вытворчай практыкай і тэхнічнай базай. Гэта—налічча буйных колгасаў і 42 проц. колектывізацыі на 1 жніўня 1931 г., гэта-налічча ў колгаснай вёсцы моцных, таленавітых, праверапых беспартыйных кадраў, якія гатовы пакласьці галовы за справу колектывізацыі (Постышаў).

Аб'яднаньне раскіданых і часта вельмі слабых вясковых ячэек навокал апорных пунктаў нашай соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі—саўгасаў, МТС і буйных колгасаў, якія маюць свае моцныя ячэйкі, узмоцніць пролетарскі ўплыў на вясковую парторагнізацыю, сконцэнтруе і зьвяжа ячэйкі вёскі навокал значных гаспадарчых і соцыялістычных адзінак, наблізіць іх да вытворчасьці, складзе ўмовы для больш хуткага і якасна лепшага росту партыі. Парткомы, організаваныя пры гэтых апорных пунктах, павінны выкарыстаць іх, як крыніцы павялічэньня росту партыі, пролетарскага ўплыву, культуры і дапамогі акаляючым колгасам, вёскам, як крыніцы практыкі і кіраўніцтва соцыялістычнай перабудовай вёскі

Што-ж у гэтым напрамку робіцца раённымі партыйнымі організацыямі?

## Койданаўскі раён паказвае прыклады

Койданаўскі РК КП(б)Б пры буйнейшых саўгасах, дзе маюцца партыйныя ячэйкі, організаваў 4 парткомы. Партком аб'ядная ня менш 35 комуністаў некалькіх акаляючых ячэек колгасаў і с/с. За кароткі час свайго існаваньня яны даказалі сваю жыцьцёвасьць. Партком пры саўгасе імя Сталіна правёў сход усіх комуністаў, аб'яднаных ячэек на адным з вучасткаў саўгасу, дзе маецца цэхавая ячэйка, і былі абгавораны пытаньні сенаўборкі, падрыхтоўкі да ўборкі ўраджаю. Абмяняліся практыкай сваёй працы і гэтым палажылі пачатак ліквідацыі той абмежаванасьці, акая яшчэ існуе і на сёнешні дзень паміж колгасамі, саўгасамі і с/с ячэйкамі. Партком па жаданьні насельніцтва організаваў выступленьні польскага тэатру, перавёў на польскую мову работу аднаго сельсавету і наладжвае абслугоўваньне польскага насельніцтва па ўсіх установах на роднай мове. Цяпер наладжваецца соцыялістычная ўзаемадапамога больш пасьпяваючых саўгасаў, колгасаў і вёсак адстаючым. Некаторыя парткомы буйныя саўгасныя і колгасныя ячэйкі рэорганізуюць у цэхавыя, організуючы іх пры адной якой-небудзь галіне с-г. ці пры падсобных гаспадарках (базах) саўгасу.

Адным словам, Койданаўскі раён знаходзіцца на шляху да сапраўднай перабудовы партработы і прыстасаваньня яе да задач соцыялістычнай будоўлі на вёсцы. Таму не выпадкова ён выканаў плян сенаўборкі ў тэрмін, датэрмінова рэалізаваў пазыку на вёсцы і стаў першым у БССР раёнам суцэльнай колектывізацыі.

Зусім інакш абстаіць справа з перабудовай і зьместам працы вясковых парторганізацый па Барысаўскім раёне.

### Барысаўскі раён паказвае як ня трэба перабудоўвацца

Барысаўскі раён ня выканаў пастановы ЦК КП(б)Б аб давядзеньні проценту колектывізацыі да 35 вясной 1930 г. і на 10 ліпеня раён мае 26 проц. колектывізацыі. Зацягнулася ўборка сенажаці. Рэалізацыя пазыкі на вёсцы да 15 ліпеня была амаль што не разгорнута. Зьдзельшчына ў колгасах як належыць не організавана, а дзе і лічыцца, то больш на паперы, чым на справе, бо брыгады дзеляць працадні пораўну.

Усё гэта тлумачыцца не об'ектыўнымі прычынамі, а галоўным чынам, адсталасьцю партыйна-масавай і гаспадарчай работы па раёне, не наладжанасьцю конкрэтнага і практычнага кіраўніцтва парт'ячэйкамі. Раённая друкаваная газэта на працягу трох месяцаў не зьмясьціла ніводнай заметкі і пастановы аб перабудове партработы на вёсцы і не дапамагла партыі ў гэтым напрамку.

Да організазацыі парткомаў пры саўгасах, МТС і буйных колгасах, дзе маюцца парт'ячэйкі, згодна дырэктыў ЦК, Барысаўскі раён падышоў формальна. У вынку гэтага з 5 сельпарткомаў толькі адзін організаваны пры саўгасе „Палелюм“, а ўсе астатнія пры с/с. ячэйках у с/с. асяродку, не па вытворчым прынцыпе, а па тэрыторыяльным. Утварылася пагроза, што гэтыя сельпарткомы стануць падрайкомамі ці былымі валкомамі, ці проста перадатачнымі пунктамі партыйных дырэктыў ад РК у ячэйкі, бо яны ня маюць у сябе пад рукою той апоры, той базы, з якой можна было чэрпаць партыйную гаспадарчую і вытворчую практыку і пераносіць у акаляючыя больш слабыя ячэйкі і колгасы.

Ячэйкі і парткомы не зрабілі яшчэ таго, што маглі зрабіць, асабліва ў сэнсе правільнай расстаноўкі партыйных сіл і набліжэньня іх да вытворчасьці.

У Зэмбіне існуе местачковая ячэйка пры савеце, налічвае больш 30 комуністаў і складаецца, галоўным чынам, з комуністаў акаляючых колгасаў, саўгасу, прамарцелі, коопэрацыі і некалькіх савецкіх работнікаў. Напрашваецца пытаньне, для чаго патрэбна зьбіраць комуністаў у адну ячэйку, адарваную ад вытворчай базы, і гэтым самым паслабляць партыйны нагляд і работу ў самых колгасах, саўгасе, коопэрацыі і прамарцелях, калі пры кожным з гэтых пунктаў можна мець сваю самастойную ячэйку, якая-б штодзенна была зьвязана з вытворчасьцю колгасу і саўгасу, адказвала-б за партмасавую работу ў іх і падвышала-б ролю кожнага комуніста ў паасобку.

Другі прыклад датычыцца ўменьня ўхватвацца за асноўныя мерапрыемствы і зьмест работы. Кішына-Слабадзкая ячэйка і партком па водгуках працуюць нядрэнна, але самага асноўнага, галоўнага яны не зрабілі, не ўзмацнілі колгас на падставе ўвядзеньня зьдзельшчыны і пастаноўкі там партыйна-масавай работы.

Пад самым бокам у ячэйкі існуе з 1924 г. колгас, аб'ядноўвае 52 гаспадаркі, вельмі добры соцыяльны склад, многа батракоў і беднякоў туды ўлілося, а ў гэтым колгасе няма сапраўднай зьдзельшчыны,

зусім адсутнічае соцспаборніцтва, вучот працы не закончаны і кніжкі ня выданы, не ліквідавана абязьлічка, ня было праведзена ніводнага сходу аб падпісцы на пазыку. Колгас плоціць пастуху за пасьбу кароў, якія знаходзяцца ў прыватным карыстаньні, і шмат іншых недахопаў мае. І ня дзіва, што пры такой абстаноўцы зацягваецца ўборка і няма значнага прыліву ў колгас. Глеба для вярбоўкі ў партыю і організацыі ячэйкі пры колгасе ёсьць, але яна не скарыстана.

Праўда, за зьнішчэньне недахопаў і выпраўленьне памылак у перабудове партработы на вёсцы рашуча ўзяўся РК КП(б)Б і ёсьць упэўненасьць, што ў хуткім часе перабудова і сама партмасавая работа будзе пастаўлена на належную вышыню і прыведзена ў адпаведнасьць з сучаснымі задачамі, і вясковая організацыя якасна і колькасна будзе ўзмоцнена.

Мэты сваёй мы дасягнем тады, калі перабудова партработы будзе праведзена не формальна, не абмяжуецца толькі стварэньнем парткомаў, якіх у нас цяпер налічваецца больш 75, а будзе паглыблена і падпарадкавана пасьпяховаму выкананьню задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі і дырэктыў партыі. А для гэтага патрабуецца наступнае:

### Правільна расставіць партсілы і павялічыць іх колькасьць

Шляхам правільнай расстаноўкі сіл і падвышэньня вядучай ролі комуністаў трэба дабіцца ахопу партыйным уплывам і кіраўніцтвам усіх больш-менш важнейшых вучасткаў вытворчасьці і работы на вёсцы. Ніводнага вучастку работы, хаця-б маленькага, не павінна быць, дзе-б мы ня мелі свайго партыйнага вока. Перакінуць і разьмеркаваць партыйцаў трэба так, каб кожны саўгас, МТС і колгас меў ці парт'ячэйку і комсамольскую ячэйку абавязкова, ці партгрупу ці кандыдацкую групу ці пастаяннага прымацаванага партыйца, які-б адказваў за становішча колгасу, забясьпечыць кожную брыгаду, колёну, вучастак, падсобную гаспадарку, коопэратыў, сталоўку ўнутры саўгасу і колгасу ці партгрупай, ці парторганізатарам.

Цэлы рад фактаў паказвае, што калі мы так расстаўляем сілы, дык ужо праз некалькі дзён работа паляпшаецца і даручаныя ім пляны пачынаюць перавыконвацца.

Уступленьне ў пэрыод соцыялізму патрабуе таксама шырокага разгортваньня і новых мэтодаў масавай работы, для якіх пашырыліся ўмовы і выраслі новыя кадры, а разам з імі выраслі і новыя запатрабаваньні да масавай работы.

### Шырэй фронт масавай работы на палёх і сярод беднаты

Неабходна разгарнуць ударную масавую растлумачальную работу. Пытаньні зьдзельшчыны і вучоту, разьмеркаваньня ўраджаю і даходаў па працаднёх павінны стаць цэнтральным пунктам дня ўсіх ячэек, вытворчых нарад, жаночых сходаў, брыгад, зьлётаў ударнікаў і г. д.

Работа політасьветсеткі на час уборачнай кампаніі павінна быць вынесена ў поле, у брыгаду. Пры кожнай брыгадзе і трактарным атрадзе організаваць культлітпункты, снабжэньне бібліотэкай-перасоўкай, часопісамі і газэтамі, па магчымасьці музыкальнымі інструмантамі і абслугоўваньнем з боку кіно-перасовак.

Хатнікі, чырвонакутнікі, культармейцы і селькоры павінны непасрэдна ўключыцца ў баявую працу па правядзеньні ўборкі і прасунуць у брыгаду шматтыражкі і насьценныя газэты.

Праз організацыю грамадзкага харчаваньня, шырокую сетку яськяй і пляцовак аслабаніць ад гэтай работы жанчын і падлеткаў і даць гэтым самым магчымасьць гэтай вялікай арміі выйсьці на работу ў поле, разгарнуўшы асабліва сярод іх масавую работу.

Мэтод соцспаборніцтва колгасу з колгасам ці саўгасам, брыгады з брыгадай, групы з групай, а асабліва мэтод індывідуальнага соцспаборніцтва павінен быць скарыстаны, і ахапіць ім усіх колгасьнікаў у іх штодзеннай рабоце.

Мэтод соцыялістычнай узаемадапамогі, калі перадавыя колгасы падсабляюць больш слабым і адстаючым, таксама трэба шырока распаўсюдзіць. Прэміяваньне лепшых адкладваць нельга, а трэба праводзіць тут-жа ў час работы, бо інакш зьніжаецца эфэкт прэміяваньня.

Трэба ўдарыць па тых, хто ўжо пачынае работу з беднатой здаваць у архіў. Па-бальшавіцку організаваць работу з былымі і сучаснымі батракамі і беднатой. „Толькі чуждыя УсеКП(б) і УсеЛКСМ элемэнты могуць ігнораваць гэтую карэнную задачу партыі, задачу самастойнай організацыі бедняты і батрацтва на вёсцы“, так адзначыў ЦК УсеКП(б) пры праверцы выкананьня пастаноў XVI Зьезду партыі. Як па-за колгасам, так і ўнутры колгасу работа з беднатой павінна быць узмоцнена, бо ад організаванасьці і сьвядомасьці бедняты залежыць і ход колектывізацыі, і ход барацьбы з кулацтвам, і паводзіны серадняка ў колгасе, а асабліва аднаасобніка, а таксама правядзеньне ўсіх гаспадарчых і політычных кампаній.

На падставе пасьпяховага выкананьня плянаў уборкі, устанаўленьня правільных прынцыпаў разьмеркаваньня ўраджаю, організацыі чырвоных сватоў, вярбовачных брыгад, справаздач перад аднаасобнікамі і належнай організацыі політычна-масавай работы на вёсцы,— парткомы і ячэйкі павінны ўзьняць новую хвалю прыліву ў колгасы з такім разьлікам, каб да вясны 1932 г. было колектывізавана ня менш 75 проц. усіх сялянскіх гаспадарак БССР і ў 1932 г. у асноўным праведзена суцэльная колектывізацыя ў БССР і на гэтай аснове лёквідацыя кулацтва як клясы.

Парткомы і ячэйкі, найлепш перабудаваўшыя сваю работу, а асабліва політычна-масавую і прапагандысцкую, павінны быць прэміяваны з боку ЦК КП(б) і РК КП(б)Б, а горшыя занесены на чорную дошку ў пачатку зімы.

Партыйныя і комсамольскія організацыі павінны пакончыць з недаацэнкай перабудовы работы і па-баявому ўзяцца за вырашэньне гэтай неадкладнай задачы.

Для падвышэньня вядучай ролі комуністаў ячэйкі і партгрупы пры саўгасах, колгасах і брыгадах павінны ажыцьцяўляць штодзенны контроль і інструктаваньне комуністаў шляхам соцыялістычных самасправаздач комуністаў на агульных сходах усёй брыгады аб сваёй рабоце і яе палепшаньні, шляхам саправаздач комуністаў на агульных партыйных сходах, асабліва аб сваёй рабоце на вытворчасьці ў полі. Гэта дапаможа комуністам ня толькі зразумець у асноўным сваю ролю на вытворчасьці, але і зразумець свае конкрэтныя абавязкі. Соцыялістычныя самасправаздачы павінны быць так абстаўлены, каб яны дапамагалі кожнаму зразумець, што яму патрэбна рабіць кожны дзень, у кожным асобным выпадку, каб яны з кожным днём усё больш і больш падвышалі адказнасьць кожнага комуніста за даручаную работу.

Правільная расстаноўка сіл і забесьпячэньне кожнага вучастку работы партыйцамі ўпіраецца ў такі факт, што наша вясковая парторганізацыя якасна і колькасна слаба.

Каб зьліквідаваць гэты недахоп, умовы ўжо маюцца. Трэба завербаваць у партыю рабочых-ударнікаў саўгасаў і МТС, а таксама перадавых колгасьнікаў, праверaных у барацьбе за колектывізацыю, у барацьбе з кулацтвам, якіх цяпер налічваецца ў БССР некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Адначасова трэба наладзіць справу з афармленьнем прыёму ў партыю, перавод з кандыдатаў у члены і работу з кандыдатамі, якія амаль што складаюць палову нашай вясковай організацыі.

### Афармленьне прыёму і пераводу скараціць да 20 дзён

Усім вядома, як агідна і доўга праходзіць афармленьне прыёму ў кандыдаты і перавод у члены. Як часта анкеты і заявы губляюцца ці залежваюцца па некалькі месяцаў, а людзі, якія падалі іх, зусім не бяруцца пад партыйны догляд і не прыцягваюцца да работы. Не дачакаўшыся адказу, падаўшыя заявы пачынаюць пранікацца настроямі, што іх ня хочуць прыняць, што імі ня цікавяцца, і адыходзяць ад партыі і нават расчароўваюцца. Ня лепш пастаўлена і партыйна-выхаваўчая работа з кандыдатамі, а калі і праводзіцца, дык з рук вон дрэнна.

Трэба партыйным ячэйкам і РК у самы кароткі тэрмін перагледзець усіх кандыдатаў з пратэрмінаваным стажам з мэтай пераводу ў партыю і забесьпячэньня іх больш поўным абслугоўваньнем партработай і нагрузкай.

Адначасова перагледзець раней паданыя заявы аб уступленьні ў партыю, забясьпечыўшы сваячасовае афармленьне прыёму, вучот і ахоп уплывам і работай тых, якія па тых ці іншых меркаваньнях ня могуць быць прыняты цяпер. Устанавіць абавязковым правілам, каб тэрмін афармленьня ад падачы заявы да афармленьня прыёму ў кандыдаты ці пераводу ў члены ва ўсіх інстанцыях працягваўся ня больш 20 дзён.

### Выхоўваць кандыдатаў

Дзе ёсьць 5 кандыдатаў — організаваць школы, дзе менш — праводзіць сапраўднае, а не папяровае прымацаваньне моцных членаў партыі для палітвучобы з кандыдатамі. Вучобу з кандыдатамі цесна ўвязаць з практычнымі задачамі сучаснага будаўніцтва колгасаў і саўгасаў, каб вучоба садзейнічала стварэньню з кандыдатаў прыкладных работнікаў, ударнікаў нашай соцыялістычнай будоўлі як у полі, так і ў двары, стойкіх барацьбітоў за генэральную лінію партыі. Для гэтага трэба культпропу ЦК КП(б)Б наладзіць выданьне належнай літаратуры, падрыхтаваць і даць належныя кадры пропагандыстаў.

### Барацьба за зьдзельшчыну і соцспаборніцтва ў саўгасах, МТС і колгасах — галоўная задача

У кожны адрэзак часу, выходзячы з мясцовых умоў, трэба ўмець выбраць і ўхапіцца за тое цэнтральнае зьвяно, як казаў тав. Ленін, якое-б забясьпечыла пасьпяховае выкананьне ўсіх галоўных задач, якое-б не дало патануць у тэй вялікай колькасьці пытаньняў і задач, якія стаяць перад кожнай ячэйкай і парткомам.

На сучасны пэрыод такой галоўнай задачай зьяўляецца замацаваньне і організацыя работы існуючых саўгасаў, МТС і колгасаў і на

гэтай падставе змагацца за суцэльную колектывізацыю і на яе аснове ліквідацыю кулацтва як клясы; барацьба за перавыхоўваньне колгасьнікаў у сапраўдных социялістычных работнікаў; барацьба за ўсваеньне тэхнікі.

Больш конкрэтна, гэта значыць на падставе зьдзельшчыны і ліквідацыі абязьлічкі, організоўваць сваячасовую і якасна добрую ўборку ўраджаю, абмалот, уборку і папярэднюю апрацоўку тэхнічных культур, сілосаваньне кармовых культур, будаўніцтва складаў, майстэрань, хлявоў, прадпрыемстваў па апрацоўцы продуктаў сельскай гаспадаркі і г. д., што дасьць магчымасьць сваячасова выканаць загатоўкі і паглыбіць справу спэцыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі. Такім чынам, організацыя зьдзельшчыны і ахоп ёю ўсіх работ, організацыя соцспаборніцтва вырашаюць пасьпяховае выкананьне ўсіх кампаній, што дасьць магчымасьць сваячасова выканаць і вырашыць вялізарнейшыя задачы нашай пяцігодкі, закончыць у асноўным суцэльную колектывізацыю ў БССР у 1932 г.

### За якую зьдзельшчыну павінны змагацца парткомы і ячэйкі

Шмат пішацца рэзолюцый аб увядзеньні зьдзельшчыны, шмат аб ёй гавораць на сходах і ў прыватных гутарках, а сапраўдная зьдзельшчына мала дзе ўжываецца. Ураўнілаўка яшчэ сядзіць мацней, чымся зьдзельшчына. „Дальбог“, калі прымусіць людзей, якія агітуюць за зьдзельшчыну, падрабязна і практычна расказаць і паказаць, як правесьці зьдзельшчыну, дык шмат хто з іх гэтага ня зробіць. У гэтым наша бяда. Трэба выканаць словы тав. Сталіна, што „трэба ня толькі агітаваць, але і разумець справу“.

Для таго каб правільна організаваць зьдзельшчыну парткомам, ячэйкам, кожнаму комуністу і комсамольцу трэба забясьпечыць тыя неабходныя ўмовы, без якіх яна ня можа быць праведзена.

Першай і асноўнай ўмовай організацыі зьдзельшчыны зьяўляецца *ліквідацыя абязьлічкі.* Партыйцы і комсамольцы павінны дабіцца таго, каб у кожным колгасе было праведзена прымацаваньне да брыгад, груп і паасобных колгасьнікаў вызначаных машын, інвэнтару, рабочай жывёлы на ўвесь час работы. За кожнай брыгадай патрэбна замацаваць пэўны вучастак. Лепш усяго будзе, калі ёй вызначаць той вучастак, на якім яна праводзіла сяўбу. Гэта складае неабходныя прадпасылкі для падвышэньня гаспадарчай адказнасьці за праводзімую работу, палепшыць адносіны працаўнікоў да машын, жывёлы, да іх захоўваньня, павысіць якасьць работы і складзе ўмовы для правядзеньня сапраўднай зьдзельшчыны.

*Складаньне рабочых плянаў, норм выпрацоўкі і расцэнак,* давядзеньне іх да кожнага колгасьніка, да кожнай брыгады — другая неабходная ўмова для правядзеньня зьдзельшчыны. Партыйцам і комсамольцам патрэбна змагацца за павышэньне норм выпрацоўкі, за ўшчыльненьне рабочага дня, выступаць супроць разбазарваньня рабочай сілы і вельмі нізкіх норм. Абгаварэньне норм, а разам з гэтым і рабочых плянаў уборкі, павінна быць абстаўлена так, каб выклікала хвалю *сустрэчных плянаў* і каб кожны колгасьнік у процэсе гэтага ведаў, колькі ён павінен выпрацаваць за пэўны час і ў колькі працадзён гэта праца ацэньваецца.

Апошняй умовай, неабходнай для правядзеньня зьдзельшчыны, будзе зьяўляцца *правільна наладжаны вучот.* Вывучэньне тэхнікі вучотнай справы зьяўляецца партыйным абавязкам кожнага партыйца-

колгасьніка. Паставіць вучот так, каб кожны колгасьнік ведаў, колькі працадзён ён выпрацаваў за мінулы дзень і мог бачыць, як ён выпрацоўвае сваю норму. Правільна пастаўлены вучот дапаможа зьдзельшчыне і правільнаму і сваячасоваму разьмеркаваньню ўраджаю і даходаў у колгасе. А цяпер паўстае пытаньне: *якая-ж нам зьдзельшчына патрэбна?* У друку, у рэзолюцыях, на сходах і ў прыватных гутарках многія ламаюць голаву над тым, якая-ж нам зьдзельшчына патрэбна, ці брыгадная, ці групавая, ці індывідуальная, супроцьстаўляючы адну форму другой. А іншыя брыгадную і групавую зьдзельшчыну лічаць адным і тым-жа. А як на самой справе павінна быць?

*Нам не патрэбна групавая і брыгадная зьдзельшчына, якая аснована на ўраўнілаўцы.* Гэта будзе формальнае правядзеньне зьдзельшчыны. Ні ў якім разе ня можна дапушчаць, каб выпрацаваныя брыгадай дні разьмяркоўваліся пораўну паміж членамі брыгады бяз уліку кваліфікацыі, якасьці і колькасьці работы кожнага колгасьніка. Нават у аднэй групе, якая складаецца з аднэй кваліфікацыі (касары, снопавязальнікі і г. д.), адзін можа працаваць хутчэй, браць пакос шырэй і якасьць яго работы другая, і дзяліць пораўну паміж імі выпрацаваныя брыгадай ці групай працадні будзе няправільным.

Цяпер пераходжу да пытаньня аб тым, якая розьніца і сувязь паміж рознымі формамі зьдзельшчыны і ці можна іх супроцьстаўляць?

*Брыгадная* зьдзельшчына будзе тады, калі брыгада атрымае ад праўленьня плян працы на апрацоўку вызначанага вучастку ўраджаю, прычым указваецца тэрмін працы і ацэнка якасьці яе, якая выражана ў пэўнай суме працадзён.

*Групавая зьдзельшчына* будзе тады, калі група аднэй кваліфікацыі (падвозчыкі, касары, снопавязальнікі, падбіральнікі бульбы і г. д.) атрымлівае ад брыгадзіра рабочае заданьне прарабіць тую ці іншую работу, выходзячы з агульнага брыгаднага пляну, прычым ёй даецца таксама вызначаны тэрмін і ацэнка даручанай работы, якая выражана ў працаднёх.

Разьмеркаваньне-ж выпрацаваных у брыгадзе ці групе працадзён паміж членамі брыгады ці групы на падставе індывідуальнага вучоту якасьці і колькасьці затрачанай работы кожным колгасьнікам і будзе зьяўляцца *індывідуальнай зьдзельшчынай.* Значыць, павінна быць прынята пад увагу складанасьць, цяжкасьць работы і кваліфікацыя кожнага колгасьніка паасобку.

Гэтым самым індывідуальная зьдзельшчына зьяўляецца ня чым іншым, як састаўным элемэнтам і — больш таго — асновай брыгаднай і групавой зьдзельшчыны. Адсюль і вывад, што нам патрэбна такая брыгадная ці групавая зьдзельшчына, пры якой улічваецца колькасьць і якасьць работы кожнага колгасьніка паасобку. За такую зьдзельшчыну і павінны змагацца партыйцы. Так падрабязна застанавіліся мы на гэтым таму, што тут больш усяго непаразуменьняў і што гэта зьяўляецца галоўным зьвяном у нашай рабоце ня толькі ў сельскай гаспадарцы, але і ў прамысловасьці.

Адпаведна з сучаснымі ўмовамі і задачамі павінна быць перабудавана культурна-пропагандысцкая і масавая работа партыі на вёсцы.

### Культурна-пропагандысцкую і масавую работу на новыя рэйкі

Вучобу патрэбна цесна ўвязаць з практычнымі задачамі саўгасу, МТС і колгасу так, каб партвучоба садзейнічала стварэньню з партыйцаў і комсамольцаў прыкладных працаўнікоў у полі, у двары і ў майстэрні саўгасу і колгасу, перадавых ударнікаў, стойкіх бараць-

бітоў за генэральную лінію партыі. На гэтай падставе павінна быць узьнята якасьць вучобы, разгорнута соцспаборніцтва паміж школамі і гурткамі, організавана інформацыя аб становішчы работы паміж школамі і гурткамі, організавана інформацыя аб становішчы работы саўгасаў, МТС і колгасаў і ходзе колектывізацыі ў сельсавеце, па раёне і г. д. у школах. Партвучоба ў першую чаргу павінна быць накіравана на падвышэньне політычнай пісьменнасьці актыву і радавых партыйцаў, каб гэтым самым падвысіць іх баяздольнасьць.

Організаваць пры парткомах курсы для актыву, сталыя бібліотэкі, не пашкадаваўшы на гэта грошай, організаваць шырока курсы і гурткі па аўладаньні агротэхнікай і машынізацыяй сельскай гаспададаркі.

Адным словам, цяпер, калі партыя робіць паварот вясковай парторганізацыі тварам да с-г. вытворчасьці, да брыгады, колёны і групы, партыйная асьвета яшчэ больш павінна ўвязвацца з вытворчымі задачамі і вывучэньнем тэхнікі.

Бязумоўна, перабудова партработы сустрэне на сваім шляху многа цяжкасьцяй. Іх патрэбна з бальшавіцкай упартасьцю і настойлівасьцю перамагаць.

Правыя „тэорэтыкі“ і практыкі будуць крычаць „што да перабудовы партработы прыступім тады, калі скончым кампаніі, ліквідуем прарывы, а цяпер можна пачакаць“.

„Левыя“ будуць „даводзіць“, што наша парторганізацыя аполітычна, зусім небаяздольна, што саўгасы, колгасы і МТС не зьяўляюцца соцыялістычнай вытворчасьцю і ня могуць служыць апорнымі пунктамі партыйнай работы на вёсцы і будуць мэханічна, няўважліва адносіцца да перабудовы без належнай падрыхтоўкі. Барацьба на два фронты — супроць правых, як галоўнай небясьпекі, і „левых“ опортуністаў, двурушнікаў і прымірэнцаў, якія блёкуюцца супроць правядзеньня партыйных рашэньняў і ґенэральнай лініі партыі — найважнейшае пытаньне, якое парткомы і ячэйкі павінны ўлічыць пры перабудове парторганізацыі і яе работы на вёсцы.

---

А. Градэцкі

# Баявая пастаноўка партработы — ключ да пасьпяховай перабудовы спажывецкай коопэрацыі

У змаганьні за высокія тэмпы соцыялістычнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі роля спажывецкай коопэрацыі надзвычайна вялікая і адказная. Справіцца з выкананьнем гэтай ролі, на справе поўнасьцю выканаць тыя абавязкі, якія на яе ўскладзены партыяй і рабочай клясай, спажывецкая коопэрацыя зможа толькі пры рашучай перабудове ўсёй сваёй дзейнасьці. Партыя і савецкі ўрад у сваёй майскай адозьве далі разгорнутую праграму гэтай перабудовы, конкрэтна вызначыўшы напрамак, па якім павінна разьвівацца спажывецкая коопэрацыя Савецкай краіны.

Прайшло больш 3-х месяцаў з часу апублікаваньня адозвы СНК СССР, ЦК УсеКП(б) і Цэнтрасаюзу аб перабудове спажывецкай коопэрацыі. Тэрмін досыць значны. Ён дае поўнае права паставіць пытаньне:

— Як-жа ў адпаведнасьці з дырэктывамі партыі і ўраду перабудоўваецца спажывецкая коопэрацыя БССР, наколькі партыйныя організацыі на мясцох забясьпечылі рэалізацыю тых мерапрыемстваў, якія вызначаны гістарычнай адозвай партыі і ўраду?

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б у сваёй пастанове ад 6 жніўня б. г. аб ходзе перабудовы спажывецкай коопэрацыі БССР констатаваў, што *„праца па перабудове спажывецкай коопэрацыі яшчэ далёка ня скончана. Асабліва нездавальняюча праходзіць разгортваньне раздробнага гандлю па аб'яднаньнях і недапушчальна слаба разгортваецца дадатковая раздробная гандлёвая сетка“.*

*Галінныя аб'яднаньні па розьнічным гандлі,* якія створаны, яшчэ шчыльна не падыйшлі да практычнага ажыцьцяўленьня ўскладзеных на іх задач. Галінныя аб'яднаньні павінны былі выканаць асноўную задачу: *спрасьціць кіраўніцтва гандлем, палепшыць забесьпячэньне спажыўца, наблізіць да яго гандлёвую сетку.* Ці дабіліся гэтага галінныя аб'яднаньні розьнічнага гандлю? Трэба адказаць проста, што не. Яны нават не ахапілі яшчэ сваёй дзейнасьцю тую розьнічную сетку, якую прынялі, ня сталі організуючымі асяродкамі спэцыялізаванага розьнічнага гандлю. Рад галінных аб'яднаньняў не зразумелі сваіх першачарговых асноўных задач. Некаторыя з аб'яднаньняў замест таго, каб па-баявому разгортваць розьнічны гандаль, заняліся гуртавымі опэрацыямі. Захапіўшыся выкананьнем гуртавых функцый, яны ня прымалі мер да ажыцьцяўленьня сваіх непасрэдных задач. Так

справа стаіць з выкананьнем аднэй з важнейшых дырэктыў партыі — з стварэньнем і разгортваньнем работы галінных аб'яднаньняў розьнічнага гандлю.

Партыя дала простую дырэктыву ўсім партыйным, савецкім, гаспадарчым і коопэрацыйным організацыям аб *пашырэньні сеткі розьнічнага гандлю.* Цэнтральны Камітэт КП(б)Б вынёс пастанову аб тым, што на працягу жніўня месяца ў Беларусі *павінна быць адкрыта 260 новых гандлёвых адзінак.* З гэтай колькасьці 70 магазынаў павінна быць адкрыта ў Менску, 45—у Гомелі, 45—у Віцебску, 25—у Магілеве 15—у Воршы, 15—у Барысаве, 25—у Бабруйску і 5—у Мазыры.

Практычная рэалізацыя гэтага важнейшага мерапрыемства па перабудове спажывецкай коопэрацыі адбываецца надзвычай марудна. У радзе месц выкананьне дырэктывы аб пашырэньні гандлёвай сеткі проста ігноруецца. Опортуністычныя элемэнты імкнуцца сарваць пашырэньне сеткі па розьнічным гандлі і гэтым самым падарваць справу забесьпячэньня і абслугоўваньня рабочага спажыўца. Опортуністы, ня бачачы тых вялікіх магчымасьцяй, якія на сёнешні дзень выраслі, заяўляюць: „На што адкрываць новыя магазыны, усё роўна не хапае тавараў. Трэба раней запоўніць таварамі старыя магазыны, а тады думаць аб заснаваньні новых". За гэтымі і падобнымі да іх опортуністычнымі настроямі хаваецца імкненьне падарваць паляпшэньне ў забесьпячэньні рабочых мас, хаваецца грубае ігнараваньне паляпшэньня дабрабыту рабочае клясы. Па гэтых настроях трэба біць самым бязьлітасным чынам. *Ломячы супраціўленьне опортуністаў, партыйныя організацыі павінны ўсе меры ўжыць для таго, каб намечаныя да адкрыцьця магазыны як мага хутчэй увесьці ў строй, паставіць на службу рабочай клясе.*

Пры рэалізацыі дырэктыў партыі аб пашырэньні сеткі розьнічнага гандлю, пытаньне ўпіраецца ў востры недахват *гандлёвых памяшканьняў.* Цэнтральнымі партыйнымі і савецкімі органамі дана строгая дырэктыва ўсім раённым організацыям аб неадкладным аслабаненьні былых гандлёвых памяшканьняў і іх перадачы коопэрацыйным аб'яднаньням. Аднак, ня гледзячы на зусім простыя і выразныя ўказаньні, на мясцох вельмі марудна праводзяць работу па адшуканьні і аслабаненьні гандлёвых памяшканьняў. Некаторыя гарсаветы замест таго, каб практычна падыйсьці да вырашэньня гэтага пытаньня, сваю дзейнасьць зьвялі да вынясеньня пастаноў, абмежаваліся пастаноўкай пытаньня на сваіх пасяджэньнях. Іменна так справа стаіць у *Гомелі, Віцебску, Бабруйску* і ў іншых гарадох. Савецкія органы памянёных раёнаў замест таго, каб ад пачатку да канца ажыцьцявіць тыя дырэктывы, якія далі цэнтральныя органы, супакоіліся на рэзолюцыях, прынятых на пасяджэньнях. У радзе месц не зразумелі таго, што без практычнай конкрэтнай работы станоўчых, рэальных вынікаў не даб'ешся. Справа не ў дэклярацыйнай пастанове, а ў тым, наколькі пабаявому будзе разгорнута практычная работа.

У *Магілеве* да другой паловы жніўня месяца абсолютна нічога ня зроблена ў сэнсе аслабаненьня гандлёвых памяшканьняў і перадачы іх пад новыя магазыны. Характэрна, што партыйныя організацыі і ў першую чаргу іх кіраўніцтва ня ўжылі рашучых мер да тых работнікаў, якія баявую работу па рэалізацыі важнейшай дырэктывы падмянілі гутаркамі і пісанінай. У *Воршы* справа дайшла да кур'ёзаў. Там замест таго, каб разгорнуць работу па забесьпячэньні коопэрацыйных аб'яднаньняў гандлёвымі памяшканьнямі, хацелі аддаць пад

суд старшыню ЦРК за тое, што ён не перадаў свайго гандлёвага памяшканьня якойсьці ўстанове.

Чарговае важнейшае мерапрыемства—гэта *пераход на гаспадарчы разрахунак.* Як на практыцы ажыцьцяўляецца гэта мерапрыемства? Зноў-такі надзвычай марудна. Калі ў радзе месц пераход на гаспадарчы разрахунак і адбыўся, то ў большасьці выпадкаў формальна. Коопэрацыйныя аб'яднаньні яшчэ ня прывыклі працаваць ва ўмовах гаспадарчага разрахунку. Адсутнасьць-жа гаспадарчага разрахунку цягне за сабою страты там, дзе іх не павінна быць. Няма сапраўднага гаспадарчага разрахунку і мы ня бачым рэнтабельнасьці, ня бачым эфэктыўнасьці ў рабоце той або іншай гандлёвай адзінкі.

Нездавальняюча праходзіць і перавод коопэрацыйных работнікаў *на новую сыстэму аплаты працы.* Новая сыстэма аплаты гандлёвых работнікаў прадугледжвае заахвочваньне кожнага асобнага працаўніка да павышэньня продукцыйнасьці працы, да лепшага абслугоўваньня рабочага спажыўца. Між тым, у радзе месц гэта важнейшае мерапрыемства ўкараняецца далёка нездавальняюча. Профэсіянальны саюз коопэрацыйных работнікаў, асабліва яго організацыі на мясцох, мала працавалі ў гэтым напрамку, ня ўжылі рашучых мер па ўвядзеньні новай сыстэмы аплаты працы, якая дае вялікі стымул для паляпшэньня работы коопэрацыйных організацый.

У чым прычыны такой маруднай перабудовы спажывецкай коопэрацыі БССР, дзе прычыны таго, што важнейшыя мерапрыемствы, вызначаныя партыяй, яшчэ не ўкараніліся ў практыку работы нашых коопэрацыйных аб'яднаньняў?

Па-першае, у тым, што рад мясцовых партыйных, савецкіх і профсаюзных організацый формальна падыйшлі да рэалізацыі адозвы ЦК, СНК і Цэнтрасаюзу. Нельга сказаць, што партыйныя організацыі, гарсаветы і райпрофсаветы не займаліся пытаньнямі перабудовы коопэрацыі. Гэтымі пытаньнямі яны займаліся, абмяркоўвалі на сваіх пасяджэньнях, выносілі пастановы. Але разам з гэтым вельмі мала праводзілі практычнай работы. Пастановы мясцовых органаў па пытаньнях перабудовы коопэрацыі ў радзе выпадкаў насілі агульны характар, бяз конкрэтных указаньняў па сутнасьці. І горш за ўсе тое, што ня было сталай праверкі, штодзеннага нагляду за тым, як гэтыя пастановы ажыцьцяўляліся.

Другая прычына заключаецца ў тым, што коопэрацыйны апарат не зразумеў усяго таго вялікага палітычнага значэньня, якое мае перабудова коопэрацыі. Калі перабудова спажывецкай коопэрацыі дайшла да верхавіны, дык усяго апарату зьверху і да нізу яна не пранізала. І больш таго, мы маем рад выпадкаў, калі асобныя работнікі коопэрацыйнага апарату яўна саботуюць правядзеньне важнейшых мерапрыемстваў. У радзе зьвеньняў апарат топчацца на месцы, працуе старымі тэмпамі, сядзіць яшчэ ў палоне консэрватызму і коснасьці. Ёсьць яшчэ ў коопэрацыйнай сыстэме работнікі, якія не змагаюцца за тое, каб коопэрацыйная сыстэма ішла ў ногу з новымі тэмпамі, з новымі формамі і мэтодамі працы.

Гэты саботаж, які праяўляецца з боку асобных работнікаў коопэрацыйных аб'яднаньняў, трэба зламаць, бюрократаў і рутынэраў трэба выкінуць з коопэрацыйнага апарату. Гэта зьяўляецца аднэй з неабходных умоў пасьпяховай перабудовы работы спажывецкай коопэрацыі.

Чарговая прычына тая, што ў работу па перабудове спажывецкай коопэрацыі ня ўцягнуты шырокія рабочыя масы, не наладжаны про-

летарскі контроль за ходам перабудовы. Партыйныя і профсаюзныя організацыі не мобілізавалі вакол гэтай важнейшай задачы шырокую пролетарскую грамадзкасьць, не накіравалі яе актыўнасьць на правядзеньне тых мерапрыемстваў, якія вызначыла партыя.

*Гэтыя ўсе прычыны трэба як мага хутчэй адхіліць! Перабудова спажывецкай коопэрацыі зьяўляецца задачай першаступеннай політычнай важнасьці.* Яна павінна забясьпечыць перамаганьне непаваротлівасьці і бюрократызму, якія яшчэ ёсьць у коопэрацыйнай сыстэме, выкараніць выпадкі замарожваньня таваразвароту, ігнораваньне інтарэсаў спажыўца. Забесьпячэньне рабочых—магутная зброя ў выкананьні прамфінпляну і павышэньні тэмпаў індустрыялізацыі. *Спажывецкая коопэрацыя на аснове перабудовы ў адпаведнасьці з дырэктывамі партыі павінна ўзьняцца на новую ступень, на ступень гібкага савецкага гандлю, павярнуцца тварам да спажыўца, да інтарэсаў вытворчасьці і соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі.*

Партыйныя організацыі павінны шчыльна падыйсьці да вырашэньня гэтай важнейшай на сёнешні дзень політычна-гаспадарчай задачы. Партыйныя камітэты і ячэйкі павінны стаць на чале, у поўным сэнсе гэтага слова,ператварэньня ў жыцьцё адозвы ЦК аб перабудове коопэрацыі. Партыйныя організацыі павінны ўжыць усе меры для таго, каб мобілізаваць масы вакол задач перабудовы коопэрацыі і на гэтай аснове забясьпечыць перал́ом на адказьнейшым вучастку работы. Баявой большавіцкай работай, організацыяй масавага контролю партыйныя організацыі павінны зламаць саботаж опортуністычных элемэнтаў, якія супраціўляюцца перабудове коопэрацыі. Ня толькі заслухоўваньнем дакладаў аб ходзе перабудовы, ня толькі пастаноўкай пытаньняў перабудовы на сваіх пасяджэньнях, а конкрэтнымі мерапрыемствамі партыйныя організацыі павінны дабівацца таго, каб коопэрацыя сапраўды пачала працаваць па-новаму, каб уся яе дзейнасьць была падначалена задачам соцыялістычнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі краіны. Ад раду пытаньняў, на першы погляд дробных, залежыць рэалізацыя важнейшых дырэктыў партыі. Конкрэтна намеціць, у якіх пунктах і колькі адкрыць новых магазынаў, практычна падыйсьці да забесьпячэньня іх памяшканьнямі, прыняць меры для таго, каб гэтыя памяшканьні былі адрамантаваны — вось чым трэба неадкладна заняцца мясцовым організацыям. Толькі пры тэй умове, калі раённыя організацыі конкрэтна возьмуцца за вырашэньне на першы погляд дробных пытаньняў, толькі тады мы атрымаем пэўны зрух у перабудове коопэрацыі, забясьпечым рэалізацыю адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК.

Профэсіянальныя саюзы павінны больш увагі аддаць справе перабудовы спажывецкай коопэрацыі. Побач з мобілізацыяй мас вакол задач перабудовы, профэсіянальныя саюзы павінны шырока разгарнуць змаганьне за ўвядзеньне новай сыстэмы заработнай платы коопэрацыйных работнікаў.

Вышэй мы падкрэсьлівалі, што створаныя галінныя аб'яднаньні розьнічнага гандлю яшчэ не разгарнулі па-баявому сваёй дзейнасьці. Гэта атрымалася ў рэзультаце таго, што партыйныя організацыі на мясцох яшчэ не ахапілі моцным большавіцкім кіраўніцтвам гэтых новых аб'яднаньняў. Трэба неадкладна забясьпечыць іх партыйным кіраўніцтвам, стварыць пры іх партыйныя організацыі, умацаваць кадрамі работнікаў, дабіваючыся, каб яны (гэтыя аб'яднаньні) выразна ажыцьцяўлялі тыя функцыі, якія на іх ускладзены. Галінныя аб'яднаньні разгортваюць у гарадох сваю гандлёвую сетку, яны яшчэ ня ўсюды маюць спэцыяльны апарат, ня маюць вопыту работы—у такі момант

да іх павінна быць асаблівая ўвага, выключная дапамога і нагляд з боку партыйных організацый.

На працягу жніўня сетка розьнічнага гандлю па БССР павінна павялічыцца на 267 адзінак. Ніводнага дня ня трэба прапускаць, а ўсе меры прымаць да таго, каб гэтая колькасьць новых магазынаў на працягу вызначанага тэрміну прыступіла да работы. Прычым разгортваньне сеткі павінна ісьці па лініі максымальнага пашырэньня продуктовага гандлю з большым набліжэньнем яго да фабрык і заводаў. У парадак дня работы спажывецкай коопэрацыі пастаўлена пытаньне аб шырэйшым ахопе бюджэту рабочага, што яшчэ больш павысіць узровень рэальнай заработнай платы рабочых і працоўных мас. У сьвятле ажыцьцяўленьня гэтай задачы вялікае значэньне набывае організацыя коопэрацыйных рынкаў. Нікому не сакрэт, што ў радзе гарадоў прыватнік па асобных галінах гандлю яшчэ адыгрывае пэўную ролю, асабліва калі ўзяць гародніну і інш. Мясцовыя організацыі павінны дабіцца, каб коопэрацыйныя яб'яднаньні праз організацыю рынкаў поўнасьцю выціснулі прыватніка. Праўда, для гэтага патрабуецца рад мерапрыемстваў. Па-першае, трэба нашы рынкі прывесьці ў парадак, адрамантаваць памяшканьні, пабудаваць новыя рундукі. Гарадзкія саветы на гэтую мэту павінны адпусьціць пэўныя сумы грошай і матэрыялы.

Перад коопэрацыйнымі аб'яднаньнямі стаіць задача—ва што-б там ні стала перайсьці на гаспадарчы разрахунак. ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове „*лічыць абавязковым перавод магазынаў з месячным зваротам у 100.000 руб. на поўны гаспадарчы разрахунак, з самастойным контакорэнтным рахункам у Дзяржбанку*“. Разам з гэтым загадчыкам такіх магазынаў надаецца права самастойна праводзіць закупкі тавараў. Гэта падыме якасьць работы гандлёвых адзінак, палепшыць справу абслугоўваньня рабочага спажыўца. *Перавод на новую сыстэму аплаты працы* павінен быць закончаны ў самы кароткі тэрмін.

Партыйныя ячэйкі павінны прыняць усе меры да таго, каб гэтае важнейшае мерапрыемства ператварыць у конкрэтную справу. У даным пытаньні вялікая адказнасьць ускладаецца на саюз коопэрацыйных работнікаў. Профорганізацыі на мясцох павінны паставіць гэта пытаньне ў цэнтры сваёй увагі.

*Пытаньне кадраў* для спажывецкай коопэрацыі ў сувязі з яе перабудовай зьяўляецца актуальнейшым у агульнай суме мерапрыемстваў. Пры організацыі галінных аб'яднаньняў, пры разгортваньні сеткі розьнічнага гандлю мы ўпіраемся ў рэзкі недахват коопэрацыйных работнікаў. Партыйныя ячэйкі, раённыя камітэты партыі і профсаюзы павінны кінуць у коопэрацыйную сыстэму сьвежых людзей, лепшыя сілы з сваіх організацый. Бяз гэтага мы ня зможам поўнасьцю забясьпечыць перабудовы коопэрацыйнай работы. У радзе месц замест таго, каб умацоўваць коопэрацыйныя аб'яднаньні кадрамі работнікаў, наадварот, зьнімаюць работнікаў з коопэрацыі і пасылаюць на другую работу. Падобным фактам недаацэнкі коопэрацыйнай работы трэба палажыць канец. Цэнтральны Камітэт КП(б)Б даў дырэктыву аб мобілізацыі на работу ў коопэрацыю 120 членаў партыі, 300 комсамольцаў. Гэта разьвёрстка мясцовымі організацыямі яшчэ далёка ня выканана. Разам з выкананьнем разьвёрсткі пасылкі работнікаў у коопэрацыйную сыстэму, трэба шырока разгарнуць работу па падрыхтоўцы новых кадраў коопэрацыйных работнікаў; трэба заняцца пытаньнямі зьместу работы тых курсаў і навучальных устаноў, якія гэтыя кадры рыхтуюць. Зьмест работы навучальных устаноў павінен прадугледзець

тыя новыя задачы, тыя асаблівасьці пэрыоду, якія перажывае зараз коопэрацыя і якія патрабуюць ад яе новых форм і мэтодаў работы.

Пасьпяховае ажыцьцяўленьне задач, пастаўленых перад спажывецкай коопэрацыяй, яе карэнная перабудова нямысьлімы без перабудовы партыйнай работы ва ўсіх коопэрацыйных зьвеньнях. Старымі формамі і мэтодамі партработы ні ў якім разе нельга дабіцца баявой і выразнай работы коопэрацыі. У адозьве ЦК УсеКП(б)Б і СНК аб перабудове спажывецкай коопэрацыі гаворыцца: *„для ўзмацненьня партыйнага ўплыву ва ўсіх зьвеньнях спажывецкай коопэрацыі ствараць пры кожным ЗРК цэхавыя парт'ячэйкі з партгрупамі па кожнай асобнай гаспадарчай адзінцы (сталовая, магазын, фэрма і г. д.), якія ўваходзяць у склад парторганізацыі прадпрыемства. На прадпрыемствах, якія ня маюць ЗРК, організаваць парт'ячэйкі пры закрытых разьмеркавальніках. Ва ўсіх буйных і сярэдніх магазынах і складах астатняй сеткі спажывецкай коопэрацыі організаваць самастойныя партыйныя і комсамольскія ячэйкі, падначаленыя непасрэдна райкому, ці гаркому партыі“.*

Наколькі-ж хутка мясцовыя парторганізацыі перабудоўваюць свае рады ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі, наколькі шчыльна яны падыйшлі да выкананьня дырэктыў партыі аб дэцэнтралізацыі партработы, да разбуйненьня існуючых і стварэньня новых ячэек КП(б)Б?

Даводзіцца констатаваць, што некаторыя раённыя парторганізацыі на гэтым адказьнейшым вучастку *работу праводзяць досыць марўднымі тэмпамі.* Надзвычай павольна мяняецца організацыйная пабудова ячэек КП(б)Б у коопэрацыйных аб'яднаньнях. Сярод асобных работнікаў на мясцох, у некаторай частцы нават кіруючых таварышоў пануюць такія настроі:—раней трэба скончыць перабудову коопэрацыйнай сыстэмы, а тады прыступім да рэорганізацыі сеткі коопэрацыйных ячэек КП(б)Б. Падобныя настроі ёсьць ня што іншае, як продукт неразуменьня задач перабудовы коопэрацыі, няўменьне ўхапіцца за галоўнае, асноўнае і вузлавое зьвяно гэтай перабудовы. Падобным настроям трэба даваць самы бязьлітасны адпор. Шырокім колам нізавога партыйнага актыву трэба растлумачыць, што толькі пры ўмове неадкладнай перабудовы партработы мы даб'емся таго, што спажывецкая коопэрацыя пачне працаваць па-новаму, па-баявому. *Перабудова партработы—вузлавая задача, ад практычнага вырашэньня якой залежыць дзейнасьць усіх коопэрацыйных зьвеньняў.* Адставаньня ў рэалізацыі гэтай задачы быць ня можа, бо ўсякае адставаньне цягне за сабой адмоўныя рэзультаты ў перабудове коопэрацыйных організацый.

Вышэйпамянёныя настроі ў пытаньнях перабудовы партработы ня могуць не адбівацца на яе практычным ходзе. Што гэта іменна так, гаворыць хаця-б тое, што частка партыйных організацый толькі ў апошні час прыступіла да рэорганізацыі коопэрацыйных ячэек КП(б)Б, да стварэньня новых у пашыранай коопэрацыйнай сетцы. Пры гэтым нельга абыйсьці моўчкі таго, што рад раённых парторганізацый у гэтай рабоце дапусьцілі памылкі, сказілі партыйныя дырэктывы. У Менску замест таго, каб неадкладна прыступіць да організацыі самастойных ячэек КП(б)Б з непасрэдным падпарадкаваньнем гаркому, імкнуліся організаваць аб'яднаную ячэйку раду магазынаў з непасрэдным падпарадкаваньнем партколектыву Белкоопсаюзу. У Воршы пры ЦРК партыйная ячэйка налічвае ў сваім складзе 19 чалавек. У яе ўваходзяць партыйцы, якія працуюць у розных магазынах гораду, у складах і г. д. Падобныя скажэньні партыйных дырэктыў наглядаюцца і па

радзе ЗРК. Партгрупы пры сталовых, складах і г. д. не арганізаваны. У некаторыя парт'ячэйкі ЗРК уваходзяць партыйцы, якія ня маюць ніякіх вытворчых адносін да ЗРК.

Гэтыя і падобныя ім памылкі зьявіліся простым рэзультатам неразуменьня зусім выразнай і яскравай дырэктывы партыі. *Цэнтральны Камітэт КП(б)Б ужыў меры да рашучага выпраўленьня гэтых памылак,* і яны не павінны паўтарацца. Дырэктывы партыі аб стварэньні парт'ячэек пры магазынах, ЗРК, сталовых, базах і г. д. неабходна выканаць да канца і поўнасьцю. Ніякай блытаніны, ніякага прамядленьня не павінна быць у гэтай важнейшай рабоце.

У практычнай рабоце партрогранізацыі ў некаторых асобных выпадках сустрэнуцца з абставінамі, якія не дазволяць пры ўсіх коопэрацыйных адзінках арганізаваць парт'ячэйкі (раскіданасьць коопэрацыйных адзінак, наяўнасьць аднаго-двух членаў партыі і г. д.). Такога характару выключэньні могуць быць. У такіх выпадках, як часовае мерапрыемства, можна некалькі магазынаў аб'яднаць аднэй ячэйкай, палажыўшы ў аснову вытворчы прынцып. Але па меры таго, як колькасьць комуністаў у гэтых магазынах павялічыцца, і калі ў іх будзе ня менш 3-х членаў партыі, трэба *адразу-ж ствараць самастойныя партыйныя ячэйкі.* Аднячасова ў магазынах і другіх коопэрацыйных арганізацыях трэба шырока практыкаваць разгортваньне сеткі *парторганізатараў,* дабіваючыся таго, каб кожны комуніст, які працуе ў той або іншай коопэрацыйнай адзінцы, зьяўляўся адказным за работу гэтай адзінкі перад партыйнай ячэйкай і выконваў ролю прадстаўніка ячэйкі КП(б)Б у гэтым магазыне.

Работа па перабудове партыйных ячэек выявіла рад недахопаў у расстаноўцы партыйных сіл і досыць малую праслойку комуністаў і комсамольцаў у нізавых зьвеньнях коопэрацыі. Правільная расстаноўка партыйных сіл адыграе вялікае значэньне ў пашырэньні магчымасьцяй арганізацыі самастойных ячэек пры магазынах і другіх коопэрацыйных адзінках.

*Скарыстоўваючы ўсе магчымасьці, партыйныя арганізацыі на мясцох павінны ў самы кароткі тэрмін шырока разгарнуць сетку парт'ячэек у спажывецкай коопэрацыі. Там, дзе ёсьць у наяўнасьці ня менш 3-х членаў партыі, там, як правіла, павінна быць створана самастойная ячэйка.*

З першых-жа дзён работы самастойных новаарганізаваных ячэек КП(б)Б у сетцы спажывецкай коопэрацыі над імі павінна быць забясьпечана конкрэтнае, опэрацыйнае кіраўніцтва з боку раённых камітэтаў партыі. Справа арганізацыі кіраўніцтва з боку раённых камітэтаў КП(б)Б коопэрацыйнымі ячэйкамі павінна прыкаваць да сябе ўвагу ўсіх райкомаў. Конкрэтызуючы і дыфэрэнцуючы кіраўніцтва ўсёй работай у раёне, райкомы павінны асобна кіраваць ячэйкамі КП(б)Б у коопэрацыі. Тым больш, што гэтыя ячэйкі ня маюць багатага вопыту ў рабоце. Гэты вопыт трэба здабыць, трэба нашчупаць тыя пытаньні, якія ў першую чаргу павінны заняць увагу коопэрацыйных ячэек. *Бяз жывога, опэрацыйнага кіраўніцтва коопэрацыйныя ячэйкі ня здолеюць кіраваць як перабудовай коопэрацыі, так і замацаваньнем гэтай перабудовы.* Неабходна ў адносінах інструктаваньня коопэрацыйных ячэек стаць на шлях непасрэднага жывога інструктаваньня на месцы—у магазыне, на базе, складзе і г. д. Усе райкомы для ажыцьцяўленьня гэтага мерапрыемства могуць шырока практыкаваць стварэньне інстытуту па-за штатных інструктароў. Гэта магчымасьць ёсьць у кожнага райкому. Разам з тым, трэба *пэрыодычна склікаць*

*спэцыяльныя нарады кіраўнікоў коопэрацыйных парт'ячэек* і прапрацоўваць пытаньні практычнай работы ў коопэрацыі. На гэтых нарадах, па-першае, будзе адбывацца шырокі абмен вопытам, па-другое,— партыйнае кіраўніцтва будзе ў курсе спраў дзейнасьці коопэрацыйных ячэек. Асабліва зараз, калі перад коопэрацыйнымі ячэйкамі КП(б)Б стаяць надзвычай складаныя задачы, калі некаторыя з ячэек ня ведаюць з чаго пачынаць работу, гэтыя нарады дадуць надзвычайна многа карысьці для разгортваньня партыйнай работы ў коопэрацыйнай сыстэме.

Перад намі рад фактаў, калі некаторыя коопэрацыйныя ячэйкі ня ведаюць з чаго пачынаць сваю практычную работу. У радзе выпадкаў ячэйкі займаюцца агульнымі пытаньнямі, прапрацоўваюць агульныя проблемы, а не падыходзяць да практычнага вырашэньня конкрэтных задач.

Што-ж павінна быць пакладзена ў аснову зьместу работы коопэрацыйнай парт'ячэйкі?

Задачы, якія стаяць перад спажывецкай коопэрацыяй, прад'яўляюць да яе вялікія патрабаваньньні ў сэнсе перабудовы. Такім чынам, *пытаньне завяршэньня перабудовы спажывецкай коопэрацыі на бліжэйшы пэрыод, павінна быць цэнтральным у рабоце коопэрацыйнай ячэйкі. Пашырэньне розьнічнага гандлю, спрашчэньне кіраўніцтва ім на аснове наладжваньня опэрацыйнай работы новастворання галінных аб'яднаньняў, адкрыцьцё новых магазыноў, перавод нізавых коопэрацыйных зьвеньняў на гаспадарчы разрахунак, ука аненьне новай сыстэмы аплаты працы коопэрацыйных работнікаў, пытаньні лепшага абслугоўваньня рабочага спажыўца* — вось што павінна стаяць у цэнтры ўвагі коопэрацыйных ячэек. Усе гэтыя пытаньні павінны знайсьці практычнае праламленьне ў працы кожнай з партыйных ячэек, выходзячы з конкрэтных абставін і ўмоў іх дзейнасьці.

Новыя задачы, якія пастаўлены перад коопэрацыяй, ёю могуць быць праведзены ў жыцьцё толькі пры тэй умове, калі коопэрацыйны апарат умела перабудуе сваю работу, калі ён будзе функцыянаваць гібка і опэрацыйна. Адсюль, пытаньне барацьбы за баяздольны гібкі коопэрацыйны апарат, павернуты тварам да патрэб вытворчасьці, да лепшага абслугоўваньня рабочага спажыўца. Коопэрацыйны апарат трэба ачысьціць ад опортуністычных і бюрократычна-чыноўнічых элемэнтаў, трэба ўліць у яго жывы струмень новых сіл. У сьвятле рэалізацыі гэтай задачы вялікае значэньне набывае вярбоўка ў коопэрацыйны апарат новых кадраў з рабочых сем'яў, з комсамольцаў, з колгаснай моладзі. Ад пытаньняў барацьбы за клясава-вытрыманы і баяздольны коопэрацыйны апарат нельга ніяк адлучыць дысцыпліны. Нікому не сакрэт, што апарат асобных нізавых коопэрацыйных зьвеньняў надзвычай расхлябаны, надзвычай недысцыплінаваны. Быў рад фактаў, калі нізавыя зьвеньні супраціўляліся ажыцьцяўленьню дырэктыў цэнтральных коопэрацыйных органаў. Падобным фактам трэба пакласьці канец. У коопэрацыйным апараце, на які ўскладзены адказныя задачы, ня можа быць месца гнілому „дэмократызму", які прыносяць шкоду ўсёй коопэрацыйнай сыстэме. *Партыйныя організацыі павінны дапамагчы цэнтральным коопэрацыйным установам дабіцца выключнай дысцыплінаванасьці ад кожнага нізавога коопэрацыйнага зьвяна.* Выкананьне дырэктыў вышэйстаячых органаў павінна быць бязумоўным, поўным і своечасовым. Толькі безагаворачнае выкананьне ўказаньняў вышэйстаячых органаў паставіць работу коопэрацыйных зьвеньняў на рэйкі хуткага і гібкага выкананьня сваіх задач.

Работа коопэрацыйнай ячэйкі павінна быць павернута тварам да вытворчасьці. Змагацца за паляпшэньне абслугоўваньня рабочага спажыўца, за адшуканьне і поўнае скарыстаньне таварных рэсурсаў, адшуканьне новых крыніц для пашырэньня таварнай базы, змаганьне супроць фактаў затаварваньня, супроць фактаў нядбайных адносін да запатрабаваньняў мас—цэнтральная задача ў рабоце партыйнай ячэйкі коопэрацыйнай установы.

Новыя задачы, пастаўленыя перад коопэрацыяй, патрабуюць ад усіх яе работнікаў павышэньня свайго тэорэтычнага ўзроўню. Ячэйкі гэту справу павінны ўмела організаваць, злучыўшы яе з практычнай работай, з аўладаньнем тэхнікай савецкага гандлю, павернутага тварам да вытворчасьці, да інтарэсаў рабочае клясы. Політычная вучоба партыйца, аўладаньне ведамі па экономіцы дасьць магчымасьць хутчэй падрыхтоўваць новыя кадры і высоўваць коопэрацыйных работнікаў на больш адказную работу.

Вышэй мы падкрэсьлілі тое, што партыйная праслойка ў спажывецкай коопэрацыі досыць малая. Гэта абавязвае ўсе партыйныя ячэйкі практычна ажыцьцявіць задачу *вярбоўкі* ў партыю лепшых коопэрацыйных работнікаў з асяродзьдзя, галоўным чынам, рабочых-вылучэнцаў, комсамольцаў і жонак рабочых, што працуюць за прылаўкам.

*Комсамольскія організацыі да гэтага часу прымалі надзвычай слабы ўдзел у перабудове спажывецкай коопэрацыі.* Комсамольскія організацыі шчыльна не падыйшлі да гэтага пытаньня. На мясцох яны ў радзе выпадкаў яшчэ не прыступілі да стварэньня самастойных ячэек ЛКСМБ у коопэрацыі. *Па структуры партыйных ячэек павінна быць пабудавана і сетка ячэек ЛКСМБ.*

Перад комсамолам стаяць адказныя задачы ў галіне перабудовы спажывецкай коопэрацыі. Змагаючыся за рэалізацыю адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК, комсамольскія ячэйкі павінны ўзмацніць вярбоўку ў комсамол моладзі, якая працуе ў коопэрацыі. Тым больш, што сярод гэтай моладзі мы маем шмат рабочых. Раённыя і гарадзкія організацыі ЛКСМБ павінны даць спажывецкай коопэрацыі новыя кадры работнікаў. Бязумоўна, тых задач, якія перад імі стаяць, комсамольскія організацыі ня здолеюць ажыцьцявіць, калі над імі ня будзе штодзеннага цьвёрдага парткіраўніцтва з боку нізавых ячэек КП(б)Б.

Партыйныя ячэйкі коопэрацыйных аб'яднаньняў асаблівую ўвагу павінны аддаць перабудове профработы ў спажывецкай коопэрацыі.

Да гэтага часу профсаюзныя організацыі на мясцох прымалі вельмі слабы ўдзел у перабудове коопэрацыі, яны не пераключыліся на баявыя тэмпы работы, не мобілізавалі масы работнікаў прылаўку на павышэньне якасьці работы. Разам з гэтым ёсьць рад вялікіх недахопаў у організацыйнай пабудове профсаюзных організацый. Мы ставім задачу *стварэньня трыкутніку* ў коопэрацыйных зьвеньнях. Сакратар ячэйкі, загадчык магазыну, прадстаўнік профэсіянальнай організацыі (мясцкому ці профупаўнаважны) складаюць гэты трыкутнік. Ён павінен штодзенна кіраваць і займацца работай коопэрацыі і вырашаць тыя задачы, якія стаяць перад кожнай коопэрацыйнай адзінкай. Партыйныя ячэйкі павінны забясьпечыць такую работу профсаюзных організацый, каб яны стаялі на чале мас і заўсёды падхоплівалі ініцыятыву, якая выходзіць ад колектываў работнікаў прылаўку ці асобных працаўнікоў. Да рэчы, нельга не паказаць на той факт, што ініцыятыва, якая была праяўлена рабочымі заводу імя Варашылава ў пытаньнях перабудовы коопэрацыі, ня была падхоплена шырокімі рабочымі ма-

самі, ня была распаўсюджана на другія колектывы. За гэта вялікая доля віны кладзецца на профсаюзныя організацыі.

Да гэтага часу ў радзе месц зусім не праводзілася політыка-масавая работа сярод коопэрацыйных работнікаў, асабліва ў нізавых зьвеньнях. Гэта нецярпімае становішча. Неабходна зараз-жа разгарнуць партыйна-масавую работу ва ўсіх зьвеньнях спажывецкай коопэрацыі. Узьнімаючы актыўнасьць коопэрацыйных работнікаў, ячэйкі павінны *дабівацца шырокага разгортваньня социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва* і на гэтай аснове паляпшаць абслугоўваньне рабочага спажыўца. Політычная вучоба, павышэньне кваліфікацыі павінны займаць віднейшае месца ў рабоце партыйных ячэек сярод коопэрацыйных работнікаў.

Усе гэтыя пытаньні могуць з посьпехам быць вырашаны толькі пры тэй умове, калі раённыя і гарадзкія парторганізацыі шчыльна падыйдуць да рэалізацыі тых задач, якія пастаўлены адозвай ЦК УсеКП(б) і СНК. Вядучы бязьлітаснае змаганьне супроць усякіх праяў опортунізму, супроць скажэньняў партыйнай лініі, супроць чыноўніцкага супрапіўленьня важнейшым мерапрыемствам, партыйныя організацыі пасьпяхова перабудуюць работу коопэрацыі.

О. Конакоцін

# Літаратуру на службу соцыялістычнаму будаўніцтву

*(Канец)* [1])

## V. Атрады савецкай літаратуры

Беларуская мастацкая літаратура і літаратура нацыянальных меншасьцяй (яўрэйская, расійская, польская, літоўская) расьце і разьвіваецца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. У гэтай барацьбе мацнела пролетарская літаратура, якая вяла змаганьне пад кіраўніцтвам партыі і перамагала варожыя плыні, біла бязьлітасна клясавага ворага. У процэсе абвостранай клясавай барацьбы яскрава выявілася расстаноўка клясавых сіл на літаратурным вучастку культурнага фронту.

Пры сучаснай расстаноўцы клясавых сіл у мастацкай літаратуры, Беларукая асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў ажыцьцяўляе вядучую літаратурна-палітычную ролю ў адносінах пролетарска-колгаснай, рэволюцыйна-„папутніцкай“ і саюзьніцкай літаратуры. Разам з гэтым Беларуская асоцыяцыя проларскіх пісьменьнікаў зьяўляецца апорным атрадам ў барацьбе за партыйнасьць літаратуры. БелАПП дасягнула гэтага рашучай барацьбой за генэральную лінію партыі ў пытаньнях літаратуры. БелАПП рашуча змагалася з контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам у літаратуры; нанесла сваячасовы ўдар па дробна-буржуазных капітулянцкіх позыцыях „літаратурнага фронту“, прыхільнікі якога выяўляліся і ў беларускай літаратуры; праводзілася барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам і нацыянал-шовінізмам. Гэта было магчыма толькі пры ўмове правільнага разуменьня задач барацьбы за гегемонію пролетарскай літаратуры, разуменьня ленінскай лініі ў нацыянальнай палітыцы і генэральнай лініі партыі. За апошні час значна ўзмацняецца сувязь БелАПП‘у з рабочымі масамі праз заснаваньне літаратурных гурткоў на фабрыках і заводах, праз удзел у грамадзка-культурай рабоце на прадпрыемстве членаў БелАПП‘у. Таксама ўзмацнялася сувязь БелАПП‘у з пролетарскімі літаратурнымі організацыямі брацкіх савецкіх рэспублік, што значна ўзбагаціла БелАПП творчым вопытам, вопытам барацьбы за гегемонію пролетарскай літаратуры і больш поўна выявіла ролю БелАПП‘у, як аднаго з баявых атрадаў усесаюзнай арміі пролетарскіх пісьменьнікаў.

---

[1]) Гл. пачатак „Бальшавік Беларусі“, № 7.

У мэтах арабочаньня сваіх радоў, падвышэньня актуальнасьці сваёй тэматыкі — падрыхтоўкі новых кадраў пролетарскай літаратуры — і яшчэ большага замацаваньня непасрэднай органічнай сувязі літаратуры з рабочай клясай, БелАПП'ам правільна вызначана і ажыцьцяўляецца задача закліку рабочых-ударнікаў у літаратуру.

Работа Беларускай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў праходзіць у брацкім адзінстве пісьменьнікаў усіх нацыянальнасьцяй. Сіла пролетарскай літаратуры ў яе інтэрнацыянальным адзінстве. Толькі на падставе пролетарскай клясавай солідарнасьці расьлі і разьвіваліся нацыянальныя сэкцыі БелАПП'у: яўрэйская, польская і літоўская.

Яўрэйская сэкцыя БелАПП'у зьяўляецца найбольш актыўнай нацыянальнай сэкцыяй Асоцыяцыі як па творчасьці, так і ў грамадзкай рабоце. Яна аб'яднала ў сваіх радох лепшыя сілы яўрэйскай літаратуры ў БССР і зьяўляецца адным з больш буйных атрадаў яўрэйскай пролетарскай літаратуры СССР. Яўрэйская сэкцыя сваячасова мобілізавалася на барацьбу з праявамі нацыянал-шовінізму і нацыянал-дэмократызму ў яўрэйскай літаратуры і дала варожым тэндэнцыям рашучы адпор. Разам з гэтым яўрэйская сэкцыя паказала лепшыя прыклады літаратурнай работы ў яўрэйскім партыйным друку і ў наладжваньні сувязі з замежнай пролетарскай літаратурай і комуніутычным друкам Амэрыкі, Аргентыны і інш.

Польская сэкцыя БелАПП'у сваёй дзейнасьцю і творчасьцю актыўна дапамагала справе ўзмацненьня інтэрнацыянальнага адзінства працоўных і спрыяла актывізацыі польскіх працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве, паказваючы прыклады адданай работы польскіх працоўных на фронце будаўніцтва соцыялістычнай прамысловасьці і рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

У сваёй творчай дзейнасьці БелАПП з усімі нацыянальнымі сэкцыямі ў асноўным павярнулася тварам да задач соцыялістычнага будаўніцтва. Пролетарская літаратура БССР, як і ўсяго Саюзу, „робіцца ўжо магутным фактарам узьдзейнічаньня, выхаваньня, організацыі волі мас, уздыму працоўнага энтузіязму, ударніцтва, разьвіцьця ўсіх відаў соцыялістычнага спаборніцтва, барацьбы з прарывамі на фронце працы, з гультайствам, безгаспадарчасьцю і д. т. п. хібамі, якія суправаджаюць наша будаўніцтва, (пролетарская літаратура) робіцца магутным фактарам соцыялістычнага будаўніцтва. Масы жадаюць, каб наша літаратура ў сьвеце мінулага, пражытага ня толькі асьвятляла сёнешні дзень, але паказала-б у сьвеце гэтага сёнешняга дня контуры, зьмест заўтрашняга дня, паказала-б шляхі самага хуткага набліжэньня да канчатковай перамогі“.[1]) Беларускія пролетарскія пісьменьнікі далі рад нядрэнных твораў аб будаўніцтве соцыялістычнай прамысловасьці, у прыватнасьці аб энэргетычнай базе прамысловасьці, аб соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі. У радзе твораў са здавальняючай поўнасьцю і правільным клясавым аналізам ускрываюцца супярэчнасьці будаўніцтва. Гэта — бязумоўна посьпех пролетарскай літаратуры. Але тэмпы будаўніцтва вымагаюць ад пролетарскай літаратуры яшчэ большага напружаньня творчай волі, каб канчаткова ліквідаваць адставаньне літаратуры, каб посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва знайшлі адбітак у пролетарскай літаратуры ў больш поўнай ступені чым дагэтуль.

Пытаньні сваячасовасьці паказу соцыялістычнага будаўніцтва — актуальнае пытаньне пролетарскага літаратурнага руху. У гэтым пытаньні

[1]) Рэдакцыйны артыкул газэты „Правды“ за 19/IV-1931 г. — „За пролетарскую літаратуру“.

„прыяцелі ад літфронту“ імкнулася зьвесьці ўсе прычыны адставаньня выключна да творчага мэтоду, не гаворачы аб клясава-варожых уплывах, якія нараджалі праваопортуністычныя настроі ў некаторых зьвеньнях атраду пролетарскай літаратуры і ўплывалі на адставаньне літаратуры. Былі і проста капітулянцкія тлумачэньні, калі асобныя таварышы даводзілі, нібы беларуская пролетарская літаратура не ўзьнялася да разуменьня задач літаратуры пэрыоду соцыялістычнай рэконструкцыі. Такога гатунку разважаньні лілі ваду на млын клясавага ворага, які заяўляў, што ў Беларусі ня можа існаваць пролетарская літаратура, бо гэта краіна сялянская і г. д. БелАПП павёў барацьбу супроць гэтых установак, а таксама ўдарыў і па адценьнях гэтых установак, якія выцякалі з разважаньняў: „не разумеюць задач, бо тэмпы шпаркія, і літаратура ня можа дагнаць, яна будзе ісьці ў хвасьце“. Уплывы правага ўхілу і левых загібаў на літаратуру тармазілі пасьпяховасьць пераключэньня творчасьці тварам да соцыялістычнай рэконструкцыі.

Ня менш актуальным пытаньнем зьяўляецца паказ контуру, зьместу заўтрашняга дня, паказ шляху самага хуткага набліжэньня да канчатковай перамогі. У сьвеце тых дасягненьняў, якія мы маем на фронце будаўніцтва соцыялізму, пролетарская літаратура мае магчымасьць паказаць пэрспэктыву, а вось тут у нашай беларускай пролетарскай літаратуры ня ўсё добра. На фоне карэнных зьмен гаспадаркі БССР, пры тых заваёвах, якія мы ўжо маем, разгарнуць пэрспэктыву далейшых дасягненьняў і паказаць зьмест бліжэйшых год — гэта задача ня лёгкая, але яе пролетарская літаратура павінна выканаць. Па нашай думцы, гэтыя пэрспэктыўныя пытаньні будаўніцтва павінны распрацоўвацца не ў паасобку, а брыгадна, пры шырокім скарыстаньні ўсіх матэрыялаў нават вышэйшых органаў, дзе распрацоўваюцца пляны соцыялістычнага будаўніцтва. Толькі выходзячы з рэальных магчымасьцяй рэчаіснасьці, пэрспэктыўны твор будзе даваць натхненьне працоўным і будзе пазбаўлены беспрадметнай фантастычнасьці і хадульнасьці. Гэта пытаньне для беларускай пролетарскай літаратуры новае, яго трэба вырашыць конкрэтнымі творамі. Тыя творчыя сілы, якія выхаваны за гады пасьля кастрычніка, тыя творы як ў прозе, так і ў поэзіі, якія мы маем за гэтыя часы, значна набліжаюць беларускую пролетарскую літаратуру да гегемоніі ў мастацка-творчых пытаньнях. Усе об'ектыўныя ўмовы для заваяваньня гегемоніі і ў мастацка-творчых адносінах ёсьць неабходна ўпаркая работа, барацьба за якасьць творчасьці і ідэёвая непахіснасьць. БелАПП замагаецца за гегемонію пролетарскай літаратуры, змагаецца ўпэўнена і з вялікай настойлівасьцю і праз пэўны час аддасьць рапарт партыі, рабочай клясе аб тым, што гегемонія заваявана і ў мастацка-творчых адносінах.

Мы ўжо гаварылі аб тым, што пролетарская літаратура выконвае вядучую літаратурна-палітычную ролю ў адносінах пролетарска-колгаснай літаратуры. На гэты атрад савецкай літаратуры мы павінны зьвярнуць максымум увагі, бо гэты атрад яшчэ малады, бо задачы, якія стаяць перад ім, надта складаныя задачы. Пролетарская літаратура, бяз усякіх загібаў ды камандаваньня, па-брацку павінна кіраваць і дапамагаць гэтаму маладому атраду літаратуры.

Колгаснае сялянства, якое зрабілася сапраўднай галоўнай і цьвёрдай апорай савецкай улады і рабочай клясы на вёсцы, ужо дае ў рады літаратуры папаўненьне з ліку колгасьнікаў-ударнікаў, з ліку ўдарнікаў-колгаскораў. Сялянская пісьменьнікі, новыя сілы з колгасьнікаў зараз ужо складаюць такія кадры, якія павінны быць аб'яднаны ў арганізацыю колгасных пісьменьнікаў. Створанае беларускае бюро пролетарска-

колгасных пісьменьнікаў мае шырокае поле дзейнасьці. Тут і вялізарныя сілы, якія трэба аб'яднаць і вучыць аўладаць справай майстэрства мастацкай вытворчасьці, тут і ня менш вялікая задача забясьпечаньня пераходу на пролетарскі шлях літаратуры колгасных пісьменьнікаў.

Гаворачы аб аб'яднаньні кадраў, трэба мець на ўвазе тыя шырачэзныя магчымасьці прыліву ўсё новых і новых папаўненьняў, бо сам процэс колектывізацыі ідзе так, што і не займаючыся „прароцтвам", і проста гледзячы на посьпехі колектывізацыі можна сказаць, што да восені 1931 г. палова бядняцка-серадняцкіх двароў у БССР будзе колгаснай. Новыя сілы растуць вакол насьценных і раённых газэт, іх дае машына-трактарная станцыя, лёнаапрацоўчы завод, ударная брыгада колгасу, літаратурныя гурткі і г. д. Сабраць, выявіць і аб'яднаць — справа складаная, і тут навокал колгасных пісьменьнікаў трэба працаваць ня толькі аднаму бюро пролетарска-колгасных пісьменьнікаў, а іншым грамадзкім організацыям, колгасным організацыям, і шмат чаго павінен зрабіць друк як цэнтральны, так і нізавы. Чаму-б якой-небудзь раённай газэце не наладзіць літаратурную старонку, ну, да прыкладу, прысьвечаную барацьбе за бальшавіцкую падрыхтоўку да ўборкі ўраджаю, зразумела там, дзе ёсьць добрыя кіраўнікі гэтай справы, а то можа здарыцца, як у часопісе „Красная Новь", што пісьменьніцкія здольнасьці пачне выяўляць і кулацкі падпявала на старонках нашага друку.

Літаратурныя старонкі раённых газэт выяўляюць шмат новых здольных таварышоў. Паставіўшы добра літаратурную старонку, можна паступова вучыць новыя сілы ў асноўным зьвяне—раёне. Беларускі часопіс колгасных пісьменьнікаў не ахопіць тых сіл, якія ёсьць, яму трэба ў раёнах мець свае творчыя ячэйкі навокал раённых газэт. Наладзіць нізавыя зьвеньні вучобы, літаратурныя гурткі можна лепш тады, калі вакол раённай газэты будзе створаны творчы актыў. Праўда, гэта адразу ня робіцца, але прыклады добрай работы ёсьць. Газэта „Комуніст" Бабруйскага раёну, Полацкая газэта робяць гэта ўдала. Трэба скарыстаць іх практыку, а першым перадаць практыку іншым газэтам.

Творчая работа колгаснага пісьменьніка будзе накіравана на паказ процэсу соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі, гэта, бязумоўна, не адзначае, што ў тэматыцы колгасных пісьменьнікаў асьвятляюцца толькі колгасныя пытаньні, як не адзначае, што пролетарская літаратура асьвятляе толькі пытаньні соцыялістычнай рэконструкцыі прамысловасьці, і тое і другое было-б памылковым, але ўпор у творчасьці ўсё-ж будзе ўзяты на пытаньне колектывізацыі ў сувязі з агульным соцыялістычным будаўніцтвам.

Сама-ж колгасная тэматыка мае шмат надзвычайна складаных спэцыфічных своеасаблівасьцяй, якія выцякаюць з супярэчнасьцяй самога процэсу ператварэньня аднаасобных дробна-ўласьніцкіх сялянскіх гаспадарак у буйныя колгасныя гаспадаркі. Гэтыя асаблівасьці колгаснай тэматыкі яшчэ не заўсёды правільна ўлічваюцца і нашымі пролетарскімі пісьменьнікамі. Таму спэцыфіку колгаснай тэматыкі колгасныя пісьменьнікі павінны заўсёды ўлічваць. Роля пролетарскага атраду літаратуры—дапамагчы колгаснаму атраду правільна па-дыялектычнаму вырашаць і ставіць гэтыя пытаньні.

Новая соцыялістычная катэгорыя — сяляне-колгасьнікі — складаюцца не адразу, а ў процэсе організаванай работы пад кіраўніцтвам рабочае клясы па будаўніцтву і замацаваньню колгаснай гаспадаркі. Таксама не адразу прыходзіць поўная роўнасьць паміж усімі соцыяль-

ными групамі, якія прыйшлі ў колгасы. Ня ўпусьцім з кругавіду і работу клясавага ворага, а праглядзець гэта можа толькі той, хто об'ектыўна дапамагае ворагу, які імкнецца скарыстаць цёмных беднякоў і серадьнякоў супроць колгасу. Падыйсьці спрошчана да гэтых пытаньняў пры разгортваньні якога-небудзь літаратурнага твору, будзе азначаць ня толькі па вярхоўнасьць твору, але і проста яго няпрыгоднасьць і нават шкоднасьць. Справа ня ў тым, што ў творы на 100 проц. усе радкі напісаны са слоў, якія ў паасобку гавораць за колгас, не ў наборы слоў справа, а ў сутнасьці напісанага, ў аналізе процэсу, у глыбіні разуменьня гэтага процэсу і не фоторафічнага разуменьня, а дыялектычнага.

Паказ складаньня новай соцыяльнай катэгорыі колгаснага сялянства, гэтай галоўнай і цьвёрдай апоры рабочае клясы, справа гістарычнага значэньня. Сама гэта катэгорыя колгаснага сялянства зьяўляецца пераходнай да пературарэньня селяніна ў работніка адзінай бяскласавай грамады, але гэта справа будучага, аднак, недаацэнка гэтых асаблівасьцяй пэрыоду з боку літаратуры ні ў якім разе недапушчальна.

Да самай бяскласавай грамады мы вядзем сялянства праз пературарэньне гаспадаркі ў соцыялістычную праз колгасы, шлях гэты мы павінны прайсьці, літаратура павінна дапамагчы праходзіць гэты шлях.

Ĭ тут, як і ў шмат якіх іншых пытаньнях, пісьменьнік бярэ асноўнае зьвяно ланцуга, за якое выцягвае ўвесь ланцуг пытаньняў. Улавіць своячасова і правільна асобныя моманты процэсу пературарэньня вельмі важна. Возьмем для прыкладу такое пытаньне, як мэханізацыя працы ў колгасах. Увядзеньне складаных машын ня толькі робіць працу больш продукцыйнай, больш лёгкай для колгасьніка, яна дае шмат новых і новых разуменьняў, прымушае прадумаць складаныя процэсы работы мэханізму машыны. Уборка жыта комбайнам выклікае больш складаны процэс мысьленьня, чым уборка векавым спосабам, ды яшчэ з усімі „лірычнымі“ дадаткамі, аб якіх сьпявалі ў старыя часы (праца жанчыны-аднаасобніцы з дзіцём на мяжы, або пад снапамі і г. д.). Мэханізацыя сельскае гаспадаркі зьмяняе карэнным чынам адносіны людзей да працы. Праца ўжо ідзе на падставе вытворчасьці машыннай гаспадаркі, падзяленьне працы больш удасканальваецца. Тут ужо выпрацоўваецца і новы тып героя працы: ударнік-трактарыст, мэханік і г. д. У злучэньні з соцыялістычнымі мэтодамі працы — ударніцтва, соцыялістычнае спаборніцтва, грамадзкі буксір і г. д. — пры правільнай організацыі падзелу працы ў колгасе на-новаму стаяць пытаньні адносін да самой працы. А калі возьмем колектывізацыю быту, якая ідзе наперад пры соцыялізацыі колгасаў і палепшаньні мэханізацыі сельскае гаспадаркі, дык тут зноў рад цікавых пытаньняў, якія так многа даюць жывых абразоў і малюнкаў, што сапраўды можна сказаць — асаблівасьці спэцыфікі колгаснай тэматыкі даюць нябачную шырыню разгортваньню творчасьці нашай літаратуры.

Мы закранулі гэтыя пытаньні толькі для таго, каб давесьці, што творчасьць колгаснага атраду літаратуры ў гэтым разрэзе мае для соцыялістычнага будаўніцтва надзвычайна важнае значэньне, падкрэсьліваем колгаснай таму, што гэтая організацыя ў нас яшчэ зусім маладая, яна толькі ствараецца. Зразумела, што пролетарская літаратура не ігнаравала і ня будзе ігнараваць колгаснай тэматыкі, бо гэта адзіная работа па стварэньні літаратуры эпохі соцыялістычнага будаўніцтва. Тут мы робім упор на асаблівасьці задач колгаснага атраду

літаратуры, які складаецца і будзе працаваць з дапамогаю і кіраўніцтвам з боку пролетарскага атраду літаратуры.

Выяўленьне і зьбіраньне сіл, вучоба і творчая работа — вось вузлавыя пытаньні колгаснай літаратуры Беларусі.

Вядучую ролю пролетарскі атрад літаратуры ажыцьцяўляе ў рэволюцыйна-„папутніцкай“ літаратуры, якая на сёнешні дзень у нас значная і значна адрозьніваецца ад тых папутніцкіх настрояў, якія былі ўласьцівы ёй у часы аднаўленчага пэрыоду. Папутнік (паколькі мы яшчэ ўжываем гэты тэрмін) на сёньня ўжо самавызначыўся, ён не барахтаецца ў ціне зьменавехаўскіх мар, ён не чакае зьмены „часовай“ дыктатуры пролетарыяту, сёньня папутнік у асноўным выступае, як саюзьнік. Ён яшчэ ня поўнасьцю перайшоў на пролетарскі шлях, але ён дамагаецца гэтага, і абавязак пролетарскай літаратуры дапамагчы яму ў гэтым. „Рашуча перамагаючы буржуазныя тэндэнцыі сярод папутнікаў, трэба ператвараць учарайшых папутнікаў у саюзьнікаў, сёнешніх саюзьнікаў заўтра ён (пролетарыят) павінен ператвараць у апору соцыялістычнай дзяржавы, што строіцца“. [1])

З учарайшага папутніка мы павінны выхоўваць саюзьніка, бо ён ідзе за намі, ён не адышоў на другі бок барыкад у клясавых бойках, ён ня здрадзіў рабочай клясе і не завяз ў балоце зьменавехаўскіх і нацыянал-дэмократычных ілюзій на перарадзжэньне савецкай улады, ён ідзе за клясай, але яшчэ не пазбавіўся буржуазных тэндэнцый, якія перагараджаюць шлях да поўнага пераходу да пролетарыяту. Такому папутніку мы павінны дапамагчы стаць на пролетарскі шлях, дапамагчы ў змаганьні з буржуазнымі тэндэнцыямі.

Гэта ні ў якім разе ня значыць, што да памылак у творчасьці папутнікаў неабходна падыходзіць у белых рукавічках; такое разуменьне пытаньня прывядзе да таго, што памылкі захопяць жывога чалавека і пацягнуць назад у балота. Наадварот — вастрыём марксыцкай крытыкі трэба ўскрываць усе памылкі, паказваючы іх карэньні і гэтым дапамагаць зьнішчэньню памылак. Крытыка і жорсткая бальшавіцкая крытыка наблізіць таго, хто ідзе за рабочай клясай, яна не спалохае яго, бо ён ведае, што крытыка — гэта адзін з мэтодаў работы клясы.

У практычнай рабоце такім папутнікам неабходна забясьпечваць таварыскае супрацоўніцтва з пролетарскімі пісьменьнікамі ў грамадзка-політычнай рабоце, не дапускаючы барскіх, чванлівых адносін да іх.

Мы гаворым аб папутніку, які ў выніку клясавай дыфэрэнцыяцыі застаўся з намі, які ідзе за пролетарыятам, але яшчэ не канчаткова стаў на шлях пролетарскай літаратуры. Можа ўзьнікнуць думка, што за апошнія гады ва ўмовах клясавай барацьбы катэгорыя папутніцтва вымылася, частка адыйшла на другі бок барыкад, а частка перайшла да пролетарскай літаратуры. Бязумоўна, што ў процэсе разгортваньня клясавай барацьбы такая дыфэрэнцыяцыя была, яна шмат каго выявіла, як нашых ворагаў, паказала іх сутнасьць, і з гэтымі вялася жорсткая барацьба, але другая частка засталася і над ёй яшчэ шмат работы, каб канчаткова пераве сьці на пролетарскі шлях. Здыманьне проблемы папутніцтва азначае адмаўленьне ад работы з папутнікам, а гэта толькі пашкодзіць агульна-літаратурнай справе, як справе клясы. За ўплыў на папутніка-саюзьніка неабходна змагацца, бо трэба змагацца за таго, хто жадаеісьці і ідзе за пролетарыятам.

Работа па ператварэньні ўчарайшых папутнікаў у саюзьнікаў пролетарскай літаратуры патрабуе самага рашучага змаганьня з бур-

[1]) З рэдакцыйнага арт. „Праўды“ — за 19/IV-1931 г. „За пролет. літаратуру“.

жуазнымі тэндэнцыямі, з праявай вялікадзяржаўнага шовінізму, нацыянал-дэмократызму і нацыянал-шовінізму ў творчасьці. За апошнія гады на літаратурным вучастку клясавай барацьбы, на ідэолёгічным фронце разгромлены і вялікадзяржаўныя шовіністы, і нацыянал-дэмократы, і шовіністы, але разгром ня тое-ж самае, што зьнішчэньне. З усімі гэтымі варожымі праявамі мы паканчым толькі пры ўмове ліквідацыі клясавых карэньняў гэтых зьявішчаў. Таму барацьба з усякімі праявамі варожых тэндэнцый і са скрытымі праявамі буржуазнай і нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі ў літаратуры будзе і ў далейшым зьяўляцца першачарговай задачай атрадаў беларускай літаратуры і, галоўным чынам, пролетарскай літаратуры.

## VI. Консолідацыя сіл

Тыя задачы, што стаяць перад літаратурай у сучасны пэрыод, могуць быць пасьпяхова выкананы, калі ўсе атрады савецкай літаратуры мобілізуюць усе свае сілы на выкананьне задач, што стаяць перад літаратурай, калі ўсе сілы пралетарскай і савецкай літаратуры будуць рацыянальна плянава расстаўлены і скарыстаны ў рабоце. Консолідацыя на аснове разьмежаваньня, каб аб'яднаць супраўдныя пролетарскія сілы літаратуры вакол задач сучаснага пэрыоду, набывае асабліваe значэньне.

Для забесьпячэньня найлепшых умоў гэтай консолідацыі неабходна сталая органічная сувязь у рабоце паміж паасобнымі зьвеньнямі літаратуры пры вядучай ролі пролетарскай літаратуры.

Паколькі вядучая літаратурна-палітычная роля пролетарскай літаратуры ў адносінах да іншых атрадаў літаратуры забясьпечана, пастолькі будзе забясьпечаны і пролетарска-клясавы характар консолідацыі літаратурных сіл. Беларуская літаратура падышла да моманту організацыйнага афармленьня консолідацыі — стварэньня фэдэрацыі аб'яднаньняў савецкіх пісьменьнікаў БССР. Характар работы фэдэрацыі выцякае з таго вялізарнага запатрабаваньня весьці работу організавана, якое ставіць да літаратуры будаўніцтва. Масавая работа на фабрыках, колгасах і саўгасах, творчыя пытаньні, выхаваньне маладых кадраў, барацьба за пролетарскі зьмест творчасьці і інш. зьяўляцца практычнымі задачамі для работы фэдэрацыі. Фэдэрацыя павінна быць баявым органам ў барацьбе за соцыялізм, а не „дыскусійным клюбам" або „верхняй палатай" літаратурнага асяродзьдзя. Гэты напрамак імкнуліся надаць фэдэрацыі некалькі год назад нацыянал-дэмократы пры першых спробах стварэньня фэдэрацыі, але тады спробы стварэньня так і засталіся ня зьдзейсьненымі. Зараз іншая расстаноўка сіл у літаратуры, пролетарская літаратура тут выступае застрэльшчыкам стварэньня фэдэрацыі і яна гэта зьдзейсьніць пры аднадушным падтрыманьні ўсіх іншых аб'яднаньняў савецкай літаратуры.

Разам з консолідацыяй сіл беларускай літаратуры па-ранейшаму трэба ўзмацняць консолідацыю літаратурных сіл усяго Савецкага Саюзу. Лепшым прыкладам аб'яднаньня літаратурных атрадаў саюзных рэспублік мы бачым ва Усесаюзным аб'яднаньні асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў (ВААП), якое вырасла і загартавалася ў барацьбе супроць клясавага ворага ў галіне мастацтва. Ужо на сёнешні дзень ВААП — гэта магутнае аб'яднаньне, якое складаецца з 43 нацыянальных атрадаў літаратуры і 7 асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў саюзных рэспублік. Па прыкладу пролетарскай літаратуры неабходна весьці паглыбленьне сувязі паміж усімі атрадамі савецкай літа-

ратуры. Літаратура Савецкага Саюзу выконвае адзіныя задачы, абмен практыкай, узаемная дапамога, брацкая дружба літаратурных атрадаў Савецкага Саюзу, бязумоўна, павінна знайсьці і сваё організацыйнае афармленьне ў стварэньні Усесаюзнага кіруючага штабу літаратурнай справай, бо яна (літаратурная справа) ўжо зрабілася справай агульна-пролетарскай. Пролетарыяту Масквы, Харкаву дорагі дасягненьні беларускай пролетарскай літаратуры, як пролетарыяту Менску, Гомелю, Віцебску дорагі дасягненьні пролетарскай літаратуры расійскіх і украінскіх пролетарскіх пісьменьнікаў. У часе тыдню Савецкай Беларусі ў Маскве пролетарыі Масквы з нявыказанай радасьцю сустракалі беларускіх пісьменьнікаў, якія на фабрыках і заводах чыталі рабочым свае творы. На Сакольніцкай раённай партыйнай конфэрэнцыі тры тысячы бальшавікоў Масквы выказалі свае адносіны да дасягненьняў беларускай пролетарскай літаратуры бурнымі прывітаньнямі. Мы падалі гэтыя прыклады, каб паказаць, што пролетарыят добра ацэньвае сваю літаратуру і даражыць ёю. Пашырэньне сувязі паміж саюзнымі рэспублікамі, абмен практыкай і на далейшы час будуць парукай узмацненьня брацкага адзінства літаратурных атрадаў Савецкага Саюзу. У гэтай сувязі нам неабходна пашырыць популярызацыю дасягненьняў літаратуры іншых саюзных рэспублік. Трэба каб дасягненьні літаратуры расійскай, украінскай, грузінскай і іншай сталі больш вядомымі пролетарыяту і працоўным БССР. Мы недапушчальна мала даем перакладаў на беларускай мове лепшых твораў Савецкага Саюзу. Беларускія пісьменьнікі яшчэ мала далі перакладаў з украінскай і расійскай мовы, гэтыя хібы трэба ліквідаваць, а Белдзяржвыдавецтву і Цэнтральнаму выдавецтву неабходна зьвярнуць больш увагі на гэтую політычную справу. Нават вельмі і вельмі мала зроблена па перакладзе лепшых пролетарскіх твораў яўрэйскай і польскай літаратуры на беларускую мову. Для прыкладу возьмем асноўныя творы Ізі Харыка. Яны зьяўляюцца добрым укладам ў пролетарскую літаратуру. А ці перакладзены яны на беларускую мову? Вельмі мала ёсьць перакладаў, гэта бясспрэчная хіба, якую неабходна ліквідаваць.

Гэта-ж можна сказаць і ў адносінах да пролетарскіх твораў Заходняй Эўропы. Калі дойдзе справа да прыкладу, дык хапаюцца ў першую чаргу за Швэйку Гашэка, або „На заходнім фронце без перамен" і праходзяць міма такіх пролетарскіх твораў, як „Вялікі плян", „Люізіт" — Бэхэра, „Пролетары апавядае" — Турэка і інш. Бязумоўна, і Гашэк патрэбен, але навошта-ж забываць лепшыя пролетарскія творы. Як ня дзіўна, а шырокім колам беларускага пролетарыяту яшчэ невядомы апошнія рэволюцыйныя і пролетарскія творы польскай літаратуры, бо няма перакладзеных на беларускую мову. Мы далёкі ад думкі, каб сувязь зводзіць да перакладаў, але гэта патрабуе асаблівай увагі. Наладжваньне сувязі з рэволюцыйнай і ў першую чаргу з пролетарскай літаратурай — справа больш складаная, паколькі на Захадзе яшчэ пануе капіталізм, але справа надзвычайна актуальная і політычная. У парадку самакрытыкі трэба сказаць, што беларускія пісьменьніцкія організацыі і ў першую чаргу БелАПП мала зрабілі, каб наладзіць такую сувязь. Таварышом пісьменьнікам трэба тут яшчэ вучыцца ў рабочых колектываў. Завод „Энэргія" (прыклад на вачох у БелАПП'у) мае добрую сувязь з Лейпцыгскімі рабочымі, комуністы Лейпцыгу камандыравалі на работу да энэргійцаў лепшага майстра-інструмантальшчыка Генрыха Пэтша — члена КПГ, — заключылі дагавор соцыялістычнага спаборніцтва, маюць сталую сувязь. Колгасьнікі з „Расьсьвет Пераможца" таксама зьвязаны з нямецкімі таварышамі.

Рад заводаў БССР зьяўляюцца шэфамі політвязьняў польскіх турмаў, вядуць з імі перапіску і пасылаюць падарункі. Пісьменьнікамі-ж дагэтуль такая сталая сувязь яшчэ не наладжана, а яна павінна быць сталай і жывой справай, якая будзе ўзмацняць консоцідацыю рэволюцыйнай і пролетарскай літаратуры Захаду з беларускай савецкай літаратурай і ў першую чаргу з пролетарскай літаратурай.

Брацкае адзінства сусьветнай пролетарскай літаратуры ўжо вылілася ў організацыйную форму, створана міжнароднае бюро рэволюцыйнай літаратуры. Наш абавязак дапамагчы ўзмацняць адзіны пролетарскі фронт сусьветнай літаратуры сваёй работай па сувязі з асобнымі атрадамі замежнай пролетарскай і рэволюцыйнай літаратуры. Асаблівая роля ў гэтай справе выпадае на БелАПП і Фэдэрацыю аб'яднаньняў савецкіх пісьменьнікаў БССР, як на атрады літаратуры Савецкага Саюзу, якія стаяць тут на мяжы з капіталістычным Захадам. Беларуская літаратура павінна быць цесна зьвязана ў першую чаргу з пролетарскімі і рэволюцыйнымі пісьменьнікамі Заходняй Беларусі і Польшчы. Там нашы таварышы ствараюць літаратуру ў жудасных умовах фашызму. Трэба толькі ўспомніць тыя прасьледваньні фашызму, якім падвяргаўся Бруно Ясенскі, — Лукіскую турму, у якой сядзеў малады пісьменьнік Заходняй Беларусі Салагуб, Макатоўскую турму і іншыя прыклады фашысцкай культуры і цывілізацыі, каб сказаць — брацкую руку дапамогі мы павінны мацней падаць нашым таварышом, якія змагаюцца за агульна-пролетарскую справу.

Творчасьць пролетарскіх і рэволюцыйных пісьменьнікаў Заходняй Беларусі і Польшчы неабходна шырока популярызаваць асобнымі выданьнямі і перадрукам у такіх часопісах, як „Маладняк", „Полымя", „Чырвоная Беларусь" і інш. Увесь комплекс мерапрыемстваў па сувязі з замежнымі таварышамі падбодрыць іх у вялікім змаганьні, узмоцніць інтэрнацыянальную клясавую солідарнасьць і будзе зьяўляцца лепшым доказам непераможнасьці адзінства, якім злучаны пролетары Савецкага Саюзу з пролетарамі Захаду.

## VII. За разгортваньне конкрэтнай крытыкі

Марксыская крытыка зьяўляецца моцнай зброяй у барацьбе з варожымі плынямі ў мастацкай літаратуры, зброяй у барацьбе за пролетарскую літаратуру, за ленінізм у літаратуры. Адначасова крытыка зьяўляецца сродкам у выхаваньні маладых пісьменьніцкіх кадраў, у выпраўленьні памылак і недахопаў у творчасьці пісьменьніка і сродкам перавыхаваньня папутнікаў. Аднак, да гэтага часу марксыцкая крытыка беларускай літаратуры ня ўзьнята на належную вышыню. Яна яшчэ адстае ад росту літаратуры, слабая ў сваёй конкрэтнасьці і ў некаторых выпадках агульна-павярхоўная. Крытыка, як сродак барацьбы на ідэолёгічным фронце, намі скарыстоўваецца недастаткова. Праўда, за апошнія 2-3 гады крытыка адыграла не малую ролю ў барацьбе з варожымі плынямі ў літаратуры, але ня гледзячы на гэты станоўчы бок, мы павінны настойліва шырэй разгортваць марксыцкую крытыку, робячы большы ўпор на конкрэтнасьць яе, на сваячасовасьць і актуальнасьць.

Асаблівасьці разьвіцьця беларускай культуры, у тым ліку і літаратуры, ставяць, апроч агульных задач, і спэцыфічныя задачы перад марксыцкай крытыкай у Беларусі.

„Пролетарскі характар нашае культуры можа быць забясьпечаны толькі бязьлітаснай крытыкай рэштак буржуазнага нацыянал-дэмо-

кратызму, бязьлітасным змаганьнем з пранікненьнем у беларускую пролетарскую культуру варожых пролетарыяту элемэнтаў буржуазнага сьветапогляду, усьведамленьнем нашымі маладымі культурнымі кадрамі марксыцкага сьветапогляду і мэтодолёгії і сыстэматычнай падрыхтоўкі новых марксыцкіх кадраў культурных працаўнікоў з асяродзішча пролетарыяту і бяднейшых пластоў беларускага сялянства. Ухіленьне ад пастаноўкі якой-небудзь з гэтых задач абавязкова прывяло-б да скажэньня нашай лініі да непролетарскіх дробна-буржуазных ухілаў у нашым культурным будаўніцтве, да споўзваньня з пролетарскіх рэек, да паслабленьня позыцый рабочае клясы ў новай беларускай культуры.

Крытыка нацыянал-дэмократызму павінна заключацца, па-першае, у крытыцы таго багажу, які нам застаўся ад дарэволюцыйнай эпохі, па-другое, у крытыцы нацыянал-дэмократычных ухілаў і ўхільчыкаў, якія ёсьць у культурна-палітычнай, публіцыстычнай, навуковай і мастацка-літаратурнай дзейнасьці паасобных працаўнікоў як тых, што вырасьлі ў часе рэволюцыі з дробнай буржуазіі і сялянства, так і асабліва тых, хто перайшоў на службу рэволюцыі з лягеру нацыянал-дэмократыі і „адраджэнцтва“, па-трэцяе, у крытыцы спроб працягваць у нашу навуковую публіцыстычную і мастацкую літаратуру поглядаў, якія разглядаюць нацыю, як адзінае цэлае, якія ня бачаць клясавага змаганьня ў мінулым Беларусі і не даацэньваюць клясавага змаганьня зараз“ (Кнорын—„За культурную рэволюцыю“, стар. 79).

Задачы крытыкі абумоўлены і ўсімі тымі асаблівасьцямі, якія мае беларуская літаратура, аб чым мы гаварылі вышэй. Гэтыя асаблівасьці задач адбіваюцца нашай крытыкай, але прызнаючы і не адмаўляючы станоўчае ў крытыцы, мы ўсё-ж павінны яшчэ раз падкрэсьліць недастатковасьць у крытыцы. Лёзунг „тварам да конкрэтнай крытыкі“—зьяўляецца бальшавіцкім лёзунгам, мы яго павінны ажыцьцявіць. Комуністычная крытыка, разам з усёй пролетарскай літаратурай, змагалася і змагаецца за бальшавізм у літаратуры, змагаецца за дыялектычны мэтод, за гегемонію пролетарскай літаратуры. Зараз трэба конкрэтную крытыку перанесьці да кожнага літаратурнага зьявішча, да кожнага пісьменьніка, да паасобнага твору.

Нашы часопісы, на жаль, яшчэ вельмі слаба паставілі аддзелы крытыкі. Гэтая-ж хіба ёсьць і ў газэтах. Крытычныя аддзелы мастацкіх часопісаў пераважна павінны мець артыкулы па конкрэтных творах і асобных пісьменьніках. Разам з гэтым неабходна наладзіць тэматычныя агляды, анкеты чытачоў, колектыўную і масавую крытыку.

Вялізарны культурны рост пролетарыяту дае поўную магчымасьць шырокай пастаноўкі масавай рабочай крытыкі. Літаратурныя гурткі на прадпрыемствах маюць пэўныя магчымасьці зараз-жа наладзіць крытычныя разборы асобных твораў і асобных пісьменьнікаў, абгаварваючы і складаючы на гурткох крытычныя нататкі, прымаючы тэксты водзываў і г. д. У пастаноўцы масавай рабочай крытыкі вельмі шырокае поле дзейнасьці. Пісьменьнік павінен пайсьці на завод ня толькі са скончаным і надрукаваным творам, але вельмі карысна, каб гурток рабочых крытыкаў дапамагаў пісьменьніку ў процэсе работы над творамі. Пры паказе герояў соцыялістычнага будаўніцтва рабочы колектыў можа ўнесьці такія заўвагі і датакі да характарыстыкі асобы героя, якія іншы раз будуць дапаўняць і ўзмацняць твор. Рабочы колектыў жыве сваімі героямі, ён іх вылучае са свайго асяродзьдзя, ведае ўсю поўнасьць яго змаганьня, і пісьменьніку ў часе работы над творам не бескарысна мець гэтыя заўвагі. Такога парадку сувязь пісь-

меньніка з рабочымі крытыкамі ўзбагаціць твор, а з другога боку, выкліча актыўнасьць з боку рабочых да самага працэсу літаратурнай творчасьці.

Такая-ж узаемная сувязь у працэсе творчасьці можа быць у пісьменьніка і з паасобным крытыкам. У нас часьцей за ўсё мае месца толькі адзін від сувязі рэдагаваньне або таварыскі прагляд твораў у скончаным выглядзе. Гэтым абмяжоўвацца нельга. Мы ставім пытаньне аб цеснай сувязі пісьменьніка і крытыка ў працэсе работы. Таварыская дапамога крытыка ў часе работы будзе карысна. Праўда, тут ні у якім разе нельга ўводзіць які-небудзь стандарт або адміністрацыйнае разьмеркаваньне сіл. Гэта будзе штучна і мала карысна. Тут толькі на пачатках таварыскай дапамогі можа ісьці добрая работа. Такі саюз супрацоўніцтва пісьменьніка і крытыка, па нашай думцы, трэба наладзіць. Гэта—адзін з новых мэтодаў работы.

Асобнай увагі заслугоўвае ў сучасны пэрыод крытыка твораў рабочых-ударнікаў-пісьменьнікаў. Яны чакаюць больш, чым іншыя пісьменьнікі дапамогі крытыкі. Тут ні ў якім разе нельга дапусьціць барскіх апякунскіх адносін да рабочага пісьменьніка. Гэтага роду крытыка будзе шкодзіць. Таксама нельга дапусьціць і інтэлігенцкага „сюсюканьня“ аб творы рабочага, яму гэта непатрэбна. Ён чакае строгай, дзелавой, палітычнай крытыкі, але не прымірэнчай і ня барскай. На дапамогу новым кадрам пісьменьнікаў, якія злучаюць работу ля варштату з працай пісьменьніка, павінны прысьці нашы крытыкі, бо гэта адзін з відаў барацьбы за бальшавізацыю ў літаратуры, за гегемонію пролетарскай літаратуры.

Баявыя конкрэтныя задачы крытыкі добра сформуляваны ў пастанове апошняга пленуму Расійскай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў па дакладзе т. Авэрбаха. Яны, гэтыя задачы, уваходзяць у програму барацьбы за гегемогію пролетарскай літаратуры Савецкага Саюзу. Яны складаюць плян работы крытычных сэкцый пролетарскіх літаратурных аб'яднаньняў.

Галоўныя задачы зводзяцца да наступнага: „Поруч з задачай колькаснага ўздыму конкрэтнай крытыкі, пленум ставяць перад крытычнымі кадрамі РАПП наступныя асноўныя задачы: а) усямернае ўзмацненьне барацьбы з буржуазнымі варожымі пролетарыяту тэндэнцыямі ў літаратуры, што бясспрэчна актывізуюцца;

б) барацьба за мастацкую якасьць пролетарскай літаратуры пад кутом погляду соцыяльнай утылітарнасьці, бальшавіцкай партыйнасьці, падвышэньня ідэёва-палітычнага ўзроўню пад кутом погляду рашучага выкрыцьця і адпору ўсім клясава-варожым творчым уплывам;

в) сыстэматычнае ідэёвае кіраўніцтва творчай работай ударнікаў, крытычнае абагульненьне практыкі работы, выяўленьне ў ім тэндэнцый, якія знамянуюць як зараджэньне новых нябачных яшчэ форм пролетарскага мастацтва, так і рознага віду адмоўных уплываў (эмпірызм, цэхавая абмежаванасьць, з аднаго боку, і эстэцтва і эпігонцтва—з другога);

г) актыўнае садзейнічаньне творчаму разьмежаваньню пролетарскіх пісьменьнікаў, выяўленьне тых, што існуюць на практыцы, але неаформленых і неўсьвядомленых самімі пісьменьнікамі творчых кірункаў і рознагалосьсяў і інш.“ (з рэз. пленуму РАПП па дакладу т. Авэрбаха).

Глыбіня задач, якія стаяць перад крытыкай, патрабуе ад крытычных кадраў вялікай работы. У гэтай рабоце крытык павінен на падставе марксыцка-ленінскага мэтоду ўскрываць сутнасьць твору,—асобных

дасягненьняў, недахопаў і памылак. Тут патрэбна асаблівая настойлівасьць і сумленьне, каб патрабязна ўсё прааналізаваць, недапушчаючы аніякай надбайнасьці, бо яна часта дапамагае ворагу, якога трэба выкрыць.

У аднэй з рэдакцыйных паправак да артыкулу Альмінскага Ленін даў заўвагу, якая мае вялікае прынцыповае значэньне для нашай крытыкі. Адносна полемікі супроць Аксэльрода Ленін заўважае: „Аксэльрода Вы ня верна тлумачыце... Прынясеце орыгінал, паспрачаемся. Нельга даваць ворагам зброю („оружие“), ня верна тлумачачы іх.“ („Ленінскі зборнік“ XVI, стар. 269). Гэта Ленінская ўстаноўка вельмі актуальна для сучаснай крытыкі. У нас, на жаль, часта яшчэ даюць зброю ворагу ня верна тлумачачы яго.

... Той сёй яшчэ глядзіць на крытыку як на другарадную работу на ідэолёгічным фронце, не дааэцэньваюць значэньне і ролю крытыкі ў барацьбе на гэтым фронце. Работу гэтую ні ў якім разе нельга лічыць другараднай работай на літаратурным фронце. Недааацэнка разгортваньня крытыкі ў барацьбе за гегемонію пролетарскай літаратуры зьяўляецца адным з відаў опортуністычных адносін да барацьбы на літаратурным вучастку ідэолёгічнага фронту. З усякімі праявамі недаацэнкі крытыкі трэба змагацца самым рашучым парадкам. Пісьменьніцкія організацыі, літаратурныя гурткі, часопісы, газэты павінны шырэй скарыстаць гэтую зброю барацьбы за пролетарскі зьмест культуры наогул і літаратуры ў прыватнасьці. У разгортваньні марксыцкай крытыкі асобныя задачы ўскладаюцца на Таварыства марксыстаў-літаратуразнаўцаў і Інстытут літаратуры і мастацтва Беларускай Акадэміі Навук. Масавая работа Т-ва марксыстаў-літаратуразнаўцаў уключае і наладжваньне справу па ўцягненьні пролетарскіх мас у крытыку, бо ў абавязкі таварыства ўваходзіць: організацыя масавай работы, справа пропаганды марксызму і ленінізму ў пытаньнях літаратуры. Інстытут-жа літаратуры і мастацтва павінен скарыстаць добры прыклад Комуністычнай акадэміі ў наладжваньні навуковых крытычных дакладаў як па паасобных пісьменьніках, паасобных творах, так і па пытаньнях тэматыкі і г. д.

Марксыцкая комуністычная крытыка—вострая зброя ў барацьбе на літаратурным фронне. Гэтай зброяй аўладзяваюць шырокія пласты пролетарыяту. Крытыка, як частка літаратурнай справы, павінна стаць часткай агульна-пролетарскай справы.

## VIII. Літаратура і іншыя галіны мастацтва

Літаратурныя пытаньні цесна зьвязаны з пытаньнямі барацьбы за пролетрскае мастацтва наогул. Літаратура непарыўна і органічна зьвязана з такімі галінамі мастацтва, як тэатр, кіно, музыка. Барацьба за пролетарскую літаратуру ёсьць у той-жа час і барацьба за пролетарскі тэатр, кіно. На фронце мастацтва клясы, якія сходзяць з гістарычнай сцэны, шалёна супраціўляюцца за захаваньне сваіх позыцый, яны тут прымаюць асаблівыя прыёмы маскіроўкі варожых вылазак, а іншы раз робяць і адкрытыя вылазкі. Дыскусія аб нашай кінэматографіі, у якой выступалі з варожымі ўстаноўкамі Дыла і Зарэцкі, дыскуссіі аб шляхох беларускага тэатру (першая аб п'есе „Каля тэрасы“, другая аб пастаноўках БДТ І) у 1927 г. былі ўжо адкрытымі вылазкамі супроць пролетарскага мастацтва за захаваньне нацыянал-дэмократычных позыцый у мастацтве. У барацьбе з гэтымі вылазкамі ворага пролетарская літаратура адыграла важную ролю. Яна ня толькі

разам з пролетарскай грамадзкасьцю выкрыла і біла ворага, але процістравіла свае пролетарскія творы для тэатру і кінэматографіі.

У галіне тэатральнага мастацтва праведзена за апошнія гады вялікая барацьба за пролетарскі зьмест гэтага віду мастацтва. Нацыянал-дэмократы імкнуліся захаваць за сабой тэатр, скарыстаць сцэну для распаўсюджваньня сваіх ідэй праз такія пастаноўкі, як „Тутэйшыя“, „Апраметная“, В. Шашалевіча, „Скарына, сын з Полацку“—Н. Грамыкі, „Кастусь Каліноўскі“—Міровіча, „Вір“—Рамановіча, „Каля тэрасы“ і інш. Але на гэтым вучастку яны былі выкрыты і разгромлены. Пролетарская літаратура дала свае творы тэатру, блізкія пролетарыяту, творы, якія ўнесьлі карэнны пералом у наш тэатр.

„Гута“—Кобеца сапраўды зьявілася лепшым прыкладам творчасьці маладога рабочага драматурга. Недарма-ж „Гута“ была сустрэта ў штыхі з боку нацыянал-дэмократаў і нават на „Гуце“ зламалі сабе зубы і некаторыя нацыянал-опортуністы. Калі першыя проста адмаўляліся ставіць „Гуту“ і не прызнавалі яе п‘есай, дык другія, спасылаючыся на слабую сцэнічнасьць, на нявытрыманасьць з формальна-драматычнага боку, імкнуліся абкружыць „Гуту“ халадком нявер‘я, каб мякка кажучы, саботажам узяць „Гуту“ ў палон і зацерці. Але пролетарская грамадзкасьць прыняла „Гуту“ з натхненьнем, яна дала па руках тым, хто імкнуўся сарваць пастаноўку пролетарскай п‘есы. Зараз ўжо „прыяцелі“ не асьмельваюцца выступаць супроць „Гуты“, бо яна прызнана аднэй з лепшых п‘ес Савецкага Саюзу і на Усесаюзнай олімпіядзе ў Маскве і тым, што яна ідзе ў самых буйных гарадох Савецкага Саюзу на розных мовах Савецкага Саюзу. Пролетары Харкаву, Масквы, Растову і іншых гарадоў галасуюць за „Гуту“, вораг біты дасягненьнямі пролетарскай літаратуры і тэатру.

Зусім нядаўна пролетарская літаратура ўнесла яшчэ адзін уклад у тэатральнае мастацтва п‘есай „Качагары“—Гурскага. Але і гэта п‘еса зноў сустрэлася з прыяцелямі з нацыянал-опортуністычнага шляху. Хто-ні-хто імкнуўся абвінаваціць п‘есу ні ў чым іншым, як у тым, што яна ня наша (?!) і нават дагаварыліся да „мэтазгоднасьці (?!) зьняць „Качагары“ са сцэны. Гэтым малайцам рашучы адпор нанесла пролетарская грамадзкасьць, якая галасавала за „Качагары“, як за пролетарскую пастаноўку. Комуністычны друк нанёс канчатковы ўдар па нападках на пастаноўку, ЦО нашай партыі газэта „Зьвязда“ правільна ацаніла „Качагары“, дапамагла аўтару—маладому драматургу—выправіць рад недахопаў і памылак.

Мы не пералічваем фактаў барацьбы вакол такіх пастановак, як „Першая конная“, „Бронецягнік, і інш. перакладныя п‘есы, мы гаворым толькі аб беларускіх орыгінальных пастаноўках, якія дае пролетарская літаратура. Паказаныя факты гавораць за тое, што пролетарская літаратура знаходзіцца на правільным шляху ў галіне абслугоўваньня тэатральнага мастацтва. Але тут нельга праходзіць моўчкі міма тых недахопаў і прарываў, якія ёсьць. Першым і галоўным недахопам зьяўляецца зусім недастатковая ўвага з боку пролетарскай літаратуры далейшаму разьвіцьцю беларускага пролетарскага тэатральнага мастацтва. Нашы пісьменнікі яшчэ не далі ніводнай п‘есы такім тэатрам, як Дзяржаўны Вандроўны Тэатр, маладым баявым ТРАМ‘ам, рабочаму тэатру і нацыянальным вандроўным тэатрам. Гэтыя тэатры абслугоўваюць тысячы рабочых і колгасьнікаў. Ім патрэбны заўсёды жывыя актуальныя п‘есы, якія-б мобілізавалі масы на барацьбу за скончэньне пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі. Тут, бязу-

моўна, прарыў, на ліквідацыю якога трэба ўзьняць пісьменьнікаў і прыцягнуць новыя сілы з ліку літгурткоўцаў фабрык і заводаў.

Значнага палепшаньня патрабуе і справа дапамогі маладым драматургам у часе работы над творамі ў адточваньні самага твору і апрацоўцы яго. Літаратурныя часопісы павінны рашуча павярнуцца тварам да такіх галін мастацтва, як тэатр, кіно, музыка і выяўленчае мастацтва. Тут вельмі і вельмі мала зроблена.

Як у галіне тэатральнага мастацтва, так і ў галіне кінэматографіі мы маем добрыя прыклады пролетарскага мастацтва. Кінокарцінамі „Нянавісьць", „Рубікон", „Сонечны паход" і часткова „У агні народжаная" мы разгромілі „Его превосходительство" і „Кастусь Каліноўскі", далі адпор скажэньням ролі пролетарыяту і яго партыі, што была адбіта ў іншых ідэолёгічна нявытрыманых карцінах („Хвоі гамоняць", „Готэль Савой"). Але „Нянавісьць", „Рубікон", „Сонечны паход" — гэта добры пачатак, які неабходна замацоўваць і разьвіваць. Імі пачаўся пераломны этап у разьвіцьці беларускай кінэматографіі, іх значымасьць для мастацтва вялікая.

Беларуская мастацкая літаратура павінна шырэй разгарнуць сцэнарную творчасьць, узмацоўваць пролетарскую кінэматографію. Тут зноў пролетарская літаратура павінна мець вядучую ролю, яна павінна ўпарта змагацца за пролетарскі зьмест кіно.

Зусім слабым месцам у галіне сувязі літаратуры з іншымі відамі мастацтва зьяўляецца сувязь літаратуры з музыкай. На музычным фронце ідзе разгорнутая барацьба. Асабліва гэта адчуваецца ў нас, у БССР, дзе музычны фронт яшчэ слабы, тут буржуазная, нацыянал-дэмократычная ідэолёгія яшчэ ня выкрыта да канца, ў барацьбе з варожымі плынямі ў музыцы трэба яшчэ шмат зрабіць. Вопыт барацьбы за гегемонію пролетарскай літаратуры мы павінны перадаць і нашым таварышом з музычнага фронту, дапамагчы ім біць буржуазных і нацыянал-дэмократычных ідэолёгаў у музыцы, дапамагчы змагацца з цыганшчынай, фокстротшчынай і халтурай.

Але ня толькі з гэтага будзе складацца брацкая таварыская дапамога, яна ўключае ў сябе і практычную работу пісьменьніка сумесна з композытарам і музыкантам. Возьмем толькі адзін-два прыклады гэтай сумеснай работы. Мы ідзем на дэмонстрацыю, праводзім час адпачынку, ідзем з работы і вельмі часта адчуваем, што няма ў нас масавай новай песьні з моцнымі словамі і моцнай па сваёй музыцы. Значэньне такога сьпеву бясспрэчна вялікае. У нас ёсьць добрыя сьпевы і па словах і па мэлёдыі, якія створаны на фабрыках, колгасах, але іх трэба апрацоўваць, адточваць, узбагачаць словамі і апрацоўваць музычна, каб яны зрабіліся масавымі новымі сьпевамі. Гэта справа пісьменьніка і композытара, за гэтую справу трэба ўзяцца з энтузіязмам.

Мы рыхтуем і нядрэнныя новыя сілы, створана і працуе опэрная студыя, якая ўжо дала першую пастаноўку опэры „Залаты пеўнік". Пастаноўка, як першая спроба ў разьвіцьці беларускай опэры, праходзіць здавальняюча. Ёсьць сілы, ёсьць уменьне мастацкі аформіць пастаноўку, але няма яшчэ новых слоў таму і бяруць „Залаты пеўнік" і працуюць над ім. Беларускай опэрнай студыі трэба даць новую опэру, даць новы зьмест опэрнага твору, а гэта справа нашай літаратуры і ў першую чаргу пролетарскай.

Шматграннасьць сумеснай работы літаратуры і музыкі вялікая і багатая ў сваім выніку. Літаратура і музыка павінны аб'яднанымі сіламі ствараць новае пролетарскае музычнае мастацтва.

Ня меншы па сваёй значнасьці ёсьць разрыў паміж літаратурай і выяўленчым мастацтвам. Праўда, тут БелАПП і РОМБ у свой час заключылі саюз сумеснай работы, але зноў гэта толькі пачатак перадачы вопыту барацьбы за пролетарскае мастацтва.

БелАПП і Фэдэрацыя аб'яднаньняў савецкіх пісьменьнікаў павінны больш рашуча павярнуцца тварам да іншых галін мастацтва, быць застрэлшчыкам распрацоўкі раду пытаньняў у галіне кірунку і творчага мэтоду асобных галін мастацтва, наладжваць аб'яднаныя вытворчыя нарады, пасылаць аб'яднаныя брыгады на прадпрыемствы і г. д. Поўным комплексам мерапрыемстваў літаратура павінна быць шчыльней увязана з іншымі галінамі мастацтва. Пролетарская літаратура тут павінна мець вядучую ролю, бо яна ёсьць перадавы атрад на фронце барацьбы за пролетарскае мастацтва.

## IX. За бальшавізацыю літаратуры

Выкананьне ролі і задач мастацкай літаратуры патрабуе ад пісьменьніка аўладаньня марксыцка-ленінскай тэорыяй, дыялектычна-матэрыялістычным мэтодам у творчасьці,—мэтодам, пры дапамозе якога толькі і магчыма правільна пазнаваць, правільна паказваць і ўскрываць усю складанасьць барацьбы і будаўніцтва на даным этапе. Толькі аўладаўшы дыялектыка-матэрыялістычным творчым мэтодам, пісьменьнік здолее змагацца з прымітывізмам, павярхоўнасьцю і лякіроўкай рэчаіснасьці, якія зьніжаюць ролю літаратуры.

Пісьменьнік зброяй мастацкага слова ўздзейнічае на рэчаіснасьць, ён яеператварае. Ужываючы ў творчасьці мэтод дыялектычнага матэрыялізму, ён здолее з посьпехам выканаць гэтую задачу. Аўладаньне дыялектычна-матэрыялістычным мэтодам у творчасьці і марксыцка-ленінскай тэорыяй і павінна быць у цэнтры ўвагі нашых літаратурных організацый і ўсяго пролетарскага руху. Але „аўладаньне ленінскай спадчынай павінна праходзіць у непарыўнай сувязі з вывучэньнем прац Пляханава, Вароўскага, Фрычэ і інш. марксыстаў-мастацтвазнаўцаў. Асаблівую важнасьць набывае крытычны перагляд пляханаўскай спадчыны ў сьвеце яго філёзофскіх памылак і палітычнага меншавізму... як-бы каштоўнымі ня былі тыя ці іншыя дасягненьні пералічаных вышэй марксыстаў-мастацтвазнаўцаў (у прыватнасьці Пляханава), без належнай распрацоўкі ленінскай спадчыны пролетарская літаратура ня вырашыць ніводнага коордынальнейшага пытаньня тэорыі і творчага мэтоду, якія перад ёю стаяць, і што адгэтуль ўсякая недаацэнка задачы работы над Леніным зьяўляецца па сутнасьці справай паўтарэньня апортуністычных памылак „дэборынскай школы“ (з рэз. пленуму РАПП па дакладу тав. Авэрбаха).

Змагаючыся за аўладаньне марксыцка-ленінскай тэорыяй, мы павінны весьці ў далейшым пад кіраўніцтвам партыі самую бязьлітасную барацьбу на два фронты супроць правай небясьпекі і „левых тэорый“ у пытаньнях літаратуры. Пролетарскі атрад літаратуры разграміў вароншчыну і пераверзеўшчыну, разгортваецца барацьба з уплывам дэборыншчаны на крытыку, выкрыты і пабіты лефаўска-„літфронтоўскія“ тэорыі ліквідацыі пролетарскага мастацтва, але карэньні гэтых уплываў яшчэ жывыя, яны ня выкарчаваны, таму барацьба з гэтымі ўплывамі павінна быць жорсткая і неаслабная. Ня здымаецца вострасьць барацьбы з нацыянал-дэмократызмам, які ў адмаўленьні магчымасьцяй існаваньня пролетарскай літаратуры наогул і ў некаторых іншых пытаньнях літаратурнай палітыкі змыкаецца з троцкізмам—вароншчынай.

Ва ўмовах Беларусі мы ня так даўно мелі праяўленьне перавер-зеўшчыны ў паасобных выступленьнях (Саўсун), нават знашліся пры-хільнікі капітулянцкіх тэорый „літфронту", опортуністычныя адносіны да барацьбы за гегемонію пролетарскай літаратуры, яшчэ маюць месца і на сёньня ў беларускім літаратурным руху. Усё гэта патрабуе пільнай, неаслабнай увагі да барацьбы за бальшавізацыю, за партыйнасьць літаратуры.

Непадзельнай часткай бальшавізацыі пролетарскай літаратуры зьяўляецца змаганьне з адхіленьнямі ад ленінскай лініі ў нацыянальным пытаньні і барацьба з праявамі вялікадзяржаўнага шовінізму, з беларускім контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам і шовінізмамі яўрэйскім, польскім і інш.

Сіла пролетарскай літаратуры заключаецца ў ідэёвай бальшавіцкай непрымірымасьці да ўсіх адхіленьняў ад ленінскай тэорыі ў пытаньнях літаратуры. Гэтай бальшавіцкай непрымірымасьцю павінна быць прасякнута ўся літаратурна-палітычная дзейнасьць Беларускай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў, бо пролетарскі атрад літаратуры (БелАПП) зьяўляецца апорай партыі ў барацьбе за партыйнасьць літаратуры, у барацьбе за бальшавізацыю літаратуры.

## X. Соцыялістычнымі методамі работы змагацца за гегемонію пролетарскай літаратуры

Ажыцьцяўленьне лёзунгу стварэньня вялікага мастацтва бальшавізму будзе праходзіць пасьпяхова толькі пры ўмове бальшавіцкіх тэмпаў па перабудове літаратурных організацый, па яшчэ большым уключэньні літаратуры ва ўсю практыку соцыялістычнага будаўніцтва, пры ўмове ўнядрэньня соцыялістычных мэтодаў работы па ўсіх галінах пролетарскага літаратурнага руху.

У комплексе гэтых пытаньняў адно з першых месц займае барацьба за высокамастацкую якасьць твораў, „колькасны рост нашай літаратуры павінен суправаждацца якасным ростам, удасканаленьнем мастацкай формы, выработкай мастацкіх прыёмаў, найбольш глыбокага і найбольш моцнага ўзьдзейнічаньня на масы, найбольш організуючага волю, энэргію, настойлівасьць і ўпартасьць мас у дасягненьні вызначанай мэты, у паскораньні тэмпаў, у палепшаньні якасьці, аўладаньні тэхнікай і г. д." („Правда" за 19/IV-1931 г. „За пролетарскую літаратуру").

Шляхам якаснага росту пролетарская літаратура ідзе да заваяваньня мастацкага правасходзтва творчасьці пісьменьнікаў рабочае клясы, якія ствараюць вялікае мастацтва бальшавікоў. У змаганьні за мастацкую якасьць творчасьці пісьменьнікі будуць ужываць формы колектыўнай творчай работы (групы, брыгады і інш.). Тут падвышаецца адказнасьць кожнага аўтара і павялічваецца ўдзельная вага ў агульнай творчай рабоце пролетарскай літаратуры. Пісьменьнік у колектыўнай рабоце шырэй разгорне і яскравей выявіць свае асабістыя здольнасьці. Якасны рост літаратуры зьвязаны з торчай дыфэрэнцыяцый, з скла-даньнем розных творчых груп у агульным патоку пролетарткага літаратурнага руху, груп пісьменьнікаў, якія дамагаюцца стварэньня новага творчага мэтоду ў мастацтве. Трэба ўсямерна падтрымоўваць разьвіцьцё творчых напрамкаў, якія, стоячы на агульнай творчай пляцформе пролетарскай літаратуры, змагаюцца за аўладаньне мэтодам дыялактычнага матэрыялізму.

Разам з гэтымі мэтодамі работы пролетарская літаратура павінна шырока разгарнуць творчае спаборніцтва паміж групамі, брыгадамі, творчымі напрамкамі і асобнымі аўтарамі за лепшую якасьць твораў, за актуальнасьць, правільнае ўжываньне дыялектычнага мэтоду ў конкрэтным творы і г. д.

Творчае спаборніцтва толькі тады будзе сапраўдным соцыялістычным мэтодам, калі яно будзе конкрэтызавана і накіравана на ажыцьцяўленьне задачы бальшавізацыі літаратуры.

Разготваньне барацьбы за якасьць, правільны напрамак работы творчых груп, шырокае ўжываньне мэтоду творчага спаборніцтва павінны быць забясьпечаны сапраўдным бальшавіцкім разгортваньнем і паглыбленьнем бальшавіцкай самакрытыкі. Мы нядрэнна разгортваем самакрытыку па організацыйных пытаньнях літаратурнага руху, пытаньнях політычнай лініі, трэба шырэй разгарнуць самакрытыку і ў пытаньнях творчай і тэорэтычнай работы, толькі пры ўмове разгортваньня самакрытыкі можа быць забясьпечана пасьпяховая барацьба за бальшавізацыю літаратуры. Самакрытыка павінна стаць сталым мэтодам штодзеннай, шматгранай работы літаратурных організацый.

Сярод новых мэтодаў работы асаблівай увагі заслугоўвае вытворчая нарада па паасобных пытаньнях літаратуры. Ужо на падставе той практыкі, якую маем з правядзеньня вытворчых нарад, можна сказаць, што такія нарады пры правільным кіраўніцтве зьяўляюцца сродкам мобілізацыі пролетарскай літаратуры на барацьбу за генэральную лінію партыі, сродкам барацьбы за падвышэньне мастацкай якасьці літаратуры, сродкам разгортваньня творчага спаборніцтва і колектыўных форм літаратурнай работы. Аднак, творчыя нарады яшчэ не ахапілі сумежных галін мастацтва, як тэатр, кіно, музыка і выяўленчае мастацтва. Рад практычных пытаньняў, у якіх літаратура цесна зьвязана з гэтымі галінамі мастацтва, павінен быць пастаўлены на аб'яднаныя вытворчыя нарады. Наладжваньне работы вытворчых нарад, сыстэматычнасьць работы значна палепшыць абмен практыкай у барацьбе за сапраўднае пролетарскае мастацтва.

Ня меншую ролю адыгрывае і плянавасьць у рабоце. Мы яшчэ, на жаль, вельмі часта выпадкова альбо іншы раз бяссыстэмна праводзім камандыроўкі пісьменьнікаў на фабрыкі, заводы і колгасы. Нярэдка добрыя, прыкладныя прадпрыемствы і колгасы застаюцца зусім невядомымі пісьменьнікам, якія шукаюць гэтых прыкладаў. Тут ня трэба займацца адкрыцьцем Амэрыкі, куды ехаць, а толькі паставіць гэту работу на плянавых пачатках. Няма плянавасьці і ў такіх галінах, як забесьпячэньне выданьня мастацкіх твораў, падрыхтоўка літаратурных кадраў і іншае. Плянавыя органы (культсэктар Дляржпляну, НКА, Галоўмастацтва), ЦСПСБ (культсэктар) яшчэ не ўвязалі як належыць усёй работы па пролетарскаму літаратурнаму руху ў пэўныя пляны ні з боку скарыстаньня сіл, ні з боку падрыхтоўкі кадраў і г. д. Да слова гаворачы, і ў самой рабоце літаратурных аб'яднаньняў няма належнай выразнай плянавасьці ў той час, як у літаратурнай справе неабходна плянавая работа. БелАПП і Фэдэрацыя аб'яднаньняў павінны ліквідаваць гэты недахоп у сваёй практычнай дзейнасьці.

Мы закранулі толькі некаторыя пытаньні аб мэтодах работы, літаратурныя аб'яднаньні ўсю сваю работу павінны праводзіць соцыялістычнымі мэтодамі, бо саматужныя, цэхавыя прывычкі і прыёмы работы тармозяць пасьпяховасьць работы, якая накіравана на заваёў-

ваньне гегемоніі пролетарскай літаратуры. Толькі социялістычнымі мэтодамі работы мы з посьпехам будзем змагацца за гегемонію пролетарскай літаратуры.

---

У нас маюцца ўсе прадпасылкі для стварэньня вялікага мастацтва бальшавізму. Яны складаюцца і з разгортваньня культурнай рэволюцыі пролетарыяту, з нябачнага ўздыму творчай энэргіі рабочай клясы, якая ўзьняла справу заклiку рабочых-ударнікаў у літаратуру. Стварэньне вялікага мастацтва бальшавізму забясьпечана тымі вялікімі магчымасьцямі, якія ёсьць для пролетарскага мастацтва пры аўладаньні ім марксыцка-ленінскім сьветапоглядам.

Пролетарская літаратура ідзе па верным шляху да стварэньня вялікага мастацтва бальшавізму, якое будзе сапраўды „новым крокам ў мастацкім разьвіцьці чалавецтва“ (Ленін).

Май-чэрвень 1931 г.

---

# МАТЭРЫЯЛЫ і ДОКУМЭНТЫ

## Задачы партыі ў галіне вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў

*(Рэзолюцыя V пленуму ЦК КПЗБ)*

### I. Агульная сытуацыя і ўвязка клясавых сіл нацыянальна-вызваленчага руху

1. У сучаснай сытуацыі паглыбляючагася з кожным днём гаспадарчага крызісу, завостранага на ЗБ, дзякуючы грабежніцкай окупанцкай політыцы, у варунках магутнага наплыву рэволюцыйнай хвалі ва ўсёй Польшчы, вызваленчы рух прыгнечаных народаў супроць польскага імпэрыялізму набірае асаблівага значэньня, як састаўная частка агульнай барацьбы працоўных мас за рэволюцыйнае вырашэньне крызісу. Барацьба прыгнечаных і ўцісканых народаў супроць польскага імпэрыялізму расьце нароўні і ў сьціслай сувязі з клясавай барацьбой пролетарыяту, з барацьбой працоўнага сялянства супроць паднявольваючай іх сыстэмы вызыску, грабяжу і ўціску. Гэта ставіць перад партыяй задачу ўзмацненьня політычнай ініцыятывы і сваёй кіруючай ролі ў адносінах да гэтага руху.

2. Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух выказвае ў барацьбе з фашысцкім тэрорам і нацыянал-фашысцкаю здрадаю вялікую жыцьцёвасьць, непахісную вернасьць баявым лёзунгам слаўнай Сялянска-Работніцкай Грамады. Ня гледзячы на катаржныя прысуды, арышты, кары і поліцэйскія прасьледваньні, масы зацята змагаюцца за кожнае заваяваньне нацыянальна-вызваленчага руху. Гаспадарчая руіна і нэндза шырокіх мас у выніку окупацыйнай політыкі, поліцэйскае душэньне і ліквідаваньне організацый нацыянальна-вызваленчага руху, агульнае завастрэньне фашысцкага тэрору, завостраная політыка полёнізацыі, нацыянальнага ўціску (дэкрэт аб неадчыненьні беларускіх школ на працягу 7-мі гадоў, забарона і арыштаваньне зьездаў ТБШ, прасьледваньне „гражданкі“ і навязваньне „лацінкі“, зачыненьне беларускай гімназіі ў Клецку, яўрэйскай сэмінарыі ў Вільні і т. п.) павялічвае актыўнасьць мас у нацыянальна-вызваленчым руху.

Барацьба сялянскіх мас супроць окупацыі знаходзіць выраз у выступленьнях супроць прыгнятаючых іх цяжараў і фашысцкай аграрнай політыкі, а таксама ў шырокім удзезе гэтых мас у кампаніях і політычных акцыях пад кіраўніцтвам КПЗБ. Факты падпалаў фольварковых і кулацкіх будынкаў і дзяржаўных устаноў, замахі на чыгункі і пошту, замахі на паасобных чыноўнікаў і агентаў окупацыі надаюць часам гэтаму руху характар, які набліжаецца да леташняга руху на Заходняй Украіне. У паасобных мясцовасьцях адзначаецца рост партызанскіх настрояў.

Пры наяўнасьці магутнеючай барацьбы народных мас ЗБ супроць окупацыі і ў сувязі з форсаванай падрыхтоўкай да вайны з СССР, урады польскай буржуазіі становяцца на ЗБ усё ў большай ступені ўрадамі фактычнага ваеннага стану, пераходзячага ў мэтоды грамадзянскай вайны (масавае высяленьне з краю былых політычных арыштаваных і мэтоды карных экспэдыцый на вёсцы).

3. Сучасны пэрыод нарастаньня хвалі нацыянальна-вызваленчага руху адрозьніваецца ад пэрыоду высокага напружаньня гэтага руху пару гадоў таму назад перш за ўсё тым, што клясавае распластаваньне ўнутры беларускага народу і асабліва ўнутры беларускай вёскі пайшло з таго часу значна наперад. Завастрылася клясавая барацьба беларускіх працоўных мас ня толькі супроць польскіх капіталістаў і абшарнікаў, але таксама супроць буржуазіі і беларускага кулацтва. Кулацкая верхавіна вёскі аддзяляецца ўсё больш выразна ад зруйнаваных праз крызіс і праз усю політыку польскага імпэрыялізму бядняцка-серадняцкіх мас. Беларускі кулак, таксама як польскі і літоўскі, шукае для сябе выйсьця з аграрнага крызісу шляхам эксплёатацыі сялянскіх мас (суседзкае ліхвярства і г. д.) і грабяжу зямель, абапіраючыся на окупацыйныя ўлады (комосацыя і г. д.). Узмацняецца клясавая барацьба на беларускай вёсцы як на грунце экономічным, так і на грунце адносін да окупацыйных уладаў (барацьба на грунце комосацыі і ліквідацыі сэрвітутаў, расправы з войтамі і іншымі агентамі окупацыі).

На другім баку граніцы, у БССР, *мы маем таксама завастрэньне клясавай барацьбы*, але ў варунках *якраз адваротных*, чым на ЗБ. Шпарка разгортваецца *соцыялістычная прамысловасьць* у даўней выключна аграрным і бедным краі, паўстаюць буйныя мэталёвыя, тэкстыльныя, хэмічныя прадпрыемствы, магутныя электрастанцыі (Менск, Віцебск, Бабруйск, Асінаўская, Гомель). *Колектывізацыя сялянскіх гаспадарак* уздымае гаспадарку асноўнай бядняцка-серадняцкай масы на вышэйшы тэхнічны ўзровень (тысячы трактараў на палёх БССР), павялічвае яе засевы, ураджаі, прыбыткі. Побач з гаспадарчым ростам ідзе магутнае разьвіцьцё беларускай пролетарскай культуры, што знаходзіць свой выраз у росквіце навукі, мастацтва і літаратуры, ва ўсеагульным абавязковым навучаньні ў роднай мове дзіцяці, у Беларускім Унівэрсытэце ў Менску, Акадэміі Навук і цэлым радзе вышэйшых навуковых установ, якія выхоўваюць дзяцей рабочых і сялян. Соцыялістычнае будаўніцтва і асабліва посьпехі колектывізацыі асуджаюць кулацтва—асноўны капіталістычны элемэнт у БССР — на поўную ліквідацыю, як клясы, і выклікаюць шалёнае супраціўленьне капіталістычна-кулацкіх элемэнтаў. Гэтыя-ж элемэнты шукаюць апоры ў польскім імпэрыялізьме і становяцца яго агентурай у падрываньні соцыялістычнага будаўніцтва і падрыхтоўцы грунту для ваеннай інтэрвэнцыі (контррэволюцыйная організацыя беларускіх „нацыянал-дэмократаў“).

4. Бег падзей пацьвярджае нацыянал-фашысцкі характар групы Луцкевіча-Астроўскага, які да нядаўнага часу быў яшчэ няясны для многіх членаў нашай партыі. У мінулым пэрыодзе гэта група, якая найбольш выразна акрэсьляе політычную позыцыю беларускай буржуазіі, прайшла шмат шляхоў ад падмазваньня пад рэволюцыйныя лёзунгі Грамады да „чорнай кавы“ ў ваяводы Кіртыкліса, да адкрытага супрацоўніцтва з польскім імпэрыялізмам на грунце ўзмацненьня яго панаваньня на ЗБ і далейшага рабаваньня беларускіх зямель. Гэтая позыцыя беларускай буржуазіі вынікае з непрымірымых супярэч-

насьцяй, якія ў даных конкрэтных варунках узьнікаюць паміж яе клясавымі інтарэсамі і вызваленчай барацьбой асноўных мас беларускага народу, якія змагаюцца за зваленьне польскай окупацыі, г. зн. адначасова зьнішчэньне нацыянальнага ўціску і за зьнішчэньне абшарніцкай і буржуазна-кулацкай эксплёатацыі.

Барацьба гэтых мас б'е ня толькі па польскай окупацыі, але і па беларускіх прыгнятацелях — буржуазіі і кулакох. З гэтай прычыны беларуская буржуазія запрадае інтарэсы беларускага народу, з гэтай прычыны яна ўсё больш зацясьняе адзіны фронт з польскім імпэрыялізмам у барацьбе супроць рэволюцыйнага руху.

Беларуская буржуазія, узмацняючы свой саюз з буржуазіяй пануючага народу, імкнецца ўцягнуць масы ў круг уплываў фашысцкай дыктатуры і зрабіць з іх сьляпую прыладу яе інтэрвэнцыйных плянаў. Асноўным лёзунгам беларускай буржуазіі зьяўляецца лёзунг адзінага нацыянальнага фронту, супрацьстаўленьне клясавай барацьбе. Ідучы бязупынна супроць БССР і супроць беларускага нацыянальна-вызваленчага руху на ЗБ, беларускія буржуазныя партыі стараюцца апраўдаць завастрэньне рэжыму фашысцкай окупацыі на ЗБ неабходнасьцю барацьбы супроць уплываў комунізму ў нацыянальна-вызваленчым руху. Высоўваючы лёзунг творчай гаспадарчай і культурнай працы і супрацоўніцтва з фашысцкай дыктатурай, яны рэклямуюць паасобныя дробныя ўступкі ўраду на карысьць беларускай буржуазіі (як, напрыклад, так званая беларуская сэмінарыя ў Вільні, як уваход ураду на шлях заспакаеньня нацыянальных дамаганьняў прыгнечанага беларускага народу).

Усе гэтыя рысы выяўляе асабліва яскрава група Луцкевіча-Астроўскага. Іншыя буржуазна-нацыяналістычныя беларускія групоўкі (беларуская хрысьціянская дэмократыя, Сельсаюз і іх агентуры, як Беларускі Нацыянальны камітэт, Інстытут Беларускай гаспадаркі і культуры), лічачыся з варожасьцю мас да фашысцкае окупацыі, прыкрываюць свой саюз з буржуазіяй пануючага народу опозыцыйнай фразэолёгіяй, высоўваючы ў першую чаргу саюз з буржуазіяй іншых прыгнечаных народаў (украінскай, літоўскай і яўрэйскай) і праводзячы напружаную акцыю для прышчапленьня працоўным масам рэлігійных забабонаў і забабонаў нацыянальнай нянавісьці.

Нацыянальна-вызваленчы рух зьяўляецца па сваёй сутнасьці рухам найшырэйшых народных мас, перад усім сялянства, які ахоплівае таксама шырокія пласты гарадзкой дробнай буржуазіі, працоўнай інтэлігенцыі і г. д.,—супроць імпэрыялістычнай польскай буржуазіі. У гэтым руху кіруе пролетарыят, які, змагаючыся за савецкую ўладу, за дыктатуру пролетарыяту, за соцыялізм, змагаецца адначасова за нацыянальнае вызваленьне.

Мэты нацыянальна-вызваленчага руху беларускага народу, зьяўляючыся супярэчным інтарэсам беларускай буржуазіі, знаходзяць сваё ажыцьцяўленьне ў пролетарскай рэволюцыі, якая дасьць вольнасьць прыгнечаным народам і абшарніцкую зямлю бяз выкупу сялянскім масам.

5. Ня менш важнай рысаю сучаснай сытуацыі нацыянальна-вызваленчага руху зьяўляецца рэволюцыянізаваньне *польскага пролетарыяту на ЗБ*, перадавая частка якога бачыць ва ўрадах окупацыі ня „свой“ нацыянальны ўрад, а клясавага ворага. Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух і вызваленчы рух іншых прыгнечаных польскім імпэрыялізмам народаў, напатыкаючыся на здраду сваёй буржуазіі,

знаходзіцца адначасова ў адных радах на адным баку барыкад з польскім пролетарыятам ЗБ і з пролетарыятам усёй Польшчы.

Беларускі народ здабудзе нацыянальную свабоду шляхам пролетарскай рэволюцыі, рука аб руку і пад кіраўніцтвам пролетарыяту ўсёй Польшчы. У гэтым баявым саюзе пролетарыят, як адзіная пасьлядоўная і да канца рэволюцыйная кляса, зьяўляецца па сутнасьці справы правадыром і гегемонам. КПЗБ, як партыя пролетарыяту ЗБ бяз розьніцы нацыянальнасьцяй, зьяўляецца выразам яго клясавага адзінства і палітычнай самастойнасьці, але таксама і выканаўцай яго кіруючай ролі ў дачыненьні да найшырэйшых народных мас. Бо пролетарыят выдзяляецца як кляса „не для таго, каб кіруючая кляса *замыкалася ў сябе самой*, а абмяжоўвалася вузкай меркаю... але для таго, каб передавая кляса, свабодная ад палавіннасьці, ад недахопаў роўнавагі, нерашучасьці сярэдніх пластоў, з тым большым энтузіязмам змагалася за справу ўсяго народу, на чале ўсяго народу“ (Ленін). У варунках ЗБ „справа ўсяго народу“ ў шырэйшым значэньні гэтага слова,—справа беларускага народу,—гэта рух нацыянальна-вызваленчы. Стоячы на чале гэтага руху, кіруючы ім супроць польскага імпэрыялізму і яго саюзьнікаў—беларускай буржуазіі і кулацтва—*пролетарыят зьяўляецца істотным прадстаўніком Беларускай нацыі* ў яе барацьбе за нацыянальнае вызваленьне, неразрыўна зьвязаным з барацьбой за соцыяльнае вызваленьне.

6. Барацьбу за зьнішчэньне ланцугоў прымусу, якія прыкоўваюць Заходнюю Беларусь да імпэрыялістычнай Польшчы, г. зн. барацьбу за вызваленьне ЗБ з-пад польскай окупацыі, наша партыя праводзіць пад сваім асноўным лёзунгам у нацыянальным пытаньні—*права прыгнечаных нацый на самавызначэньне аж да аддзяленьня.* Праз гэты лёзунг пролетарыят Польшчы адмяжоўваецца ад імпэрыялістычнай палітыкі польскай буржуазіі і супрацьстаўляецца гэтай палітыцы ў саюзе з нацыянальна-вызваленчым рухам прыгнечаных польскім імпэрыялізмам народаў. Гэты лёзунг, як *прынцып* вырашэньня нацыянальнага пытаньня шляхам пераможнай пролетарскай рэволюцыі, мы супроцьстаўляем буржуазнаму нацыяналізму, ідэолёгіі і палітыцы нацыянальнай нянавісьці, выраджэньня, нацыянальнага ўціску, захопу і анэксіі. Гэты лёзунг мы супроцьстаўляем програме ўзмацненьня і пашырэньня окупацыі ў форме „фэдэрацыі“, „аўтономіі“ і г. д., якія агалашаюцца фашызмам і соцыял-фашызмам, а таксама супроцьстаўляем фразэолёгіі буржуазіі пераможаных нацый аб „непадлегласьці“, што маскуе саюз гэтай буржуазіі з імпэрыялізмам пануючага народу.

Для таго, каб гэты лёзунг мог у сучасных варунках пасьпяхова служыць нашай барацьбе з нацыяналістычнай дэмагогіяй буржуазіі і мобілізаваць пад кіраўніцтвам пролетарыяту найшырэйшыя масы прыгнечаных нацый, трэба ўнікаць формулёвак, якія могуць зацямніць падставовыя думкі, заключаныя ў лёзунгу самавызначэньня аж да аддзяленьня, а іменна: 1) бязьлітасная барацьба з польскім імпэрыялізмам супроць окупацыі; 2) *цалкам свабодны і няпрымушаны выказ волі* данай нацыі ў пытаньні дзяржаўнай прыналежнасьці; 3) шлях да ажыцьцяўленьня гэтага лёзунгу ў сучаснай сытуацыі вядзе толькі праз супольную рэволюцыйную барацьбу працоўных мас Заходняй Беларусі і ўсёй Польшчы пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго партыі за зваленьне дыктатуры буржуазіі.

У штодзеннай сваёй агітацыі партыя высьвятляе масам, што толькі ў выніку пролетарскай рэволюцыі магчыма цалкам злучыць

разарваныя імпэрыялізмам беларускія землі ў адну Беларускую Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку.

7. Пры вызначэньні сваіх задач і тактыкі ў адносінах да нацыянальна-вызваленчага руху партыя выходзіць з падставы, што на грунце барацьбы прыгнечаных нацый супроць польскага імпэрыялізму і окупацыі можна і неабходна мобілізаваць найшырэйшыя народныя масы ў тым ліку і тыя соцыяльныя пласты—шырокія пласты дробнай буржуазіі,—якія ня ідуць да барацьбы пад сьцягамі комунізму.

Стоячы на чале нацыянальна-вызваленчай барацьбы, разгортваючы і організуючы яе, партыя завязвае на грунце гэтага руху *баявы саюз* пролетарыяту з усімі элемэнтамі, гатовымі актыўна змагацца супроць польскага імпэрыялізму. У дачыненьні да гэтага саюзьніка партыя рэалізуе гегемонію пролетарыяту, змагаючыся з уплывамі контррэволюцыйнага, буржуазнага нацыяналізму. Партыя павінна ў сваёй тактыцы прыняць пад увагу сваясаблівы дробна-буржуазны характар сярэдніх соцыяльных пластоў, такім чынам, каб накіраваць іх нацыянальна-вызваленчую барацьбу ў рэчышча пролетарскай рэволюцыі.

Барацьба за гэтыя сярэднія пласты ў сучаснай сытуацыі—у варунках нарастаючай рэволюцыйнай сытуацыі ў Польшчы і падрыхтоўкі польскага імпэрыялізму да вайны супроць СССР—прымае першачарговае значэньне, асабліва на ЗБ, дзе адносная ўдзельная вага гэтых пластоў зьяўляецца большай, чым у Польшчы. Ня гледзячы на агульны процэс рэволюцыянізаваньня таксама і гэтых пластоў, польскі фашызм і беларускі нацыянал-фашызм могуць выкарыстаць уласьцівыя ім хістаньні, уплываючы на іх пры дапамозе дэмагогічнай агітацыі, абяцанак, дробных уступак і тэрору. Барацьба нашай партыі з беларускім нацыянал-фашызмам зьяўляецца па сваёй істоце асабліва і перш за ўсё барацьбой за гэтыя сярэднія пласты.

8. Пленум пацьвярджае, што ў сучаснай практыцы партыйных організацый была невыстарчальна выражана позыцыя партыі адносна вызваленчай барацьбы прыгнечаных нацый і роля пролетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху. Рад важных недахопаў і памылак у партыйнай практыцы звужае палітычную ініцыятыву партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху і затрудняе мобілізацыю рэволюцыйных сіл на грунце гэтага руху.

У сучаснай партыйнай практыцы ў нацыянальна-вызваленчым руху пераважала пропагандысцка-агітацыйная акцыя і барацьба на адным, праўда, вельмі важным, але абмежаваным адрэзку—навокал легальных організацыйных пляцовак. Такія звужаныя задачы ўскладаюцца пры гэтым на практыцы на наличных членаў партыі, якія працуюць у гэтай галіне, і на пэўную колькасьць вясковых ячэек. Большасьць партыйных організацый, асабліва гарадзкія організацыі, большасьць раённых камітэтаў і акруговых камітэтаў у гэтай галіне амаль зусім *пасыўны* і задавальняюцца мэханічным паўтарэньнем агульных лёзунгаў партыі ў нацыянальным пытаньні.

Недапушчальна (як гэта здаралася ў мінулым часе), што організацыя буйнага акруговага цэнтру ня ведае пра адбываючыйся на яе тэрыторыі зьезд ТБШ і нічога ня робіць, каб падтрымаць рэволюцыйныя элемэнты гэтай організацыі ў іх барацьбе супроць нацыянал-фашыстаў і рэпрэсій ураду.

Пленум адзначае рад важных дасягненьняў, здабытых партыяй за мінулы пэрыод у барацьбе за легальныя позыцыі нацыянальна-вызваленчага руху. Удары фашысцкага тэрору і з усіх сіл падтрыманы окупантамі націск беларускага нацыянал-фашызму былі наогул пась-

пяхова адбіты. Спробы нацыянал-фашызму пабудаваць уласныя масавыя організацыі засталіся бяз выніку. Нацыянал-фашызм здабыў толькі жменьку застрашаных і здэморалізаваных рэнэгатаў, але нідзе не здабыў шырокай масавай падставы.

У той-жа час высунутыя IV пленумам ЦК КПЗБ і студзеньскімі рашэньнямі ЦК КПЗБ задачы мобілізацыі мас на грунце барацьбы супроць праяў нацыянальнага ўціску, за конкрэтныя нацыянальныя патрабаваньні ў сьціслай сувязі з барацьбой мас за іх беспасрэдныя экономічныя інтарэсы, *не ўвайшлі яшчэ ў штодзенную партыйную практыку*. Партыя, як цэлае, не ўсьвядоміла дагэтуль таго, што масавая нацыянальна-вызваленчая барацьба адбываецца ня толькі навокал ТБШ і іншых гэтага роду організацый, што барацьба мас, асабліва сялянскіх мас, за хлеб, працу і зямлю, супроць капіталістычна-абшарніцкага вызыску і супроць політычнага ўціску ва ўсіх яго постацях зьяўляецца адначасова барацьбой і супроць окупацыі. Занядбаньне ў барацьбе мас гэтага нацыянальна-вызваленчага боку, неразгортваньне кожнага выступленьня мас у барацьбу супроць уціску і нацыянальнага прыгнечаньня, за штодзенныя ў тым ліку культурна-нацыянальныя патрабаваньні зьяўляюцца на практыцы небальшавіцкімі, нігілісцкімі адносінамі да нацыянальнага пытаньня.

З другога боку, у акцыі партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху выяўляецца недастатковае разуменьне ролі пролетарыяту, як правадыра ўсяго народу ў барацьбе за нацыянальнае вызваленьне. Гэта знайшло выраз у тэндэнцыі да замазваньня нацыянальнага моманту ў дзейнасьці організацый нацыянальна-вызваленчага руху, у тэндэнцыі зьвядзеньня іх да ролі легальных організацый партыі. Гэтае замазваньне ўсякай розьніцы паміж клясавым рухам пролетарыяту і нацыянальна-вызваленчым рухам выражаецца таксама ў адваротнай ня менш небясьпечнай тэндэнцыі да расчыненьня партыйнай організацыі ў організацыях нацыянальна-вызваленчых, асабліва-ж у занядбаньні выдзяленьня ў іх членаў партыі ў організаваныя комуністычныя фракцыі.

У сувязі з гэтымі галоўнымі недахопамі і памылкамі выяўляецца недаацэнка барацьбы з нацыянал-фашызмам, мэханічныя мэтоды гэтай барацьбы (агульнае чарненьне без разгорнутай крытыкі *іх штодзеннай* дзейнасьці з пункту погляду беспасрэдных экономічных і нацыянальных інтарэсаў шырокіх мас), недастатковая барацьба з мясцовымі нацыянал-фашысцкімі організацыямі, асабліва з хадэцыяй.

## II. Тактычныя і організацыйныя ўказаньні

Задача падтрыманьня з усёй сілай барацьбы прыгнечаных народаў супроць польскага імпэрыялізму, ахопу кіраўніцтва гэтай барацьбой, мобілізацыі рэволюцыйных сіл на грунце гэтай барацьбы— зьяўляецца задачай не паасобных зьвеньняў і частак партыі, але *усёй партыі* і кожнай паасобнай партыйнай організацыі.

Ва ўсіх організацыях нацыянальна-вызваленчага руху партыя праводзіць сваю політычную лінію праз комуністычныя фракцыі, якія ахопліваюць усіх членаў партыі ў гэтых організацыях.

Трэба рашуча парваць з мэтодамі камандваньня нацыянальна-вызваленчым рухам і трактаваньня організацыі гэтага руху, як беспасрэдных экспозытур партыі. Трэба падтрымоўваць і вылучаць *беспартыйны актыў да фактычнага кіраўніцтва рухам*, падтрымоўваць яго ініцыятыву, чуйна прыслухоўвацца да тых прапаноў, якія ён выстаўляе, ня сьціскаць уласьцівых нацыянальна-вызваленчаму руху

спосабаў дзеяньня і выказваньня. Бязьлітасна змагаючыся і перамагаючы ўсякія адхіленьні на шлях опортунізму ў адносінах да окупацыйных улад і нацыянал-фашызму, партыя павінна ў дачыненьні да паасобных опортуністычных хістаньняў і памылак ужываць мэтоды рашучай, але таварыскай крытыкі.

Барацьбу супроць польскага імпэрыялізму і окупацыі трэба разгортваць на грунце ўсякіх праяў фашысцкай політыкі, экономічнага, душэньня прыгнечаных народаў і нацыянальнага ўціску (драпежніцкая гаспадарчая політыка ў колёніях, асадніцтва, рабаваньне сялянскіх зямель, ліхвярска-фэўдальная (кабальная) эксплёатацыя сялянскіх і батрацкіх мас, падаткова-ваенныя цяжары, шарварковая паншчына, карныя экспэдыцыі, грамленьне організацый нацыянальна-вызваленчага руху, полёнізацыя, душэньне беларускіх школ, мовы, культурных організацый, прэсы і г. д.).

Трэба стварыць у дзейнасьці партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху паварот да масавай акцыі супроць паасобных форм нацыянальнага ўціску і політыкі окупантаў у сьціслай сувязі з барацьбою мас за іх беспасрэдныя, штодзенныя, экономічныя і культурна-нацыянальныя інтарэсы. Трэба пакончыць з мэтодамі адарванага пропагандызму, на грунце конкрэтных спраў мобілізаваць масы супроць окупацыі і паказваць ім здрадніцкія, варожыя справе нацыянальнага вызваленьня, позыцыі беларускай буржуазіі.

Ва ўсіх экономічных акцыях пролетарыяту, сялянства і гарадзкой беднаты трэба ахопліваць кожную справу і паказваць яе масам ня толькі з боку клясавай, але таксама і з боку *нацыянальнага ўціску і окупацыйнай політыкі*. І наадварот, барацьбу супроць конкрэтных праяў нацыянальнага ўціску трэба ўвязваць з экономічнымі балячкамі і патрэбамі мас.

У кожнай акцыі трэба рабіць націск на ўвязваньне нацыянальна-вызваленчай барацьбы розных прыгнечаных народаў і ўцісканых— беларусаў, украінцаў, літвінаў, яўрэяў—паміж сабою і з рэволюцыйнай барацьбой польскіх працоўных мас на ЗБ і ва ўсёй Польшчы. Супольныя выступленьні, акцыі солідарнасьці, усякія формы дэмонстраваньня міжнароднай солідарнасьці патрэбны для таго, каб нацыянальна-вызваленчы рух, як адна з рухавых сіл пролетарскай рэволюцыі ў Польшчы, разгортваўся пад гемемоніяй пролетарыяту.

Барацьбу *за школу ў роднай мове* трэба завастрыць шляхам дэмонстрацый дарослых і дзяцей супроць школы, якая пашырае полёнізацыю, асабліва ў дні пачатку навукі альбо наведваньня ўладамі. Дэмонстрацыі дзяцей і бацькоў супроць полёнізацыі, фашызацыі і клерыкалізацыі ў школах, бойкот настаўнікаў, якія выказваюць асаблівую гарлівасьць у полёнізацыі, альбо якія выражаюцца пагардліва аб беларускай нацыі; дэмонстрацыі ў абарону „гражданкі", якая прасьледуецца окупантамі, супроць навязваньня „лацінкі"; выступленьні супроць мілітарызацыі дзяцей, супроць шалёнай антысавецкай агітацыі ў школах і т. п.; выступленьні з патрабаваньнем бясплатнага забесьпячэньня дзяцей абуткам, вопраткаю, падручнікамі, а таксама бясплатнага харчаваньня дзяцей. Адмаўленьні плаціць школьныя кары. Барацьбу ў галіне школы трэба разгортваць аж да школьнай забастоўкі ўключна.

Змагаючыся супроць утраквістычнай школы, супроць зачыненьня існуючых беларускіх, літоўскіх і іншых школ і іх ператварэньня ў школы утраквістычныя альбо польскія, неабходна ўзмацніць барацьбу ў гэтых школах супроць беларускага альбо літоўскага нацыя-

нал-фашызму, супроць прасьледваньняў і выкідваньня з іх рэвалюцыйнай моладзі, казарменнай сыстэмы, насаджэньня ў іх нацыянал-фашысцкіх юнацкіх організацый і г. д.

Уцягваньне *дзяцей і падрастаючай моладзі* да актыўных выступленьняў павінна ўжывацца значна больш, чым дагэтуль.

Уласьцівай формай дэмонстрацыйных выступленьняў дзяцей і моладзі зьяўляецца адмаўленьне ад таго, каб гаварыць па-польску, дэмонстрацыйныя размаўленьні па-беларуску, *сьпяваньне хорам народна-рэволюцыйных сьпеваў*. Кіданьне ў масы такіх сьпеваў і вершаў зьяўляецца важным, дагэтуль недаацэненым, сродкам уплыву на нацыянальна-вызваленчы рух.

На грунце *самаўрадаў* трэба выступаць супроць фашысцкай гаспадаркі, як гаспадаркі *драпежніцкай* у заваяваным краі. Трэба ўносіць бюджэтныя прапановы і рэзолюцыі, накіраваныя супроць драпежніцкай політыкі польскага імпэрыялізму, супроць загадаў, зьвязаных з ваеннымі падрыхтоўкамі, супроць нацыянальнага ўціску ў адносінах да беларусаў, яўрэяў, украінцаў і літвінаў. Трэба дэмонстрацыйна *выступаць у беларускай мове* (альбо ў іншай з прасьледваных моваў), змагаючыся за права ўжываньня прасьледваных моваў у судох і ва ўстановах.

*Адносіны нацыянал і соцыял-фашыстаў да такіх выступленьняў павінны быць выходным пунктам для іх конкрэтнага, ня толькі на словах, дэмаскаваньня ў вачох мас.*

На грунце *культурна-асьветнай* дзейнасьці партыя бязьлітасна змагаецца з буржуазнай ідэолёгіяй, якая прышчапляецца масам праз літаратуру, мастацтва, прэсу, школу і касьцёл, супроцьстаўляючы ёй элемэнты рэволюцыйнай культуры праз песьню, поэзію, сцэны, бэлетрыстычную і популярна-навуковую кніжку. „З кожнай нацыянальнай культуры мы бярэм толькі яе дэмократычныя элемэнты і яе элемэнты соцыялістычныя, бярэм іх *толькі і бязумоўна* як процівагу культуры буржуазнай, буржуазнаму нацыяналізму кожнага народу“ (Ленін).

Неабходна пашыраць і паглыбляць нацыянальна-вызваленчы рух сярод *каталіцка-беларускага* насельніцтва, якое найбольш паддаецца ўплывам полёнізацыі. У гэтай галіне асабліва важна *антыклерыкальная акцыя*, якая дагэтуль амаль цалкам занядбана. Мобілізацыя гэтых мас на грунце іх клясавых і нацыянальных інтарэсаў супроць нацыянальнага ўціску зьяўляецца шляхам да вырываньня іх з-пад уплываў фашызму, польскага народніцка-фашызму і беларускай хадэцыі. Выступаючы супроць прымусовага навязваньня „лацінкі“ той частцы беларускага насельніцтва, якая карыстаецца „гражданкаю“, мы павінны ў дачыненьні да беларусаў, якія карыстаюцца „лацінкаю“ супроцьстаўляць беларускую „лацінку“ навязваньню польскай мовы. Бо нашы адносіны да „гражданкі“ і „лацінкі“ не вынікаюць з нацыяналістычных прадузятых поглядаў і „традыцый“, але зьяўляюцца выключна пытаньнем тактыкі, політычнай мэтазгоднасьці ў барацьбе з полёнізатарскай політыкай польскага імпэрыялізму.

Мобілізацыя *літоўскіх* працоўных мас супроць польскага імпэрыялізму і нацыянальнага ўціску зьяўляецца ў варунках Зах. Беларусі вельмі важным момантам у барацьбе супроць фашысцкай дыктатуры і інтэрвэнцыйных плянаў. Пленум падкрэсьлівае недаацэнку важнасьці гэтай работы з боку ўсяе партыі. Застарэлая слабасьць гэтае работы прывяла да таго, што нацыянальна-вызваленчы рух літоўскіх працоўных мас знаходзіцца пад уплывам літоўскіх буржуазна-клерыкальных і соцыял-фашысцкіх партый.

Перад усёй партыяй, а асабліва перад організацыямі Віленскай, Сьвянцянскай і Горадзенскай стаіць задача накіраваньня нацыянальна-вызваленчай барацьбы літоўскіх працоўных мас пад лёзунгам барацьбы за права на самавызначэньне аж да аддзяленьня ад Польшчы, на грунце барацьбы супроць штодзенных праяў нацыянальнага ўціску і экстэрмінацыйнай політыкі фашысцкай дыктатуры, за конкрэтныя патрэбы і дамаганьні гэтых мас. У часе гэтай барацьбы трэба дэмаскаваць варожы працоўным масам характар нацыянальна-клерыкальных і соцыял-фашысцкіх літоўскіх партый, зьвязацца з масамі, згуртаванымі ў організацыях, якія служаць гэтым партыям („Рытас" і іншыя) з мэтаю стварэньня грунту нашага ўплыву ў гэтых масах.

Неабходна ўзмацніць працу сярод *польскіх* рабочых і шырокіх польскіх працоўных мас на ЗБ у кірунку іх солідарных выступленьняў з працоўнымі масамі прыгнечаных народаў, у барацьбе супроць конкрэтных праяў нацыянальнага ўціску, за права Зах. Беларусі на самавызначэньне аж да аддзяленьня.

У барацьбе за організацыйныя пляцоўкі нацыянальна-вызваленчага руху важнай задачай зьяўляецца актывізацыя існуючых і знаходжаньне новых організацыйных форм.

### 1. Ажыўленьне нізавых організацый у нацыянальна-вызваленчым руху

Актывізацыя існуючых гурткоў, узмацненьне ў іх культурна-асьветнай і політычнай працы, выступленьні гурткоў супроць конкрэтных праяў нацыянальнага ўціску, кляйменьне пры дапамозе адозваў, надпісаў на парканах і дзьвярах, высьвістваньне і г. д. лёкаяў окупацыйных уладаў, мясцовых нацыянал-фашыстаў, кулакоў, клехаў і чыноўнікаў, якія душаць насельніцтва. Выдаваньне пры гуртках пісаных насьценных альбо гектографаваных газэтак, організацыя гуртткоў корэспондэнтаў і літаратурных гурткоў, падтрыманьне літаратурнай творчасьці (вершы і апавяданьні).

Кампанія ажыўленьня працы гурткоў павінна быць сьцісла зьвязана з барацьбой супроць атак фашысцкага ўраду і беларускага нацыянал-фашызму на ТБШ у абарону яго легальнага існаваньня і ўзмацненьня ў ім рэволюцыйных уплываў.

### 2. Новыя організацыйныя формы

У барацьбе з фашысцкім тэрорам, які імкнецца зьнішчыць усякія масавыя організацыйныя падставы нацыянальна-вызваленчага руху, трэба, абараняючы ўсякімі сіламі і пашыраючы існуючыя організацыі, выкарыстоўваць *усякія* формы легальнай організацыі, напоўлегальнай і зусім не залегалізаванай (мясцовыя культурна-асьветныя організацыі, організацыі бязбожнікаў, драматычныя гурткі, гурткі сьпевакоў, спартыўныя, самаадукацыйныя і г. д.). Кожная форма організацыі і кожная назва організацыі добрая, паколькі яна дазваляе організацыйна ахапіць шырэйшыя масы данай мясцовасьці.

Адначасова трэба таксама на грунце нацыянальна-вызваленчай барацьбы ствараць *шырокія організацыі адзінага фронту — камітэты барацьбы* для правядзеньня паасобных акцый школьных, самаўрадавых і іншых.

3. **Організацыі дзяцей і школьнай моладзі** ў постаці гурткоў самаадукацыі, гурткоў вывучэньня беларускай мовы ў польскіх альбо полёнізаваных школах, гурткоў забаваў, спорту і гульняў павінны знайсьці шырокае распаўсюджаньне. У гэтых організацыях трэба ствараць *фракцыі КСМ і піонэраў.*

**4. Адносіны да варожых організацый.**

Трэба бязьлітасна змагацца з фашысцкімі, нацыянал-фашысцкімі (Цэнтрасаюз, Хадэцыя, Сельсаюз, БСМ і К), а таксама народніцкімі і соцыял-фашысцкімі організацыямі, ізоляваць іх ад мас, імкнуцца іх разьбіць. Уступленьне ў гэтыя організацыі, як для політычнага „прыкрыцьця“, для забесьпячэньня ад рэпрэсій, партыя асуджае з усёй рашучасьцю. Дапускаецца толькі пасылка ў гэтыя організацыі політычна-моцных таварышоў з мэтаю ўплываньня на тыя пролетарскія альбо дробна-буржуазныя элемэнты, якія там знаходзяцца, і разьбіваньня гэтых організацый знутры. У конкрэтных выпадках магчыма *організаванае* ўвядзеньне ў гэтыя організацыі рэволюцыйных элемэнтаў для заваяваньня гэтых організацый. Пасьля заваяваньня іх трэба безадкладна пры дапамозе адпаведнай публічнай рэзолюцыі адмежавацца ад контррэволюцыйнай цэнтралі і парваць з ёю, замяняючы організацыю ў незалежную мясцовую, культурна-асьветную організацыю, альбо гурток ТБШ. Роспуск такой заваяванай пляцоўкі без стварэньня іншай організацыйнай формы праз нас саміх зьяўляецца не абгрунтаваным і політычна памылковым.

**III. Барацьба з нацыянал-опортунізмам і „лявацкімі“ перагібамі**

Ставячы перад усёй партыяй задачу стварэньня павароту ў галіне організацыі нацыянальна-вызваленчай барацьбы, пленум падкрэсьлівае, што гэта можа быць выканана толькі пры ўзмоцненай актыўнасьці супроць усякіх адхіленьняў ад бальшавіцкай лініі партыі. Трэба даць рашучы адпор праваму нацыянал-опортунізму, які вядзе да спаўзаньня на позыцыі нацыянал-фашызму, да замазваньня розьніцы паміж масавай барацьбой за нацыянальныя патрабаваньні падняволеных народаў, як рэволюцыйнага сродку мобілізацыі мас супроць окупацыі, і нацыяналістычнымі лёзунгамі і лёзунгамі „творчай органічнай працы“, — супрацоўніцтва з урадам окупацыі, — што агалашаецца беларускім нацыянал-фашызмам. Адначасова трэба бязьлітасна перамагаць сэктанцтва, замену політычнага кіраўніцтва мэтодамі каманд-ваньня і інш. („левацкія“ памылкі ў нашай партыйнай практыцы).

Чэрвень, 1931 г.

---

# Аб кіраўніцтве экономічнымі баямі і задачах партыі ў профруху

*(Рэзолюцыя V пленуму ЦК КПЗБ)*

I. У барацьбе пролетарскіх мас Заходняй Беларусі выявіўся рад новых момантаў, якія сьведчаць аб тым, што экономічныя баі пролетарыяту пераходзяць на паасобных вучастках на вышэйшую ступень; рост масавасьці ў руху беспрацоўных, абвастрэньне іх выступленьняў, аб'яднаныя выступленьні працуючых рабочых з выступленьнямі беспрацоўных і сялян (Кобрын), яскравыя праявы пролетарскай солідарнасьці (пераможна закончыўшы сваю забастоўку, рабочыя гуты Шапіра адлічылі частку з свайго заробку на карысьць бастуючых гутнікаў Вітрум). Рашучая і пераможная забастоўка гутнікаў Шапіра і Вітрум зьяўляецца жорсткім ударам па права-опортуністычнай тэорыі аб немагчымасьці пасьпяховых экономічных баёў у часе крызісу.

II. У гэтых варунках самастойнасьць організацыі і кіраўніцтва экономічнай барацьбой рабочае клясы павінны стаяць у цэнтры ўвагі партыі. Між тым, падрыхтоўка, організацыя і кіраўніцтва з боку партыі ўсё ўзрастаючай штодзеннай барацьбой рабочае клясы, ня гледзячы на рад дасягненьняў (кіраўніцтва і організацыя рухам беспрацоўных, раду стачак і г. д.) усё яшчэ зьяўляецца надзвычайна слабай.

V пленум адзначае, што, ня гледзячы на самастойнае правядзеньне пераможнай барацьбы ў шкляной і радзе драбнейшых галін прамысловасьці, адставаньне партыі ад разьвіцьця актыўнасьці мас выявілася ў апошні пэрыод асабліва яскрава на фронце экономічнай барацьбы. Партыя ня здолела мобілізаваць шырокія рабочыя масы галоўных рабочых цэнтраў Заходняй Беларусі для адпору шалёнай атакі прамыслоўцаў і фашысцкага ўраду на варункі работы і заработнай платы, перад усім супроць масавых скарачэньняў. Найбольш востра гэта выявілася ў тэкстыльнай, тутунёвай і запалкавай прамысловасьці. Надзвычайна слабай была таксама праўдзімая да гэтага часу кампанія па мобілізацыі чыгуначнікаў да забастовачнай барацьбы супроць 15 проц. паніжэньня іх заработнай платы. Некаторыя забастоўкі, як, напрыклад, шофэраў у Вільні, гарбароў у Беластоку, якія выступілі на барацьбу напракі ППС, паўсталі стыхійна, а наша партыя ня здолела ў процэсе барацьбы стаць на чале мас. Важнейшымі прычынамі гэтага адставаньня ад актыўнасьці мас зьяўляецца наступнае:

а) Слабая політычная ініцыятыва партыйных організацый і надзвычайна слабае рэагаваньне на праявы капіталістычнага наступленьня. У яшчэ большай ступені гэта датычыць рэволюцыйных профсаюзаў, за выключэньнем саюзу рабочых шкляных заводаў.

б) Нашы організацыі высоўваюць патрабаваньні без неабходнага популярызаваньня іх у масах, без праверкі, ці гатовы масы змагацца

за гэтыя патрабаваньні. Яскравым прыкладам такога роду адарваных ад мас, нерэальных экономічных патрабаваньняў, былі патрабаваньні для сельска-гаспадарчых рабочых, якія мэханічна паўтаралі патрабаваньні мінулага году, альбо агульна-польскія патрабаваньні. Такія памылкі выявіліся ў галіне барацьбы беспрацоўных, калі некаторыя організацыі (напрыклад, Горадзенская) мэханічна паўтаралі агульна-польскае патрабаваньне вугалю, зусім нерэальнае ў Заходняй Беларусі. Організацыі ня ўмелі выкарыстаць уступак, якія даваў фашызм беспрацоўным (напрыклад, абеды) для далейшага разгортваньня барацьбы і высоўваньня новых, найбольш папулярных у масах патрабаваньняў.

в) Няўмяньне высоўваць найбольш актуальныя ў даны момант патрэбы спрыяла надзвычайна слабай падрыхтоўцы экономічных кампаній і слабаму ўцягваньню ў гэтыя кампаніі самых шырокіх мас, слабаму організацыйнаму замацаваньню іх вынікаў. Па гэтых прычынах тактыка адзінага фронту зьнізу ў падрыхтоўцы і правядзеньні гэтых кампаній стасавалася вельмі слаба. Найбольш характэрным прыкладам гэтага была дзейнасьць Беластоцкай парторганізацыі ў часе барацьбы некалькіх тэкстыльных фабрык супроць паніжэньня заробку.

г) Указаныя вышэй памылкі і недахопы спрыялі сур'ёзнаму аслабленьню сувязі партыі і рэволюцыйных профсаюзных організацый з масамі. Партыя ня здолела праз свае фракцыі актывізаваць, сыстэматычна і плянава кіраваць гэтымі організацыямі і абранымі масамі органамі барацьбы. З гэтае прычыны і замёр абраны праз шырокія рабочыя масы камітэт профлявіцы ў Вільні, які мог адыграць буйнейшую організуючую ролю. З гэтае прычыны таксама рэволюцыйны профсаюзны рух перажывае ў сучасны момант сур'ёзны крызіс кадраў.

д) Адным з момантаў, аслабляючых самастойнае кіраўніцтва партыі экономічнай барацьбой, быў профсаюзны легалізм і адсутнасьць работы ў фашысцкіх профсаюзах.

III. Для пасьпяховага кіраваньня барацьбой рабочых мас, за іх штодзенныя патрэбы і з мэтай узьняцьця гэтай барацьбы на больш высокую ступень

V пленум ЦК КПЗБ ставіць перад партыйнымі організацыямі наступныя задачы:

1. Партыя павінна старанна падрыхтоўваць і аформляць штодзенныя патрабаваньні рабочых мас. *Патрабаваньні павінны быць формуляваны яскрава і магчыма коратка так, каб яны былі зразумелы для самых адсталых пластоў рабочай масы, якая прымае ўдзел у барацьбе.*

Неабходна высунутыя праз партыю патрабаваньні сваячасова абгаварыць на фабрычных і профсаюзных сходах, у групавых і індывідуальных гутарках з рабочымі, шляхам абходу рабочых кватэр і г. д. Патрабаваньні, найбольш популярныя ў масах, неабходна ставіць на першае месца.

Нашы партыйныя організацыі павінны прыкласьці ўсе сілы, каб стаць на чале барацьбы мас за іх патрабаваньні, незалежна ад таго, кім гэтыя патрабаваньні і па якіх мотывах аформляліся (соцыял-фашыстамі альбо іншымі фашысцкімі профбюрократамі). Адначасна наша партыя павінна самым бязьлітасным чынам здэмаскаваць соцыял-фашысцкіх і фашысцкіх профбюрократаў, даводзячы масам на падставе штодзеннай практыкі, што яны *на справе* сыстэматычна здраджваюць інтарэсам мас.

Адначасна ўсе нашы прынцыповыя патрабаваньні-лёзунгі (7-гадзінны рабочы дзень і т. п.) неабходна, асабліва ў часе папрацоўкі патрабаваньняў, узмоцнена папулярызаваць у масах.

2. Пабач з самым рашучым здэмаскоўваньнем, з самой рашучай барацьбой супроць соцыял-фашысцкіх і фашысцкіх профбюрократаў, *неабходна шырока і рашуча ўжываць тактыку адзінага фронту ў адносінах да рабочых, якія ідуць яшчэ за варожымі пролетарыяту партыямі, якія яшчэ ня ідуць за нашымі канчатковымі лёзунгамі, ня пераканаліся ў іх правільнасьці, маюць яшчэ ілюзіі ў адносінах да соцыял-фашысцкіх і фашысцкіх правадыроў, але якія гатовы сапраўды змагацца разам з намі супроць наступленьня капіталу.* У ходзе сыстэматычнай барацьбы трэба ўмела, на конкрэтных фактах пераконваць гэтых рабочых у здрадніцтве іх правадыроў.

3. Стоячы на чале і кіруючы стачачнай барацьбой, вулічнымі выступленьнямі і політычнымі забастоўкамі рабочых, як асноўнымі, праверанымі шматгодняй практыкай мас, формамі барацьбы рабочае клясы, неабходна адначасова выкарыстаць і стаць на чале ўсякіх іншых форм барацьбы, накіраваных супроць прадпрыемцаў і фашысцкай дыктатуры (італьянская забастоўка, асабліва на выпадак рэдукцыі, адмаўленьне пакінуць фабрыкі ў злучэньні з дэмонстрацыямі, зваротам да іншых рабочых, паходамі рабочых бастуючых да іншых фабрык за падтрыманьнем, уцягненьнем у барацьбу жонак і дзяцей рабочых і г. д.). Усе гэтыя формы выступленьняў павінны быць выкарыстаны для організацыі забастовачнай барацьбы на шырокай масавай падставе.

4. Падрыхтоўка кожнай кампаніі вымагае адначасовай організацыі акцыі солідарнасьці ва ўсіх іншых фабрыках данай галіны прамысловасьці альбо данага гораду (камітэты солідарнасьці, збор грашовай дапамогі і г. д.), пры ўвязцы гэтага з барацьбой рабочых за іх уласныя патрэбы.

5. Праз комфракцыі, а таксама праз сымпатыкаў партыі беспартыйных рабочых партыйныя організацыі павінны ўзмацніць сваю працу ў профсаюзах. Рэволюцыйныя профсаюзы павінны рэагаваць неадкладна на ўсе штодзенныя патрэбы мас. Для ўзмацненьня сувязі з масамі рэволюцыйныя профсаюзы павінны неадкладна стварыць групы рэволюцыйных профсаюзаў на фабрыках і сярод беспрацоўных стасуючы ў самым шырокім сэнсе профсаюзную дэмократыю, організуючы неорганізаваных і т. п.

6. Там, дзе няма рэволюцыйных профсаюзаў, неабходна неадкладна прыступіць да організацыі шырокай сеткі груп профлявіцы на прадпрыемствах, у майстэрнях, у маёнтках, сярод беспрацоўных, прыцягваючы рабочых да гэтай організацыі. З мэтай пасьпяховай працы ў гэтай галіне трэба склікаць частыя нарады рабочых данага прадпрыемства, міжфабрычныя, агульна-гарадзкія нарады, нарады рабочых па асобных галінах прамысловасьці і г. д., для стварэньня ініцыятыўных груп профляліцы, побач са стварэньнем груп профляліцы, неабходна ўдзяляць максымальную ўвагу актывізацыі ўжо існуючых груп і камітэтаў.

7. Неабходна ва ўсіх рэакцыйных (соцыял-фашысцкіх, хадэцкіх і фашысцкіх) профорганізацыях стварыць як мага больш масавыя профопозыцыі.

8. Для організацыі барацьбы рабочых асабліва важным зьяўляецца організацыя шырэйшай сеткі органаў барацьбы мас, адсутнасьць якіх надзвычайна востра адбіваецца на разьвіцьці барацьбы мас (фабзаўкомы, камітэты для кіраўніцтва ўсякага роду кампаніямі і выступ-

пленьнямі, стачачныя камітэты, камітэты беспрацоўных, батрацкія камітэты). Неабходна стварыць кіраўніцтва левага профруху, перад усім у гарадзкім маштабе.

Гэтыя органы барацьбы павінны абавязкова выбірацца самымі масамі. Партыя зьдзяйсьняе кіраўніцтва гэтымі органамі праз комфракцыі альбо паасобных комуністаў, там-жа, дзе іх няма, праз сымпатыкаў партыі рабочых.

9. Рэволюцыйны профрух павінен удзяліць асаблівую ўвагу рабоце сярод жанчын-работніц і працоўнай моладзі.

10. Неабходна з мэтай узмацненьня сувязі з масамі, разгортаваньня кіраўніцтва штодзеннай барацьбой мас за іх істотныя інтарэсы выкарыстаць усякія розныя формы рабочых грамадзкіх організацый (спортыўныя організацыі, культурна-асьветныя, клюбы профбіржы і т. п.). Выкарастаючы і ствараючы розныя формы організацыі мас, ні ў якім выпадку нельга адступаць перад усё ўзрастаючым тэрорам — неабходна мобілізаваць масы на барацьбу за легальнае і яўнае існаваньне ўсіх форм рабочых організацый. На выпадак зачыненьня рэволюцыйных профорганізацый неабходна ўсімі сіламі змагацца за існаваньне гэтых організацый.

11. Для ажыцьцяўленьня задач, якія стаяць перад партыяй у галіне профруху, падставовым варункам зьяўляецца вылучэньне і выхоўваньне шырокага рэволюцыйнага актыву. Для зьдзяйсьненьня гэтага неабходна шырока ўцягваць беспартыйных рабочых у органы кіраўніцтва барацьбой мас, неабходна шырока ўжываць мэтоды нарад з актыўнымі рабочымі па розных штодзенна пякучых пытаньнях, даваць ім паасобныя заданьні, сыстэматычна выхоўваць іх у духу рэволюцыйнай актыўнасьці.

IV. Пленум завастрае ўвагу парторганізацый на неабходнасьці баявога правядзеньня наступных чарговых кампаній, якія маюць агульна-краёвае значэньне:

а) Важнейшай задачай парторганізацый зьяўляецца мобілізацыя мас на бязупынную барацьбу супроць усіх форм фашысцкага арбітражу.

б) Барацьба супроць усіх форм рэдукцыі (замаскаваных і адкрытых) у прамысловасьці, сельскай гаспадарцы і на транспорце. Парторганізацыі павінны рабіць націск на растлумачэньне рабочым, што рэдукцыя цягне за сабой паніжэньне зарплаты і паніжэньне жыцьцёвага ўзроўню ўсіх і зьяўляецца падрыхтоўкай да далейшых скарачэньняў.

в) Шырока папулярызаваць перамогу гутнікаў для энэргічнага разгортваньня барацьбы гутнікаў па ўсёй ЗБ, для аб'яднаньня іх барацьбы і ўзмацненьня іх масавых організацый.

г) Організацыя і разгортваньне забастовачнай барацьбы чыгуначных рабочых супроць скарачэньня, замены штатных рабочых няштатнымі, супроць грабяжу 15% заработнай платы (на гэтым грунце неабходна організаваць барацьбу дзяржаўных служачых, выкарыстоўваючы бушаваньне сярод іх) — на падставе програмы акцыі, распрацаванай студзеньскай рэзолюцыяй ЦК КПЗБ.

д) Выкарыстоўваючы праведзеную работу па падрыхтоўцы да вясеньняй забастовачнай барацьбы сельска-гаспадарчых рабочых, шырока разгарнуць організацыю забастовачнага руху сельска-гаспадарчых рабочых (батракоў і сэзоньнікаў) у сувязі з уборкай.

е) Асабліва важнай задачай парторганізацый зьяўляецца організацыя барацьбы рабочых дзяржаўных і монопольных прадпрыемстваў (Горадня, Пінск, Гайноўка).

ж) Пленум даручае Беластоцкай організацыі ўдзяліць асаблівую ўвагу кіраўніцтву барацьбой тэкстыльных рабочых.

з) Узмацняючы кампанію беспрацоўных, на падставе програмы, распрацаванай студзеньскай рэзолюцыяй ЦК КПЗБ, неабходна энэргічна выкарыстоўваць нездаволеньне беспрацоўных, выкліканае мерапрыемствамі фашызму, якія накіраваны на пагоршаньне становішча беспрацоўных (скарачэньне пэнсіі з 17 да 14 злотых у тыдзень і г. д.). Неабходна змагацца за забесьпячэньне ўсіх беспрацоўных (дробная прамысловасьць, моладзь, жанчыны, вясковыя беспрацоўныя) за кошт ваеннага, паліцэйскага і турэмнага бюджэтаў капіталістаў.

V. У сувязі з абвастрэньнем левых манэўраў з боку ППС, Бунду і іншых, якія зьяўляюцца перашкодай на шляху барацьбы за масы, і ў сувязі з тым, што наша работа ў рэформісцкіх профсаюзах значна аслаблена, што стварае сур'ёзную небясьпеку зрыву нарастаючай барацьбы рабочых, неабходна ўзмацненьне нашай работы ў соцыял-фашысцкіх саюзах, узмоцненае здэмаскаваньне ўсіх левых манэўраў соцыялфашыстаў перад шырокімі рабочымі масамі.

Абвастраючы барацьбу супроць соцыял-фашысцкіх прыхвасьняў капіталу і фашысцкай дыктатуры, неабходна энэргічна організоўваць сакрушальны адпор спробам фашызму пранікнуць у профрух.

Партыя павінна мобілізаваць рабочых для барацьбы супроць фашысцкага наступленьня на профрух, асабліва на буйных прадпрыемствах, у рашаючых галінах прамысловасьці. Неабходна весьці нясупынную барацьбу за рабочых, якія знаходзяцца ў фашысцкіх профсаюзах, імкнучыся дабіцца пры дапамозе тактыкі адзінага фронту зьнізу стварэньня масавай опозыцыі, каб пры яе дапамозе здэмаскаваць правадыроў фашысцкіх профсаюзаў на кожным конкрэтным факце і, такім чынам, вырваць іх з-пад фашысцкага ўплыву.

V Пленум ЦК констатуе, што гэтыя задачы ня ўсе парторганізацыі паставілі перад сабой. Слабая-ж праца комфракцыі ў рэволюцыйных профсаюзах і ў профлявіцы ў галіне кіраўніцтва штодзеннай барацьбой мас, няўменьне выкарыстоўваць розныя формы барацьбы і організацыі мас, недастатковая барацьба і здэмаскаваньне ББ — аслабіла фронт барацьбы партыі з фашысцкімі саюзамі. Фашысцкім профсаюзам (так званыя саюзы „гаспадарчэ") ўдалося (Бярэсьце, Вільня), пры дапамозе ўзмоцненай дэмагогіі, з аднаго боку, экономічнага і палітычнага тэрору — з другога, перахапіць частку рабочых, якія адыходзяць ад соцыял-фашыстаў, частку неорганізаваных і нават у паасобных выпадках адарваць нязначныя групы рабочых ад рэволюцыйных профсаюзаў.

VI. У сучасных варунках узрастаючага фашысцкага тэрору і тэрору фашысцкіх баявых дружын на фабрыках (Вітрум і іншыя), у варунках росту актыўнасьці мас асаблівае значэньне набывае задача організацыі дружын масавай самаабароны. На падставе шырокага адпору тэрору прадпрыемцаў, фашыстаў і соцыял-фашыстаў, у барацьбе супроць штрэйкбрэхэрства, провокацыі, у абарону рэволюцыйных дзеячоў, прамоўцаў, памяшканьняў рабочых організацый, сходаў, дэмонстрацый і т. п. неабходна організаваць і ўзмацняць дружыны самаабароны. Неабходна выкарыстаць усякія іншыя *формы і спосабы* організацыі масавай самаабароны, у першую чаргу на прадпрыемствах.

VII. Ва ўсёй рабоце рэволюцыйных профсаюзаў і груп профлявіцы чырвонай ніткаю павінны праходзіць пытаньні мобілізацыі рабочых мас на барацьбу з узрастаючай небясьпекай інтэрвэнцыі. Барацьба супроць вайны павінна цесна ўвязвацца са штодзеннай барацьбой і штодзеннымі экономічнымі кампаніямі рабочых мас.

## Рэзолюцыя V пленуму ЦКК КП(б)Б

### па дакладу тав. Калніна аб выніках III пленуму ЦКК УсеКП(б) і чарговых задачах органаў РСІ

Заслухаўшы даклад тав. Калніна аб выніках III-га пленуму ЦКК УсеКП(б) і чарговых задачах работы органаў РСІ, V-ты пашыраны пленум ЦКК КП(б)Б поўнасьцю далучаецца да пастаноў пленуму ЦКК УсеКП(б), якія ўяўляюць сабою баявую праграму работы органаў КК—РСІ ва ўмовах новай абстаноўкі, новых задач гаспадарчага будаўніцтва, вызначаных у апошняй прамове тав. Сталіна.

Кладучы ў аснову ўсёй работы КК-РСІ пастановы апошніх пленумаў ЦК і ЦКК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б і прамову тав. Сталіна, пленум ЦКК КП(б)Б асабліва падкрэсьлівае „адну з важнейшых задач— рашучую барацьбу за поўную ліквідацыю абязьлічкі ўсюды і ўмацаваньня адзінаначальля ва ўпраўленьні прадпрыемствам і вытворчасьцю, за пасіленьне адказнасьці кожнага работніка ва ўпраўленьні на вытворчасьці, за работу даручаемую яму, а таксама за поўную адказнасьць кожнага рабочага за ўтрыманьне і спраўнасьць варштату і інструмантаў“ (з пастаноў III пленуму ЦКК УсеКП(б).

Пленум ЦКК прапануе ўсім КК-РСІ сумесна з профсаюзамі ў бліжэйшы час забясьпечыць:

а) сапраўдны перавод цэхаў, агрэгатаў і брыгад на гаспадарчы разьлік, павесьці бязьлітасную барацьбу з формальным бюрократычным падыходам і безадказнасьцю ў правядзеньні гэтага важнейшага рашаючага мерапрыемства, „якое дасьць магчымасьцьць нашчупаць новыя крыніцы накапленьня“ (Сталін);

б) сыстэматычны і неаслабны контроль праз рабкораўскія пасты, групы садзейнічаньня РСІ, Часовыя Контрольныя Камісіі за выкананьнем якасных паказальнікаў програмы і зьніжэньня сабекошту, дабіўшыся ў бліжэйшы час карэннага пералому;

в) на працягу жніўня праверыць выкананьне паказаньняў у прамове тав. Сталіна і пастаноў пленуму ЦК КП(б)Б па пытаньні аб аплаце працы рабочых і ліквідацыі ўраўнілаўкі, пашырэньня зьдзельных форм аплаты працы, якія стымулююць бесьперапынны рост продукцыйнасьці працы і паляпшэньня якасьці продукцыі;

г) дабіцца неадкладнага паляпшэньня ў організацыі працы на прадпрыемствах, правільнай расстаноўкі рабочых і тэхнічных сіл, організацыі сталых зьмен і палепшаньня абслугоўваньня начных зьмен, прымацаваньне работнікаў да сталых варштатаў і сродкаў вытворчасьці. Павесьці рашучую барацьбу з опортуністычным самацёкам

у наборы і падрыхтоўцы рабочай сілы, няўхільна дабіваючыся ажыцьцяўленьня ўсіх паказаньняў тав. Сталіна па гэтым пытаньні;

д) палепшыць пастаноўку плянаваньня, асабліва ўнутры-заводзкага (міжцэхавага), жорстка патрабаваць ад кіраўнікоў усіх прадпрыемстваў, каб *„кожны кіраўнік прадпрыемства ня толькі ведаў у дасканаласьці агульнае становішча кожнага цэху, але-ж кіраваў працэсамі вытворчасьці і ведаў конкрэтныя недахопы ў рабоце, ад якіх залежыць затрымка ў выкананьні вытворчай програмы і прамфінпляну"*, памятуюы што *„барацьба за такое конкрэтнае кіраўніцтва павінна стаць асноўным зьместам работы органаў КК-РСІ на мясцох"* (III пленум ЦКК УсеКП(б);

е) узяць пад неаслабны контроль пытаньні аб больш узажлівых адносінах да матэрыяльнага і культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых, выкананьне дырэктыў Чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б) аб разьвіцьці гарадзкой гаспадаркі, узмацненьні падбору і падрыхтоўкі новых пролетарскіх тэхнічных кадраў і правільным выкарыстаньні старых спэцыялістаў, пасіленьні ўнутрыпрамысловага накапленьня, скарачэньні накладных выдаткаў у прамысловасьці і звароце, няўхільна змагаючыся з ізьлішнімі выдаткамі за стражэйшую фінансавую дысцыпліну і найбольш эфэктыўнае выкарыстаньненалічнага абсталяваньня і сыравінных рэсурсаў.

2. Надаючы капітальнаму будаўніцтву важнейшае народна-гаспадарчае значэньне, пленум прапануе КК-РСІ весьці бязьлітаснае змаганьне з бясплянавым, бяспроектным і параднадарогім будаўніцтва. Тэрмінова разгарнуць масавы контроль шляхам організацыі контрольных пастоў на пабудовах, груп садзейнічаньня РСІ за экономным выдаткаваньнем матэрыялаў, мобілізацыяй унутраных і мясцовых рэсурсаў, палепшаньнем якасьці, зьніжэньнем сабекошту і стандартызацыяй будаўніцтва. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на забясьпечаньне выкананьня плянаў будаўніцтва па рашаючых вучастках — торф, буд. матэрыялы, хэмія, мэталь, ільназаводы. Пленум даручае Прэзыдыуму ЦКК дабіцца карэннага пералому ў разгортваньні вытворчасьці новых буд. матэрыялаў у палепшаньні організацыйных форм кіраўніцтва будаўніцтвам.

3. Пленум ЦКК абавязвае КК-РСі узяць пад асобны нагляд рабочае і жыльлёвае будаўніцтва з тым, каб намечаныя пляны былі поўнасьцю своечасова выкананы. Няўхільна дабівацца, каб новае жыльлёвае будаўніцтва было ў поўнай меры дапасавана да найлепшага культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых. КК-РСІ сумесна з профсаюзамі і гарсаветамі дабіцца, каб заводы, якія выробляюць стандарт будаўнічых матэрыялаў і дамоў, працавалі бесьперабойна, выконвалі поўнасьцю свой плян і забясьпечылі карэннае палепшаньне якасьці і патаненьне будаўніцтва. Весьці бязьлітасную барацьбу са скарыстаньнем сродкаў, вызначаных для жыльлёвага будаўніцтва, на інш. патрэбы. На працягу жніўня і верасьня забясьпечыць перавод усіх Жактаў на гаспадарчы разьлік, дабіцца лепшага захаваньня існуючага жыльлёвага фонду, разбуйненьня буйных Жактаў, з мэтаю лепшага гаспадарчага кіраўніцтва і палепшаньня санітарна-бытавога абслугоўваньня рабочых.

4. Пленум абавязвае КК-РСІ, партыйныя організацыі, колгасна-коопэрацыйныя зямельныя органы мобілізаваць максымум сіл на лепшае правядзеньне ўборачнай кампаніі зернавых і тэхнічных культур, увязваючы ўборку, зяблевае ворыва, асеньнюю сяўбу, нарыхтоўку зернавых і тэхнічных культур з абавязковым выкананьнем пастановы Ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б аб завяршэньні ў асноўным колектывізацыі

бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР да канца веснавой кампаніі 1932 году, зьвярнуўшы пры гэтым выключную ўвагу на арганізацыйна-палітычнае і гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў. Правільная арганізацыя працы ў колгасах, на аснове правядзеньня сапраўднай зьдзельшчыны і вучоту, разгортваньне соц. спаборніцтва і ўдарніцтва, своечасовае і правільнае разьмеркаваньне даходаў і бязьлітасная барацьба з кулацкай ураўнілаўкай, упрашчэньне і палепшаньне арганізацыі і кіраўніцтва колгаснай гаспадаркай, арганізацыя адыходніцтва, рашучая барацьба са стратамі пры ўборцы, павышэньне вытворчасьці працы і таварнасьці ў саўгасах і колгасах — павінна займаць адно з важнейшых, цэнтральных месц у рабоце партыйных арганізацый і КК-РСІ.

5. Працягваючы далейшую работу па скарачэньні, рацыяналізацыі і чыстцы савецкага апарату „ня толькі пад кутом погляду выключэньня з апарату соцыяльна-варожых, разлажыўшыхся і абюрократыўшыхся элемэнтаў, але і ў мэтах праверкі апарату па сутнасьці яго работы, праверкі кіруючых работнікаў апарату, уменьня перабудаваць іх кіраўніцтва па-новаму ў новай абстаноўцы“. Пленум падкрэсьлівае, як цэнтральную важнейшую задачу — пастаноўку сапраўднай праверкі выкананьня зьверху да нізу, умацаваньня дысцыпліны і „падбор людзей, устанаўленьне індывідуальнай адказнасьці за дзелаемае, праверка фактычнай работы“ (Ленін).

Даручыць Прэзыдыуму ЦКК у бліжэйшыя дні распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы па ўключэньні ўсіх КК-РСІ ў арганізацыю масавага опэрацыйнага нагляду і дапамогі ў перабудове спажыв. коопэрацыі. Пры гэтым КК-РСІ павінны дабіцца, каб практычнымі вынікамі перабудовы зьявіліся—рэзкае палепшаньне рабочага снабжэньня, паскораньне тавараздвароту, унядрэньне гаспадарчага разьліку, разгортваньне спэцыялізаванага савецкага гандлю і карэннае палепшаньне кіраўніцтва ўсёй сыстэмай спажыўкоопэрацыі.

Ухваляючы пастанову Прэзыдыуму ЦКК па пытаньні аб рабоце судова-сьледчых органаў БССР, пленум даручае КК-РСІ прасачыць за няўхільным ажыцьцяўленьнем гэтых рашэньняў з тым, каб у бліжэйшы час дабіцца сапраўднага пералому ў палепшаньні работы судова-сьледчага апарату, каб ён у поўнай меры быў дапасаваны і здолеў справіцца з ускладзенымі на яго задачамі ў новай абстаноўцы.

Праводзячы работу па палепшаньні дзяржаўнага апарату, неабходна выходзіць з таго, „каб ня браць на сябе задач неадкладнага ўсеагульнага палепшаньня ўсяго савецкага і гаспадарчага апарату, а сконцэнтраваць сваю работу на паасобных вучастках“ (III пленум ЦКК УсеКП(б).

6. Новая абстаноўка патрабуе перабудовы работы органаў КК-РСІ, значнага пасіленьня тэмпаў работы, устанаўленьня большай опэрацыйнасьці і гібкасьці, больш глыбокага падыходу да вывучэньня і пастаноўкі пытаньняў, „не раскідвацца, а стала концэнтравацца на галоўным, умела злучыць у рабоце, так званыя „дробязі“ і буйныя проблемы, падвысіць адказнасьць органаў КК-РСІ і кожную пачатую работу давесьці да канца“. Гэта ўскладае на КК-РСІ большую адказнасьць за своечасовае і выразнае правядзеньне палітычна-гаспадарчых задач, памятуючы, што *„пры непарадках на тым альбо іншым вучастку гаспадаркі, за якім пастаўлены сачыць той альбо іншы работнік, ці група КК-РСІ, яны павінны несьці адказнасьць побач з гаспадарчымі органамі, асабліва ў тых выпадках, калі даны работнік ці КК-РСІ ў цэлым, аб гэтым своечасова не сыгналізавалі вышэйстаячым арганізацыям“ (III пленум ЦКК УсеКП(б).*

Работа па-новаму патрабуе яшчэ большага ўздыму ролі КК-РСІ, *як організатара рабочых, колгасных і працоўных мас.*

Пленум прапануе КК-РСІ дабіцца карэннага палепшаньня ўсёй масавай работы:

а) забясьпечыць неадкладны пералом у разгортваньні рабочага шэфства над дзяржапаратам і масавае вылучэньне рабочых у якасьці намесьнікаў па соцыялістычнаму сумяшчэньню ў дзярж. апараце, не адрываючы іх ад вытворчасьці. Павесьці бязьлітасную барацьбу з опортуністычнай недаацэнкай і ігнараваньнем рабочага шэфства і соцыялістычнага сумяшчэньня, як і з праяўленьнем правага опортунізму на практыцы;

б) у працягу жніўня організаваць групы садзейнічаньня РСІ на прадпрыемствах, саўгасах і колгасах, уцягваючы ў групы рабочых ударнікаў, колгасьнікаў і рабочых саўгасу, захоўваючы пры гэтым поўную добраахвотнасьць, карэнным чынам палепшыць кіраўніцтва сэкцыямі РСІ пры саветах, зрабіўшы групы садзейнічаньня РСІ і сэкцыі РСІ сапраўднымі апорнымі пунктамі КК-РСІ на мясцох, якія сваячасова сыгналізуюць аб недахопах і скажэньнях, праяўляюць актыўную ролю на мясцох па зьнішчэньні недахопаў. Зрабіць асноўным зьместам работы груп садзейнічаньня РСІ і сэкцыі РСІ ў бліжэйшы час пытаньні ўборачнай і асеньняй пасеўкампаніі ў вёсцы і організацыю ўборкі прыгарадных гаспадарак, контроль за выкананьнем пастаноў Чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б) аб гарадзкой гаспадарцы—у горадзе;

в) выканаць пастанову Прэзыдыуму ЦКК УсеКП(б) аб сумеснай рабоце ўдарнікаў друку і актыву КК-РСІ, прыцягваючы цэнтральны, раённы і нізавы друк і рабселькораў да актыўнага ўдзелу і сумеснага правядзеньня з КК-РСІ ўсіх важнейшых гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў;

г) абавязаць КК-РСІ неадкладна палепшыць пастаноўку работы Бюро скаргаў у такой меры, каб яны былі здольны ня толькі рэагаваць на скаргі працоўных, але-ж на падставе скаргаў паляпшаць работу апарату і праводзіць сіламі свайго актыву сыстэматычную, плянавую праверку выкананьня рашэньняў РСІ, важнейшых пастаноў партыі і ўраду.

Пленум ставіць бліжэйшай задачай дабіцца пераломy ў справе ўцягненьня ва ўсю работу РСІ профсаюзаў і комсамолу, значнага пашырэньня і палепшаньня работы органаў масавага контролю (Часовыя Контрольныя Камісіі, Часовыя Контрольныя брыгады, групы садзейнічаньня і сэкцыі РСІ, шэфскія брыгады, „Лёгкая Кавалерыя“) і ўздыму ролі профсаюзаў і комсамолу ў правядзеньні разгорнутага наступу на бюрократызм, рацыяналізацыі апарату і пастаноўкі масавай праверкі выкананьня.

7. Пленум прапануе КК-РСІ ўпарадачыць работу свайго апарату, значна скараціць аб'ём і колькасьць ізьлішніх дакладных запісак, вынікаў, пастаноў, скараціць да мінімуму розныя пасяджэньні, організаваўшы больш рацыянальнае скарыстаньне рабочага дня ў рабоце ўсіх зьвеньняў партыйнага, савецкага, гаспадарчага і інш. апаратаў, выкарыстоўваючы пэўную частку часу на самападрыхтоўку і ўздым кваліфікацыі актыву, аўладаньня тэхнікай, асабліва гэта датычыцца работнікаў КК-РСІ.

Даручыць Прэзыдыуму ЦКК у бліжэйшы час вывучыць і ўпарадачыць грамадзкую работу ў адным раёне, з мэтай ужыцьця гэтай практыкі ў астатніх раёнах.

Пленум падкрэсьлівае, што перабудова работы па-новаму павінна забясьпечыць значна большы ўздым ролі КК-РСІ па сыгналізацыі і папярэджаньні скажэньняў партыйнай лініі і ўсякіх прарываў, па аказаньні конкрэтнай дапамогі ў выпраўленьні недахопаў, зрабіўшы органы КК-РСІ ўзорнымі апаратамі, якія на аснове зьбіраньня лепшай станоўчай практыкі організоўваюць на сваім прыкладзе ўзорную пастаноўку работы ва ўсім апараце. Уся работа КК-РСІ павінна і надалей забясьпечыць няўхільнае правядзеньне генэральнай лініі партыі, неаслабную барацьбу з усякім скажэньнем гэтай лініі, правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, „левым“ опортунізмам і прымірэнцтвам да іх і мобілізацыі мас на поўнае выкананьне пляну соцыялістычнага будаўніцтва.

# Рэзолюцыя V пленуму ЦКК КП(б)Б

## па дакладу т. Рэвінскага аб становішчы самакрытыкі ў КП(б)Б

I.

XV Зьезд УсеКП(б) і адозва ЦК ад 3 чэрвеня 1928 году з усёй рашучасьцю паставілі перад партыяй і рабочай клясай важнейшую задачу „падняць магутную хвалю творчай самакрытыкі зьнізу, якая сапраўды асьвежыць і палепшыць усю савакупнасьць партыйных, профэсіянальных, савецкіх і інш. організацый", падкрэсьліўшы, што „лёзунг самакрытыкі", не зважаючы на асобы", крытыкі зьверху да нізу і зьнізу да верху—ёсьць адзін з цэнтральных лёзунгаў дня" (з адозвы ЦК УсеКП(б) аб самакрытыцы).

„Лёзунг самакрытыкі... калі ён будзе праведзены правільна і сумленна, павінен даць па крайняй меры два вынікі. Ён павінен, папершае, узьняць пільнасьць рабочае клясы, завастрыць яе ўвагу на нашых недахопах, аблягчыць выпраўленьне гэтых недахопаў і зрабіць немагчымымі ўсякага роду „нечаканасьці" ў нашай будаўнічай рабоце. Ён павінен, па-другое, узьняць палітычную культурнасьць рабочае клясы, разьвіць у ёй пачуцьцё гаспадара краіны і аблягчыць абучэньне рабочае клясы справе кіраўніцтва краінай" (Сталін).

Наша партыя дабілася рашаючых посьпехаў на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва, дзякуючы непаслабнаму ажыцьцяўленьню генэральнай лініі. Мэтодам бальшавіцкай самакрытыкі была мобілізавана, пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК УсеКП(б), сама партыя, рабочая кляса ў саюзе з асноўнымі масамі сялянства на барацьбу за правядзеньне політыкі соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны, соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі.

Няўхільнае і пасьлядоўнае правядзеньне бальшавіцкай самакрытыкі, як магутнага мэтоду ў барацьбе за генэральную лінію партыі, самакрытыкі, наносячай сакрушальны ўдар па праваму і „леваму" опортунізму, прымірэнцтву і інш. варожых уплывах у нашых радох—выклікала бурны рост політычнай актыўнасьці і творчага энтузіязму рабочае клясы і працоўных мас, пад кіраўніцтвам партыі, на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

II.

Гіганцкія тэмпы індустрыялізацыі і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі БССР на базе саўгаснага і колгаснага будаўніцтва, нябывалы рост культуры, нацыянальнай па сваёй форме і пролетарскай па сваім зьместу, яскрава сьведчаць аб тым, што КП(б)Б дабі-

лася гэткіх вялізарных посьпехаў у правядзеньні генэральнай лініі партыі на аснове пролетарскай самакрытыкі, выхоўваючай і мобілізуючай рабочую клясу і вядучых ёю працоўных мас на правядзеньне разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце.

Чыстка партыйнай організацыі і дзяржаўнага апарату садзейнічала яшчэ большаму ўздыму актыўнасьці рабочых і працоўных мас (разгарнулася соц. спаборніцтва і ўдарніцтва, сустрэчныя пляны) і зьявілася магутным штуршком па далейшым разгортваньні пролетарскай самакрытыкі, уздыму яе на вышэйшую ступень, робячы яе сапраўдным сродкам барацьбы па зьнішчэньні недахопаў партыйных, профэсіянальных, савецкіх і гаспадарчых організацый. Самакрытыка набыла вялічэзнае выхаваўчае значэньне па перавыхаваньні масавага прытоку новых рабочых, прышоўшых на вытворчасьць з вёскі і мястэчка ў большасьці з дробна-буржуазнай індывідуальнай ідэолёгіяй, па абучэньні гэтай масы колектыўнай, сьвядомай соцыялістычнай працы і ўцягненьні яе ў актыўнае соцыялістычнае будаўніцтва.

КП(б)Б і згуртаваўшаяся вакол яе рабочая кляса мэтодам пролетарскай самакрытыкі выкрыла і разаблачыла „прышчэпаўшчыну", рад іншых права-опортуністычных і нацыянал-опортуністычных скажэньняў партыйнай лініі, КП(б)Б загартавалася ў барацьбе з контр-рэволюцыйным троцкізмам, з усякімі „лявацкімі" загібамі і прымірэнцтвам да іх, разаблачыла контр-рэволюцыйную сутнасьць беларускага нацыянал-дэмократызму і шовінізмаў усіх колераў, вядзе рашучае змаганьне з вялікадзяржаўным шовінізмам—галоўнай небясьпекай на даным этапе. У гэтай барацьбе КП(б)Б вырасла колькасна і ідэёва, узмацніла ленінскае адзінства, надзвычайна вырас яе аўторытэт у пролетарскіх і працоўных масах, яна аказалася ў поўнай меры здольнай быць на чале разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце, пасьпяхова адбіваючы шалёнае супраціўленьне ўсіх варожых сіл дыктатуры пролетарыяту.

III.

XVI Зьезд УсеКП(б) адзначыў, што „самакрытыка, як штодзённы органічны мэтод партработы, не ва ўсіх організацыях выстарчальна разгорнута, яшчэ назіраюцца факты зажыму і скажэньня самакрытыкі". Пленум ЦКК КП(б)Б падкрэсьлівае, што даная ацэнка застаецца цалкам правільнай і зараз для раду партыйных організацый Беларусі. Выкрыты за апошні час:

а) грубейшы заціск самакрытыкі з боку былога партыйнага кіраўніцтва Барысаўшчыны і на гэтай падставе рад вытворчых прарываў;

б) у выніку права-опортуністычных адносін Віцебскага Гаркому да ажыцьцяўленьня лёзунгу партыі аб самакрытыцы, зажыму і ігнараваньня крытыкі па радзе фабрычна-заводзкіх колектываў і установ стварыліся глыбокія прарывы ў правядзеньні прамфінпляну, нацполітыкі і перабудовы партыйна-масавай работы;

в) факты прасьледваньня за крытыку і опортуністычныя скажэньні партыйнай лініі ў Буда-Кашалеўскай, Сьмілавіцкай і Рэчыцкай парторганізацыях;

г) у выніку слаба разгорнутай самакрытыкі допушчаны „левыя" загібы ў рабоце Лельчыцкай і Лоеўскай парторганізацыях і права-опортуністычныя адносіны да правядзеньня пасеўных плянаў (скарачэньне плянаў) у Уваравіцкай, Стара-Дарoскай і Церахоўскай парторганізацыях.

Праведзеная Прэзыдыумам ЦКК праверка становішча самакрытыкі, унутрыпартыйнай і рабочай дэмократыі па радзе партыйных організацый сьведчыць аб тым, што самакрытыка па радзе партыйных організацый і радзе зьвеньняў савецкіх, профэсіянальных, гаспадарчых і коопэрацыйных організацый разгорнута зусім слаба, у частцы з іх— нездавальняюча. Самакрытыка ў гэтых організацыях ня стала асноўным органічным мэтодам штодзеннай работы па мобілізацыі мас на правядзеньне політычна-гаспадарчых задач, выпраўленьне недахопаў і скажэньняў партыйнай лініі.

IV.

Пленум ЦКК КП(б)Б адзначае наступныя асноўныя недахопы і скажэньні ў справе разгортваньня самакрытыкі:

а) многія партыйныя організацыі не растлумачылі шырокім партыйным і асабліва беспартыйным рабочым, колгасным масам сэнс і значэньне бальшавіцкага лёзунгу самакрытыкі, слаба выкарысталі самакрытыку, як мэтод выхаваньня партыйных кадраў, партыйных і рабочых мас, асабліва новых рабочых і колгасьнікаў, адсюль налічча настрояў баязьні крытыкаваць;

б) не ва ўсіх організацыях усьвядомілі ролю самакрытыкі, як асноўнага мэтоду работы, у радзе выпадкаў разглядаюць самакрытыку, як чарговую кампанію, адарваную ад агульных задач барацьбы за генэральную лінію партыі;

в) у радзе ячэек, колектываў і нават у паасобных організацыях існуюць няправільныя погляды і спробы абмежаваць самакрытыку. Факты, калі крытыка дзейнасьці паасобных членаў партыі, сакратароў ячэек і колектываў кваліфікуецца, як падрыў партыйнага кіраўніцтва і крытыка партыйнай лініі ў цэлым. Наліччa няправільных адносін да крытыкі, прышываньне ярлыкоў „бузацёра", „ухіліста", патрабаваньне так званай 100-процантнай праўды і г. д. Такія спробы прыводзяць да заціску і скажэньня крытыкі і зьвязаны з антыпартыйнымі настроямі, масабаязьню (баязьнь масы);

г) рад недапушчальных фактаў прасьледваньня рабселькораў за актыўную барацьбу з недахопамі і скажэньнямі партыйнай лініі паказваюць, што ў якасьці зброі супроць крытыкі глушыцелі ўжываюць розныя спробы па апарочваньні корэспондэнтаў і ўсякія мэтоды барацьбы з апошнімі (адданьне пад суд „за клевету", выключэньне з партыі, зьняцьце з працы);

д) наліччa выпадкаў парушэньня ўнутрыпартыйнай, рабочай дэмократыі і рэволюцыйнай законнасьці (Барысаў, Віцебск, Сьмілавічы, Лельчыцы, Копыль), адміністраваньне, верхаглядзтва ў кіраўніцтве, няўменьне слухаць масу, позьняе рэагаваньне на сыгналы зьнізу);

е) нездавальняючае становішча з рэагаваньнем на крытыку ў друку, прапановы рабочых і колгасных мас, што затрымлівае далейшае разгортваньне самакрытыкі, граючы на руку опортуністычным і клясававарожым элемэнтам у іх барацьбе супроць гэтай важнейшай зброі партыі і пролетарыяту;

ж) буйнейшым недахопам зьяўляецца недастатковае кіраўніцтва з боку партыйных камітэтаў, колектываў і ячэек справай разгортваньня самакрытыкі, у радзе месц нізкая організуючая роля іх і няўменьне мобілізаваць масу, каб вастрыё самакрытыкі накіраваць на рашаючыя вучасткі работы і поўнасьцю выкарыстаць яе на правядзеньне політычна-гаспадарчых задач. Наліччa фактаў перахлёстваньня, опортуні-

стычнага самацёку (абязьлічаная самакрытыка) сьведчыць аб тым, што ў паасобных мясцох варожыя элемэнты прабуюць выкарыстаць бальшавіцкі лёзунг супроць правадзімых партыяй мерапрыемстваў.

Практыка паказала, што на чале душэньня і ігнараваньня крытыкі, галоўным чынам, становяцца опортуністы і бюрократы, сярод якіх „комуністы“-бюрократы граюць далёка не апошнюю ролю“ (Сталін). Ва ўсіх выпадках, дзе меў месца зажым самакрытыкі, назіраліся грубейшыя опортуністычныя скажэньні партыйнай лініі, асабліва правы опортунізм на практыцы. Адсутнасьць разгорнутай прынцыповай крытыкі стварала спрыяючую глебу для шкодніцкай дзейнасьці (Дзяржплян, Бел. Акадэмія Навук і інш.) і другіх прарываў на радзе паасобных вучасткаў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва (прытупляла бальшавіцкую пільнасьць у барацьбе з усякім праяўленьням опортунізму).

## V.

„Новая абстаноўка, новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва“ (Сталін), пасьпяховае ажыцьцяўленьне задачы завяршэньня пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі СССР і выкананьня 5-годкі ў 4 гады патрабуюць максымальнага напружаньня ўсіх сіл партыі, рабочае клясы, колгасных і працоўных мас для поўнага выкананьня пляну разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце. Вырашэньне гэтых задач патрабуе яшчэ больш рашучага разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі, не зважаючы на асобы, зрабіўшы яе сапраўдным органічным мэтодам работы ўсіх зьвеньняў партыі, профсаюзаў і комсамолу, савецкіх, гаспадарчых і коопэрацыйных організацый, мэтодам „узьняцьця ідэёвага ўзроўню і бальшавіцкага выхаваньня партыйных кадраў і партыйных мас для выкрыцьця скажэньняў партыйнай лініі, опортунізму на практыцы і для далейшага разьвіцьця ўнутрыпартыйнай дэмократыі“ (з пастаноў XVI Зьезду ЎсеКП(б).

Пленум ЦКК КП(б)Б падкрэсьлівае, што асноўная задача самакрытыкі заключаецца „ў самым сьмелым, самым рашучым і самым пасьлядоўным уцягненьні мас у справу соцыялістычнага будаўніцтва“, зрабіўшы яе важнейшым „вагаром барацьбы за сапраўднае выпраўленьне ўсяго апарату, для сапраўднай, а не папяровай барацьбы з бюрократызмам, для масавага паходу супроць усіх ворагаў, пачынаючы ад кулака і шкодніка і канчаючы элемэнтамі разлажэньня ў нашых уласных радох“.

Пленум ЦКК КП(б)Б прапануе ўсім партыйным, комсамольскім організацыям і контрольным камісіям:

а) сконцэнтраваць усю ўвагу на хутчэйшае сканчэньне перабудовы партыйна-масавай, комсамольскай, профэсіянальнай, савецкай, коопэрацыйнай і гаспадарчай работы. У аснову перабудовы пакласьці максымальнае выкарыстаньне творчай ініцыятывы, ідучай зьнізу крытыкі рабочых і колгасных мас, далейшае разьвіцьцё такіх форм самакрытыкі, як соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва і перанясеньне цэнтру цяжару работы ў нізавое вытворчае зьвяно (цэх, агрэгат, брыгаду, групу, колгас і г. д.);

б) лічачы недапушчальным, калі па радзе прадпрыемстваў і асабліва колгасаў і ўстаноў комуністы і комсамольцы яшчэ пагалоўна не ахоплены соц. спаборніцтвам і ўдарніцтвам—Пленум ЦКК ставіць перад усімі партыйцамі і комсамольцамі баявую і неадкладную задачу—на аснове 100-процантнага актыўнага ўдзелу ва ўдарных бры-

гадах вазглавіць рух соц. спаборніцтва і ўдарніцтва, разгортваць і вазглавіць крытыку рабочых, колгасных і працоўных мас, накіроўваючы яе на рашаючыя вучасткі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва;

в) пленум зварочвае асаблівую ўвагу на неабходнасьць вастрыё пролетарскай самакрытыкі накіраваць на фронт нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў напрамку пасіленьня рабочага контролю, устанаўленьня сапраўднай сувязі рабочых праз шэфства (соц. сумяшчэньне) з навуковымі ўстановамі, актыўнага вырашэньня ўсёй рабочай масай праз профсаюзы, пад кіраўніцтва парторганізацыі, проблемы падрыхтоўкі тэхнічных і навуковых пролетарскіх кадраў, хутчэйшага аўладаньня беларусізацыяй і ўздыму на вышэйшую ступень кіруючай ролі рабочых ва ўсім процэсе будаўніцтва культуры, пролетарскай па сваім зьмесьце і нацыянальнай па сваёй форме, забясьпечыўшы неаслабнае сыстэматычнае партыйнае кіраўніцтва гэтым адказьнейшым вучасткам;

г) пленум абавязвае ўсіх кіраўнікоў прадпрыемстваў, установ, саўгасаў, колгасаў, коопэратываў і інш. стварыць усе ўмовы для разгортваньня крытыкі рабочых і працоўных мас па аблягчэньні барацьбы мас з недахопамі, рэгулярна рабіць справаздачы перад шырокімі рабочымі і працоўнымі масамі аб выніках рэалізацыі прапаноў (як вусных, так і пісьмовых), прапаноў вытворчых нарад, эконом-камісій, часовых контрольных камісій, брыгад.

Пленум падкрэсьлівае, што ва ўмовах абвастрэньня клясавай барацьбы павінна быць узьнята бальшавіцкая пільнасьць партыйных мас і органаў КК-РСІ да ўсякіх спроб абмежаваньня, зажыму, прасьледваньняў і ігнораваньня крытыкі, у якой-бы форме гэта не праяўлялася. *Пленум прапануе ўсім контрольным камісіям і партыйным організацыям весьці бязьлітасную барацьду з спробамі абмежаваньня, зажымам, прасьледваньнем і ігнораваньнем прапаноў і крытыкі ў друку, з усякімі бюрократычнымі адпіскамі і абвяргаńьнем крытыкі, як з праяўленьнем правага опортунізму ў практычнай дзейнасьці.*

Неабходна ў тэй-жа час весьці рашучую барацьбу з усякім перахлёстваньнем самакрытыкі, з малейшымі спробамі опортуністычных і клясава-варожых элемэнтаў пад сьцягам „самакрытыкі“ біць па генэральнай лініі партыі, выкрываючы іх антыпролетарскую, антыпартыйную сутнасьць перад партыйнымі, рабочымі, колгаснымі і працоўнымі масамі. Гэта патрабуе ад усіх партыйных організацый забясьпечаньня моцнага сыстэматычнага партыйнага кіраўніцтва справай разгортваньня самакрытыкі, уздыму організуючай ролі партыйных ячэек і камітэтаў па мобілізацыі мас навакол бальшавіцкага лёзунгу самакрытыкі, як важнейшай зброі ў барацьбе за генэральную лінію партыі, за форсаваньне высокіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва;

д) ухваляючы пастанову Прэзыдыуму ЦКК у частцы праверкі выкананьня пастаноў XVI партконфэрэнцыі аб нескарыстаньні скомпромэтаваных і неапраўдаўшых сябе на рабоце комуністаў, пленум ЦКК абавязвае ўсе КК і партыйныя організацыі строга сачыць за няўхільным і пасьлядоўным правядзеньнем гэтай пастановы.

Пленум абавязвае партыйныя організацыі і контрольныя камісіі неадкладна забясьпечыць поўнае зьнішчэньне ўсіх адзначаных недахопаў і скажэньняў пры разгортваньні самакрытыкі, растлумачыўшы значэньне бальшавіцкага лёзунгу самакрытыкі самым шырокім рабочым, колгасным і працоўным масам.

Пленум ЦКК прапануе контрольным камісіям—РСІ сыстэматычна правяраць выкананьне пастаноў партыі аб самакрытыцы, унутрыпартыйнай і рабочай дэмократыі, весьці бязьлітасную барацьбу з усякімі скажэньнямі і зажымам самакрытыкі, строга сачыць за тым, каб самакрытыка насіла дзейсны характар і была заўсёды накіравана ў абарону генэральнай лініі партыі і на рашучую барацьбу з опортуністычнымі скажэньнямі.

VI.

Пленум ЦКК КП(б)Б адзначае, што магутны ўздым політычнай актыўнасьці рабочае клясы і працоўных, як вынік правільнасьці генэральнай лініі партыі меў вялікі ўплыў на рост рабселькораўскіх радоў, рост партыйнага і савецкага друку (цэнтральнага раённага і асабліва нізавога). Друк і рабселькоры пад кіраўніцтвам партыі ўжо адыгрываюць вялізную ролю „самай вострай, самай моцнай зброі партыі, ролю „камандзіраў пролетарскай грамадзкай думкі" (Сталін). Констатуючы значную работу, праведзеную за апошні час партыйнымі організацыямі пры актыўным удзеле органаў КК-РСІ у сувязі з месячнікам друку і другім Усебеларускім Зьездам Рабсельваенкораў, высокую політычную актыўнасьць рабселькораўскіх мас, узьнятую на аснове рашэньняў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, *пленум прапануе партыйным організацыям і контрольным камісіям забясьпечыць неадкладны карэнны перелом у палепшаньні партыйнага кіраўніцтва рабселькораўскім рухам, раённым і нізавым друкам, лічачы гэта адным з важнейшых і адказьнейшых вучасткаў партыйна-масавай работы кожнай партыйнай ячэйкі, кожнага партыйнага камітэту.*

Пленум прапануе ўсім партыйным організацыям і контрольным камісіям рашэньні ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб перабудове работы з рабселькорамі, раённым і нізавым друкам, пастановы 2-га Усебеларускага Зьезду Рабсельваенкораў у бліжэйшы час давесьці да самых шырокіх рабочых, колгасных і працоўных мас, дабіваючыся сапраўднага выкананьня вядучага лёзунгу ў рабселькораўскім руху „кожны рабселькор—ударнік, кожны ўдарнік—рабселькор". Узьняць ролю рабселькораў, як організатараў мас, пропагандыстаў і агітатараў у барацьбе за правядзеньне генэральнай лініі партыі, за скарыстаньне ўсіх вытворчых магчымасьцяй і сродкаў для соцыялістычнага будаўніцтва, за аўладаньне тэхнікай, за суцэльную колектывізацыю і на гэтай аснове ліквідацыю кулацтва, як клясы. Узьняць ролю рабселькораў і партыйна-савецкага друку для папярэджаньня прарываў і скажэньняў партыйнай лініі і асьвятленьня, побач з недахопамі, лепшых прыкладаў і дасягненьняў соцыялістычнай будоўлі, выхоўваючы на іх рабочую клясу і працоўныя масы.

Пленум прапануе КК-РСІ ўцягнуць шырокую масу рабселькораў, ударнікаў, ударныя брыгады друку ва ўсю работу КК-РСІ, у праверку выкананьня, у актыўную барацьбу з бюрократызмам. „Сумесная работа КК-РСІ з ударнымі брыгадамі друку павінна быць у бліжэйшы час накіравана на праверку таго, як на справе ажыцьцяўляюцца пастаўленыя т. Сталіным на чэрвеньскай нарадзе гаспадарнікаў новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва, у сувязі з новымі ўмовамі разьвіцьця прамысловасьці (ліквідаваньне цякучасьці рабочае сілы, ураўнілаўкі, абязьлічкі, спэцаедзтва, сапраўднае ўкараненьне гаспадарчага разьліку, узмацненьне тэмпаў падрыхтоўкі кадраў спэцыялістаў, палепшаньне культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых),

вырашаючы гэтыя задачы ў адпаведнасьці з конкрэтнымі ўмовамі работы ў кожным раёне, на прадпрыемстве, у колгасе, саўгасе“ (з пастаноў ЦКК УсеКП(б), узьняўшы ролю КК-РСІ па папярэджаньні хваравітых зьявішч і скажэньняў партыйнай лініі, узьняўшы на вышэйшую ступень ролю КК-РСІ, як ораганізатара рабочых, колгасных і працоўных мас, каб мэтодам бальшавіцкай самакрытыкі іх мобілізаваць на правядзеньне політычна-гаспадарчых задач.

Пленум ЦКК КП(б)Б заклікае ўсіх партыйцаў, комсамольцаў, усіх рабочых і колгасьнікаў выкарыстаць магутны мэтод бальшавіцкай самакрытыкі для поўнага ажыцьцяўленьня пастаноў апошніх пленумаў ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б і паказаньняў у прамове т. Сталіна, для неадкладнай ліквідацыі вытворчых прарываў, пасьпяховага правядзеньня ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі, правядзеньня хлеба- і ільна-нарыхтовак, завяршэньня суцэльнай колектывізацыі і на гэтай аснове ліквідацыю кулацтва, як клясы. Пранізаць самакрытыку ў вытворчы быт рабочых і колгасьнікаў, накіраваць яе вастрыё супроць прагульшчыка, лодыра, супроць таго, хто выпускае дрэннай якасьці продукцыю, супроць шкодніка і бюрократа, супроць правага опортуніста, які прыкрываецца пад „об'ектыўныя“ прычыны і спрабуе сарваць тэмпы соцыялістычнага наступленьня, супроць „левых“ загібшчыкаў і прымірэнцаў, супроць усіх ворагаў соцыялістычнага будаўніцтва.

# Рэзолюцыя V пленуму ЦКК КП(б)Б

## па пытаньні аб выкананьні пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб чыгуначным транспорце і падрыхтоўцы да асеньня-зімовых перавозак

I.

Вялізарнейшыя посьпехі ў справе індустрыялізацыі СССР і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі па шляху арганізацыі буйных савецкіх гаспадарак і суцэльнай колектывізацыі —ператвараюць СССР у сапраўдную індустрыяльную краіну.

На падставе экономічнага ўзросту ўсяго Саюзу, БССР дабілася вялізарных посьпехаў і ператвараецца з краіны аграрнай у краіну індустрыяльную і краіну буйнай жывёлагадоўлі і тэхнічных культур.

Узрост прамысловасьці, пабудова новых фабрык і заводаў, рашучы пад'ём сельскай гаспадаркі — на падставе яе колектывізацыі—дае вялікі ўзрост работы транспорту.

Пасьпяховае выкананьне 5-гадовага пляну ў БССР значна павысіла грузазварот чыгуначнага транспорту. Калі ў 1929 г. грузазварот быў 8,8 міл. тон, то ў 1930 г. ён вырас да 11,5 міл. тон, што ў параўнаньні з дарэволюцыйным часам дае ўзрост у 4 разы.

Ня гледзячы на гэтыя дасягненьні тэмпы работы чыгуначнага транспорту адстаюць ад патрабаваньняў народнай гаспадаркі. Гэта становішча прывяло да таго, што транспорт стаў вузкім месцам у народнай гаспадарцы.

II.

Пленум ЦКК КП(б)Б адзначае, што ў выніку выкананьня пастановы ЦК УсеКП(б)Б і СНК СССР аб чыгуначным транспорце за пэрыод з 15/I па сучасны момант у рабоце чыгуначнага транспорту Беларусі вызначыўся пералом.

Адозва ЦК і СНК выклікала вялікі ўздым актыўнасьці і творчай ініцыятывы шырокіх мас чыгуначнікаў на падставе разгортваньня соцыялістычных мэтодаў работы (соц. спаборніцтва і ўдарніцтва), што дало магчымасьць дабіцца аздараўленьня паравознага парку, палепшаньня выкананьня вымернікаў і палепшаньня работы транспорту па выкананьні задач, стаячых перад ім, аб чым сьведчыць наступнае:

1. Процант хворых паравозаў па Жлобінскім эксплёатацыйным раёне ў студзені мес. быў 30,2, у чэрвені — 21,22; па Гомельскім р-не: у студзені — 40,7, у чэрвені — 22,5, па Аршанскім р-не: у студзені — 22, у чэрвені — 14,4; па Віцебскім р-не: у красавіку — 32,7, у чэрвені — 19,9.

2. Сярэдня-сутачны прабег таварнага паравозу па Гомельскім эксплётацыйным раёне ў студзені мес. быў 168 кілёмэтраў, у чэрвені — 184; па Жлобінскім раёне — у студзені 134 кілёмэтры, у чэрвені — 160 кілёмэтраў; па Аршанскім раёне — у студзені — 137, у чэрвені — 180; па Віцебскім р-не — у студзені — 140, у чэрвені — 142.

Ня гледзячы на палепшаньне работы дарог па выкананьні эксплёатацыйных вымернікаў, а таксама перавыкананьні паасобных вымернікаў, як-та: па комэрцыйнай і тэхнічнай хуткасьці ўсё-ж агульнае становішча гэткае, што па большасьці вымернікаў заданьне ня выконваецца. Так, напрыклад, па сярэдня-сутачным прабегу таварных вагонаў заданьне выконвае толькі адзін Гомельскі эксплёатацыйны раён; па Жлобінскім раёне заданьне выконваецца на 85,79%; па Аршанскім р-не — на 76,99%; па Віцебскім — на 85,8% (чэрвень), зварот вагонаў таксама яшчэ ня выконваецца ніводным з раёнаў.

Пастанова ЦК і СНК упаўне забясьпечвае поўнае аздараўленьне чыгуначнага транспорту. Такое становішча, што да гэтага часу ў рабоце чыгуначнага транспорту Беларусі намеціўся толькі пералом і недасягнута поўнага аздараўленьня ўсёй работы, тлумачыцца тым, што гэта дырэктыва партыі сустрэла опортуністычнае супраціўленьне з боку паасобных работнікаў дырэкцыі Заходніх і МББ чыгунак, а таксама і з боку паасобных раёнаў і дэпо, што творчая ініцыятыва і энтузіязм мас ня быў належным чынам падхоплены і вазглаўлены партыйнымі, профэсіянальнымі, гаспадарчымі організацыямі на мясцох. Асноўныя дырэктывы па правядзеньні спаранай язды і барацьбы з абязьлічкай, як ключ да аздараўленьня транспорту — не праводзіліся з усёй жорсткасьцю, дзякуючы чаму стварыліся значныя зрывы спаранай язды, дасягаючыя па таварных параозах да 35 проц. (Віцебскі р-н, чэрвень), і па пасажырскіх паравозах — да 48 проц. (Аршанскі р-н, чэрвень). Дырэктыва аб карэннай перабудове ўсёй работы ў адпаведнасьці з стаячымі перад транспортам задачамі, з перанясеньнем цэнтру цяжкасьці ў цэхі, брыгады, групы па гаспадарчай, профэсіянальнай і партыйнай лініі да гэтага часу не праведзена, без правядзеньня гэтага ня можа быць забясьпечана выкананьне задач, стаячых перад транспортам, і поўнае аздараўленьне ўсёй транспортнай гаспадаркі.

Пленум ЦКК КП(б)Б прапануе контрольным камісіям і партыйным організацыям весьці бязьлітасную барацьбу з праявамі правага опортунізму на практыцы, прымірэнцтвам і „очковтирательством" і не застанаўлівацца перад прыняцьцем жорсткіх мер да тых, хто затрымлівае правядзеньне ў жыцьцё баявога загаду партыі.

Пленум ЦКК КП(б)Б прапануе Упаўнаважанаму НКШЗ пры СНК БССР форсаваць работу па распрацоўцы пляну, рэконструкцыі і сумесна з Дзяржплянам БССР і мясцовымі саветамі, а таксама гаспадарчымі і коопэрацыйнымі організацыямі прыступіць да распрацоўкі пляну грузазвароту і грузапатокаў па МББ і Заходніх чыгунках на другую пяцігодку.

Пленум ЦКК КП(б)Б прапануе Дзяржпляну і ўсім гаспадарчым і коопэрацыйным організацыям неадкладна прыступіць да складаньня транспортна-экономічнага балянсу з тым, каб ён быў скончаны да 20 жніўня.

Пленум прапануе начальнікам раёнаў, дэпо, станцый і дыстанцый узмацніць барацьбу за ўнядрэньне зьдзельшчыны на справе ва ўсіх зьвеньнях з мэтаю поўнай ліквідацыі на дарогах ураўнілаўкі ў зарплаце, пераглядзець нормы выпрацоўкі і расцэнкі і павысіць зарплату вядучым кваліфікацыям, а таксама пашырыць сыстэму прэміяльнай

аплаты і правільнай пабудовы зарплаты і ліквідацыі цякучасьці рабсілы.

Пленум прапануе начальнікам эксплёатацыйных раёнаў БССР правесьці наступныя мерапрыемствы, накіраваныя да далейшага ўзмацненьня спаранай язды:

а) у першую чаргу ўзьняць кваліфікацыю нарадчыкаў дэпо, палепшыць графікі, організаваць выразны і хуткі выклік з кватэр паравозных брыгад, максымальна ўвязаць плян адпачынкаў з пастаноўкай паравозаў у працяжны рамонт, прасачыць за сапраўдным прымацаваньнем сталай, а ня першай папаўшайся падменнай брыгады, недапушчаць разьдзельнага ўходу ў адпачынак асоб з аднэй брыгады;

б) ліквідаваць абязьлічку ўсіх відаў на вытворчасьці (варштаты, інструманты і г. д.);

в) прыняць меры да поўнай ліквідацыі спазьненьня пасажырскіх і таварных паяздоў;

г) праверыць адпаведнасьць дыспэтчарскага апарату і кіраўнічых опэрацыйных работнікаў станцый;

д) поўнасьцю ажыцьцявіць прымацаваньне саставіцельскіх брыгад да паркаў, да зьмен дыспэтчараў і па напрамках;

е) праверыць правядзеньне ў жыцьцё рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў па палепшаньні манэўровай грузавой работы вузлоў і дабіцца спэцыялазацыі шляхоў і маршрутызацыі цягнікоў і ліквідаваць засылкі вагонаў і адпраўку бездокумэнтных грузаў;

ж) на справе ажыцьцяўляць адзінаначальле, асабліва з боку нізавой цэхавай адміністрацыі, прымаючы меры ўзьдзейнічаньня на асоб, ня скарыстоўваючых свае правы адзінаначальля, а таксама і скрыўляючых лінію партыі ў гэтым пытаньні;

з) павесьці бязьлітасную барацьбу супроць парушыцеляў працоўнай дысцыпліны, тэрмінова рэагуючы на конкрэтныя факты ў адпаведнасьці з маючыміся наконт гэтага пастановай ураду і паказаньнямі НКШЗ.

Партыйным і профэсіянальным організацыям сапраўды стаць на чале рабочых мас, мобілізаваць іх на рашучую барацьбу за выкананьне баявога загаду партыі на аздараўленьні транспортнай гаспадаркі, ліквідаваньні абязьлічкі і ўраўнілаўкі ў зарплаце, па ўнядрэньні рацыяналізатарскіх мэтодаў працы, сваячасова скарыстоўваючы ініцыятыву і энтузіязм рабочых мас, вядучы барацьбу за хутчэйшае правядзеньне ў жыцьцё рабочых прапаноў, а таксама палепшыць работу таварыскіх судоў.

Асаблівую ўвагу ўдзяліць разьвіцьцю соцыялістычных форм працы, паставіўшы сваёй мэтаю поўны ахоп рабочых соц. спаборніцтвам і ўдарніцтвам і ў першую чаргу дабіцца 100-процантнага ахопу і кіруючага ўдзелу ў гэтым партыйцаў і комсамольцаў, замацоўваючы рост соц. спаборніцтва і ўдарніцтва на конкрэтных экономічных дасягненьнях у гэтай галіне (вучот эфэктыўнасьці ўдарніцтва).

Гомельскай, Мозырскай Жлобінскай, Асіпавіцкай, Магілеўскай, Менскай, Аршанскай, Віцебскай, і Полацкай РайКК-РСІ неадкладна організаваць пасты і праз групы садзейнічаньня РСІ і па-заштатных інспэктароў дабіцца выкананьня гэтых дырэктыў пленуму да пачатку асеньня-зімовых перавозак.

Пленум ЦК КП(б)Б констатуе яўна нездавальняючае становішча падрыхтоўкі працы да асеньня-зімовых перавозак. Маючыяся ў эксплёатацыйных раёнах пляны асеньня-зімовых перавозак ня спушчаны ў цэх, брыгаду і групу.

Спэцыяльна-аздаравіцельны рамонт паравозаў да асеньня-зімовых перавозак праводзіцца нездавальняючымі тэмпамі і не забясьпечвае выкананьня задачы пропуску ўсіх паравозаў да 15 жніўня 1931 г.

Пленум ЦКК КП(б)Б прапануе начальнікам эксплёатацыйных раёнаў БССР да 15/VII-31 г. скончыць выкананьне спэцыяльнага аздаравіцельнага рамонту паравозаў, дырэкцыям дарог сваячасова забясьпечыць раёнам месцы на заводах „ВОРЗ"у для перадачы паравозаў у рамонт.

Стан вагоннага парку, маючы рашучае значэньне для выкананьня задач па перавозках, зьяўляецца нездавальняючым. На 1/V-31 г. Заходняя чыг. мела процант таварных хворых вагонаў па бягучым рамонце некалькі вышэйшы ўстаноўленай нормы, а на МББ чыг. гэты процант перавышаў норму больш чым у 2 разы.

Увагі рамонту вагонаў удзелена значна менш, чым паравозам, і якасьць рамонту нездавальняючая.

Станцыі і вузлы раёнаў БССР па сваім разьвіцьці здольны забясьпечыць грузапатокі ў разьмерах, намечаных па асеньня-зімовых перавозках пры правільнай баявой рабоце кожнага транспортнага зьвяна.

Пленум прапануе пад асабістую адказнасьць дырэктара Зах. чыг. т. *Падшываліна* закончыць разьвіцьцё ст. Магілеў да пачатку асеньня-зімовых перавозак.

Пленум ЦКК прапануе:

а) гаспадарчым і коопэрацыйным організацыям неадкладна скласьці дакладны плян заявак з паказаньнем раёнаў пагрузкі і ст. прызначэньня на час асеньня-зімовых перавозак;

б) правесьці ўсе падрыхтоўчыя работы да ўстаноўкі мэханізмаў па пагрузачных работах, паставіўшы пытаньне перад НКШЗ аб сваячасовым снабжэньні намечанымі па пляну мэханізмамі да пачатку ўзмоцненых перавозак;

в) будуючым вучасткам і раёнам узмацніць тэмпы будаўніцтва, зьвязанага з асеньня-зімовымі перавозкамі, як-та: пакгаўзы, памяшканьні для грузчыкаў, разьвіцьцё станцый, зьмякчэньне профіляў, жыльлёвае будаўніцтва, асабліва ў Воршы і Жлобіне і забясьпечыць сканчэньне гэтых работ ва ўстаноўленыя тэрміны;

г) абавязаць кліентуру і дыспэтчарскі апарат раёнаў спыніць сустрэчныя перавозкі, забясьпечыць сваячасовы вываз грузаў з станцый і выгрузку вагонаў.

РайКК-РСІ мець неаслабны нагляд за пасьпяховым выкананьнем гэтых мерапрыемстваў і асабліва зьвярнуць увагу на коснасьць і драпежніцкія адносіны з боку кліентуры да скарыстаньня чыгуначнага транспорту.

## IV.

Пленум ЦКК КП(б) адзначае, што недахоп рабочай сілы на чыгунках БССР зьяўляецца вынікам таго, што гаспадарнікі раёнаў не перайшлі „да політыкі організаванага набору рабочых", ня сталі „на шлях дагавораў гаспадарчых організацый з колгасамі і колгасьнікамі" (Сталін), не ўзяліся за рашучую мэханізацыю вытворчасьці, ня сумелі прыцягнуць жаночую сілу, сем'яў рабочых і працоўных мас, дзе маецца значная база, з якой можна чэрпаць праз падрыхтоўку дзяжурных па станцыі, касіраў, вагаўшчыкоў, кондуктароў і г. д.

Пленум прапануе партыйным організацыям і контрольным камісіям сконцэнтраваць усю ўвагу грамадзкасьці вакол забясьпечаньня

выкананьня плянаў рацыяналізацыі і мэханізацыі гаспадаркі раёнаў за 1931 г. і неадкладна прыступіць да прыцягненьня жаночай працы і заключыць дагаворы з колгасамі на дачу рабсілы на час асеньня-зімовых перавозак, а таксама абавязаць дырэкцыі чыгунак і начальнікаў эксплёатацыйных раёнаў паскорыць перападрыхтоўку неабходных кадраў.

V

Пленум ЦКК КП(б)Б констатуе, што перавод на гаспадарчы разьлік усіх зьвеньняў транспортнай гаспадаркі сустракае, як і спараная язда, значнае супраціўленьне з боку апаратаў дырэкцыі дарог і раёнаў (дырэкцыя Зах. чыг. і Жлобінскі р-н). „Надаючы выключна важнае значэньне правядзеньню гаспадарчага разьліку на транспорце" (з паст. Чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б), Пленум прапануе гаспадарчым, профэсіянальным і партыйным організацыям і контрольным камісіям праверыць правядзеньне гаспадарчага разьліку ў вытворчых адзінках ужо пераведзеных, і на аснове іх практыкі перавесьці на гаспадарчы разьлік усе зьвеньні і адзінкі транспорту БССР у другой палове 1931 г., адначасова дабіваючыся зьніжэньня сабекошту і палепшаньня работы транспорту.

VI.

Пленум ЦКК КП(б)Б указвае ўсім мясцовым партыйным і профэсіянальным організацыям на неабходнасьць тэрміновай перабудовы ўсёй партыйна-масавай работы пад кутом мобілізацыі мас вакол конкрэтных задач рэконструкцыі чыгуначнага транспорту і асеньня-зімовых перавозак, каб забясьпечыць, бязумоўна, бесьперабойнасьць работы ўсіх зьвеньняў транспорту па выкананьні плянаў перавозак.

Адначасова адзначаючы слабую работу трыкутніку на калёсах, у выніку адсутнічаньня сталай дапамогі збоку партыйных і профэсіянальных організацый, Пленум ЦК КП(б)Б прпануе ўзмацніць кіраўніцтва трыкутнікамі на калёсах, забясьпечыць тэрміновае правядзеньне ў жыцьцё іх прапаноў, даводзячы вынікі іх дзейнасьці да шырокіх рабочых мас.

---

# Рэзолюцыя V пленуму ЦКК КП(б)Б

## па дакладу т. Рыскіна аб рабоце партколегіі ў сувязі з апошнімі рашэньнямі ЦКК УсеКП(б)

1. Пленум ЦКК КП(б)Б поўнасьцю адабрае рашэньне Красавіковай Усесаюзнай нарады сакратароў партколегій і пастановы III пленуму ЦКК УсеКП(б) аб рабце Партколегіі і прапануе Партколегіі ЦКК КП(б)Б і ўсім раённым контрольным камісіям КП(б)Б кіравацца ў далейшай сваёй рабоце гэтымі рашэньнямі.

2. Органы КК, як і ўся партыя ў цэлым, стаяць на варце ленінскага адзінства партыйных радоў, якія ў сваёй штодзеннай рабоце вядуць рашучую барацьбу за генэральную лінію партыі супроць правых і „левых" опортуністаў, рэштак контррэволюцыйнага троцкізму і ўсякага роду прымірэнцаў,—садзейнічалі забесьпячэньню дасягнутых партыяй посьпехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва, росту ідэёвай згуртаванасьці, аздараўленьня і ўмацаваньня радоў партыі, узмацненьню працоўнай дысцыпліны і павышэньню пачуцьця адказнасьці кожнага комуніста.

3. Разам з гэтым пленум ЦКК КП(б)Б лічыць зусім правільнымі паказаньні ЦКК УсеКП(б), што з правільным увогуле падыходам з боку КК пры разборы спраў, як маючых агульнапартыйны і політычны характар, так і пэрсональных спраў членаў партыі, прыцягнутых за рознага роду праступкі, — у рабоце контрольных камісій маецца рад істотных недахопаў. Пленум ЦКК КП(б)Б зварачвае ўвагу Партыйнай Колегіі і раённых контрольных камісій на неабходнасьць хутчэйшага зжыцьця недахопаў, адзначаных у апошніх пастановах ЦКК УсеКП(б), маючых месца асабліва ў рабоце контрольных камісій Беларусі, рашуча перабудаваўшы сваю работу ў бок узмацненьня ўвагі да задач, высунутых Чэрвеньскім пленумам ЦК УсеКП(б) і прамоваю т. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў, зрабіўшы іх стрыжанем сваёй работы на бліжэйшы пэрыод.

4. У асноўным перабудова гэта павінна ісьці ў тым напрамку, каб „усю работу Партколегіі і КК падпарадкаваць мэтам соцыялістычнага наступленьня" і „забясьпечыць і ў далейшым баявыя бальшавіцкія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва", „ахоўваць ленінскае адзінства партыйных радоў", яшчэ больш узмацніць барацьбу з усімі відамі опортунізму і прымірэнцтва да яго і ў асаблівасьці супроць правага ўхілу, бязьлітасна прасякаючы ўсякія спробы, накіраваныя да расшатваньня жалезнай партыйнай дысцыпліны і „забясьпечыць далейшае сьмелае разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі" (XVI Зьезд УсеКП(б), каб работу КК уплатную наблізіць да фабрык, колгасаў і саўгасаў, перанесьці непасрэдна на месцы работу па выкананьні прамфінпляну, унядрэньні гаспадарчага разьліку, разгортваньні суцэльнай колектыві-

зацыі і каб Партколегія і КК у сваіх рашэньнях мелі на ўвазе „ня толькі задачы выхаваньня таго ці іншага члена партыі, справа якога разьбіраецца ў контрольнай камісіі, ці пакараньня яго за ўчынены антыпартыйны пастулак, але і задачы ўскрыцьця, вывучэньня і зьнішчэньня прычын, якія ствараюць спрыяючыя ўмовы для ўчыняемых паасобнымі членамі ці групай членаў партыі пастункаў, шкодных для інтарэсаў партыі.

Пленум ЦКК КП(б)Б даручае Прызыдыуму, Партколегіі і раённым контрольным камісіям КП(б)Б намеціць рад конкрэтных мерапрыемстваў, забясьпечваючых правядзеньне гэтых указаньняў у жыцьцё.

У прыватнасьці, пленум ЦКК адабрае намечаныя Партколегіяй наступныя пытаньні, якія падлягаюць прапрацоўцы ў бліжэйшы пэрыод:

а) удзел комуністаў ва ўдарніцтве і соц. спаборніцтве на вытворчасьці (у прамысловых прадпрыемствах) і барацьбе з прагуламі, падвышэньні працоўнай дысцыпліны;

б) роля комуністаў на вытворчасьці ў справе палепшаньня якасьці прамысловай продукцыі, барацьба з бракам;

в) адносіны комуністаў да сродкаў вытворчасьці (машыны, варштаты, інструманты і інш.), ліквідацыя абязьлічкі;

г) роля комуністаў на вытворчасьці па ўнядрэньні прогрэсыўных норм аплаты працы і ліквідацыі ўраўнілаўкі;

д) роля комуністаў у колгасах (удзел у соцспаборніцтве і ўдарніцтве, у правядзеньні зьдзельшчыны, ліквідацыі абязьлічкі, у правядзеньні культурна-масавай работы);

е) роля комуніста ў саўгасах і МТС (удзел у соцспаборніцтве і ўдарніцтве, у правядзеньні зьдзельшчыны, ліквідацыі абязьлічкі);

ж) роля партыйных організацый і паасобных комуністаў у справе палепшаньня транспорту, адносіны партыйцаў паравозных брыгад у замацаваньні спаранай язды, ліквідацыі абязьлічкі і інш.;

з) аб праявах—як у тэорыі, так і на практыцы, правага опортунізму, рэцыдываў троцкізму, „левых" загібаў у правядзеньні рашэньняў партыі, двурушніцтве і прымірэнчых адносінах да гэтых ухілаў;

і) аб выкананьні дырэктыў партыі ў галіне нац. політыкі і барацьбе з рознага роду скажэньнямі;

к) мэханічныя выхады з партыі, адрыў ад партыйнага жыцьця, пасыўнасьць, няўплата членскіх узносаў і г. д.;

л) аб выпадках парушэньня працоўнай дысцыпліны ў сувязі з мерапрыемствамі партыі па замацаваньні нізавых зьвеньняў партыйнасавецкага апарату (адмаўленьне ад паездкі на работу ў вёску, самавольны ад'езд і інш;)

м) аб рабоце сярод кандыдатаў партыі ў напрамку іх выхаваньня, нагрузкі і пераводу ў члены партыі (адсеў ад партыі).

5. Як пры прапрацоўцы і практычным вырашэньні намячаемых пытаньняў у плянавым парадку, так і пры вырашэньні пэрсональных спраў, Партколегія і РайКК павінны выходзіць з таго, што „перабудова ў рабоце павінна забясьпечыць пасьпяховую барацьбу за яшчэ большую ідэёвую згуртаванасьць партыі, за высокую якасьць і тэмпы работы ўсіх членаў партыі, выхаваньне вялічайшай дысцыпліны, гатоўнасьці па закліку партыі выканаць кожную ўскладзеную на члена партыі работу і дакладнае выкананьне рашэньняў партыі і ўраду.

„Пры вынясеньні рашэньняў Партколегіі павінны кіравацца ступеньню ўдзелу таго ці іншага члена партыі ў соцыялістычным будаўніцтве, ударніцтве, розных формах соцыялістычнага спаборніцтва, забясьпечваючы сваімі рашэньнямі больш актыўны ўдзел усіх членаў

партыі ў соцыялістычным наступленьні“ (рашэньне III пленуму ЦКК УсеКП(б).

6. Правільнае правядзеньне вышэйпаказанай перабудовы работы КК і пасьпяховае правядзеньне намечаных, у сувязі з гэтым, практычных мерапрыемстваў магчыма толькі пры рашучым разгортваньні масавай партыйна-выхаваўчай работы органамі КК, большага набліжэньня работы ПК і РайКК да прадпрыемстваў, саўгасаў, колгасаў і большай увязкі з шырокай партыйнай масай і нізавымі парторганізацыямі і значным палепшаньні мэтодаў работы.

У сувязі з гэтым пленум ЦКК даручае Партколегіі і РайКК ажыцьцявіць наступныя мерапрыемствы:

а) вывучаючы пасобныя пытаньні жыцьця партыі, Партколегія і РайКК павінны як у процэсе прапрацоўкі гэтых пытаньняў, так і пры практычным правядзеньні намячаемых мерапрыемстваў, разгарнуць масавую партыйна-выхаваўчую работу па мобілізацыі мас на выкананьне гэтых задач, сыстэматычна практыкуючы пастаноўкі дакладаў КК на сходах ячэек па пытаньнях, зьвязаных з правадзімымі мерапрыемствамі;

б) Партколегіі і РайКК да ўсёй сваёй работы як плянавай па вывучэньні і распрацоўцы партыйных проблем, так і бягучай падрыхтоўкі і разбору спраў, шырока прыцягваць членаў партыі, ствараючы вакол сябе сталы актыў з вытрыманых членаў партыі, у першую чаргу з членаў КК, уцягнуўшы ў актыўную работу ўсіх партзасядацеляў, значна пашырыўшы іх прыцягненьне з прадпрыемстваў, саўгасаў і МТС і рашуча палепшыўшы работу з імі; партсьледчых у парадку партнагрузкі, брыгады актывістаў-партыйцаў ці паасобных актывістаў-партыйцаў з ячэйковага актыву, у тым ліку рабкораў-ударнікаў-партыйцаў;

в) пленум даручае Партколегіі і РайКК пашырыць практыку адкрытага разбору спраў у ячэйках (вытворчых, саўгасных, колгасных), маючых агульнапартыйны характар, на якіх можна выхоўваць партыйную масу і нізавыя партыйныя організацыі (парушэньне партыйнай і працоўнай дысцыпліны, скрыўленьне клясавай лініі, нежаданьне актыўнага ўдзелу ў выкананьні прамфінпляну, колгаснага будаўніцтва, важнейшых політычных кампаніях і інш., факты парушэньня дырэктыў партыі). Гэткія справы павінны быць папярэдня дакладна падрыхтаваны;

г) Партколегіі і РайКК у большай меры, чым зараз, трымаць сувязь з прадпрыемствамі, асабліва з найбольш буйнымі, вядучай часткай прадпрыемстваў сваіх раёнаў, непасрэдна і пры дапамозе членаў КК, партзасядацеляў, партсьледчых і актывістаў ПК і РайКК, працуючых непасрэдна на вытворчасьці з тым, каб яны на справе сталі сапраўднымі сыгналізатарамі КК аб становішчы і недахопах на прадпрыемствах;

д) забясьпечыць перыодычную справаздачнасьць партзасядацеляў аб сваёй рабоце у КК на сваіх ячэйках і стварэньне адпаведных умоў для работы грамадзкіх партсьледчых і актывістаў ПК і сыстэматычнай праверкі іх работы ў ПК і РКК нізавымі парторганізацыямі, вылучыўшымі іх для паказанай работы.

7. Партколегіі ЦКК КП(б)Б організоўваць выяздныя парттройкі для разгляду спраў на месцы значна шырэй чым зараз з такім разьлікам, каб колькасьць пунктаў, куды выяжджае тройка, была ня менш паловы раённых цэнтраў і каб пасяджэньні троек адбываліся ў парамежку ў двух радам ляжачых раёнах, тым самым трымаць жывую сувязь з усімі раённымі організацыямі.

8. Улічваючы, што адным з важных элемэнтаў перабудовы работы Парткалегіі і РайКК павінна быць максымальнае спрашчэньне іх работы,—пленум ЦКК прапануе ПК і РКК кіравацца наступнымі паказаньнямі ЦКК УсеКП(б): „Контрольным камісіям трэба павялічыць практыку разбору спраў у ячэйках“ і „так арганізаваць сваю работу, каб выпадковыя дробныя праступкі членаў партыі, якія ня шкодзяць жыцьцю арганізацыі і ня сьведчаць аб спорчанасьці члена партыі, учыніўшага гэты дробны праступак, не паступалі на разгляд контрольных камісій, а зжываліся ў сваім таварыскім асяродзьдзі“ (з рэзол. XIII Зьезду Партыі „Аб рабоце контрольных камісій“).

9. У мэтах палепшаньня разбору пэрсанальных спраў як у Парткалегіі ЦКК, так асабліва ў РайКК, на што ЦКК УсеКП(б) зварачвае асаблівую увагу,—Парткалегіі і РКК у далейшым строга кіравацца ў гэтых адносінах дырэктывамі ЦКК УсеКП(б):

а) неабходна асаблівую ўвагу ўдзяліць палепшаньню разбору спраў на аснове ўказаньняў XIII Зьезду партыі, што КК „не павінны кіравацца якім-небудзь шаблёнам пры вызначэньні меры ўзьдзейнічаньня“. У адносінах да кожнага прыцягваемага пры разборы паасобнага праступку трэба ўлічыць усю яго работу ў партыі, а таксама „павінен быць зусім індывідуальны падыход і павінны быць улічаны ўсе абставіны і ўмовы ўчыненьня данага праступку“;

б) садзейнічаць работай Парткалегіі ўзьняцьцю пачуцьця адказнасьці ў кіруючага складу работнікаў прамысловых, гаспадарчых прадпрыемстваў, маладых спэцыялістаў, кіраўнікоў колгасаў, саўгасаў і забясьпечыць ім умовы хутчэйшага аўладаньня імі тэхнікай вытворчасьці, правядзеньня адзінаначальля, і пры разборы іх спраў асабліва дакладна правяраць у кожным паасобным выпадку абвінавальныя матэрыялы, памятуючы, што адным з самых першых нашых абавязкаў у даны пэрыод зьяўляецца стварэньне і ўмацаваньне комуністычных кадраў;

в) забясьпечыць крытычны падыход і праверку фактаў абвінавачваньня да прызначэньня справы да слуханьня ў КК, даючы магчымасьць прыцягнутым папярэдня азнаёміцца з матэрыяламі справы і час для прадстаўленьня імі апраўдальных даных, выкліку неабходных асоб і г. д.

Разбор справы адбываецца, як правіла, у прысутнасьці прыцягваемага і прадстаўнікоў ячэйкі;

г) пры вырашэньні пытаньня аб выключэньні з партыі рабочых неабходна прымяняць гэту меру толькі ў тым выпадку, калі ва ўмовах данай організацыі вычарпаны меры выхаваўчага характару, забясьпечваючыя выпраўленьне;

д) пры разборы спраў тварышоў, асуджаных па суду, неабходна ўстанавіць дэталёвае азнаямленьне з судовай справай, асабліва ў тых выпадках, калі судом не ўстанаўляюцца карысныя моманты, улічваючы пры разборы іх спраў у КК іх станоўчую работу ў мінулым;

е) праявіць асаблівую асьцярожнасьць пры рашэньні спраў, зьвязаных з выключэньнем за бытавыя праступкі;

ж) зьвярнуць асаблівую ўвагу на неабходнасьць абгрунтавана і выразна формуляваць свае пастановы, не дапускаючы ўключэньня ў іх непацьверджаных фактаў;

з) намеціць мерапрыемствы па паскарэньні разгляду пэрсанальных спраў на членаў партыі і адхіленьні ў гэтым напрамку момантаў цяганіны ў самых органах КК, а таксама парадак спрашчэньня ўзгадненьняў перасылаемых спраў з парткамітэтамі.

10. Адзначаючы значна праведзеную ЦКК работу па барацьбе з скажэньнямі ў галіне нацыянальнай політыкі, Пленум ЦКК паказвае ўсім контрольным комісіям на яшчэ большае ўзмацненьне барацьбы з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай, беларускім, яўрэйскім і інш. шовінізмам. Неабходна паставіць сабе задачай штодзенную праверку выкананьня парт'ячэйкамі і паасобнымі комуністамі дырэктыў Кастрычніцкага пленуму ЦК КП(б)Б і аб'яднанага Студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б, асабліва ў частцы праверкі выкананьня дырэктыў па беларусізацыі.

11. Пленум ЦКК КП(б)Б лічыць зусім недапушчальным слабае кіраўніцтва з боку контрольных камісій конфліктнымі камісіямі комсамолу. Надаючы вялізарную ролю комсамолу ў справе выхаваньня рабочай моладзі і ўдзелу яе ў соцыялістычным будаўніцтве, Пленум ЦКК КП(б)Б прапануе Партколегіі ЦКК і РКК узмацніць штодзеннае кіраўніцтва конфліктнымі камісіямі ЛКСМБ у напрамку перабудовы работы КК ЛКСМБ, зжываньня формальнага падыходу ў справе разгляду пэрсональных спраў комсамольцаў, узмацненьня выхаваўчага ўзьдзейнічаньня і мер, папераджаючых хваравітыя зьявішчы ў комсамоле. Партколегія і РайКК павінны сыстэматычна правяраць работу конфліктных камісій, заслухоўваць іх даклады як аб агульнай дзейнасьці, так і па паасобных пытаньнях хваравітых зьявішч у комсамоле, „дапамагаць конкрэтнымі ўказаньнямі ў разборы спраў і побач з гэтым—прыцягваць конфліктныя камісіі да штодзеннай работы контрольных камісій партыі".

12. Пленум ЦКК адзначае слабую сувязь работы контрольных камісій з ваеннымі парторганізацыямі. Неабходна больш увагі ўдзяліць рабоце ваенных партыйных камісій і сувязі з імі з боку як Партколегіі ЦКК КП(б)Б, так і КК на мясцох. Не абмяжоўваючыся прадстаўніцтвам, неабходна, каб Партколегія і КК знаёміліся з становішчам работы ваенных партыйных камісій і аказвалі апошнім усямерную дапамогу ў справе вывучэньня хваравітых зьявішч сярод партыйцаў, знаходзячыхся ў Чырвонай Арміі.

Для практычнага ажыцьцяўленьня гэтай задачы неабходна Партколегіі ЦКК сумесна з АПК правесьці ў бліжэйшы час вывучэньне дзейнасьці 2-3 дывізыённых Парткамісій.

13. Разгляд паасобных спраў у ПК ЦКК паказвае, што мы маем значную колькасьць фактаў парушэньня дырэктыў партыі па самакрытыцы.

Пленум прапануе контрольным камісіям павесьці рашучую барацьбу з фактамі зажыму самакрытыкі і парушэньнем дырэктыў партыі аб унутрыпартыйнай дэмократыі. Неабходна ПК ЦКК КП(б)Б і РайКК узмацніць барацьбу з бюрократычнымі і грэзьлівымі адносінамі да крытыкі „зьнізу", памятуючы, што разгорнутае соцыялістычнае будаўніцтва можа больш пасьпяхова ісьці пры ўмове, калі ўся наша работа будзе прасякнута праверaным бальшавіцкім мэтодам — крытыкай і самакрытыкай.

14. Лічыць неабходным узмацненьне кіраўніцтва з боку ПК ЦКК і РайКК для чаго неабходна:

Практыкаваць паасобныя абсьледваньні дзейнасьці РКК і інструктаваньне іх членамі ПК і інструктарамі ЦКК у напрамку таго, як РКК вядуць выхаваўчую работу і барацьбу з хваравітымі зьявішчамі ў сваёй парторганізацыі з пасьледуючымі дакладамі аб гэтым на ПК ЦКК. Выклікаць РКК для дакладу ў ПК па паасобных справах, якія носяць

агульнапартыйны і палітычны характар і практыкаваць пэрыядычнае скліканьне нарад парт. сакратароў РКК.

15. Пленум ЦКК КП(б)Б лічыць неабходным у большай меры праводзіць асьвятленьне ў друку дзейнасьці КК, найбольш характэрныя справы, ці групу спраў, з мэтай выхаваньня паасобных парторганізацый і комуністаў. З гэтай мэтай неабходна прыцягнуць групу вытрыманых партыйцаў-рабкораў, а таксама дамовіцца з рэдколегіямі газэт аб асьвятленьні хваравітых зьявішч у парторганізацыях у аддзеле „Партыйнае жыцьцё".

16. Толькі пасьлядоўным і цьвёрдым правядзеньнем генэральнай лініі партыі, рашучай барацьбой з опортуністычнымі скажэньнямі яе, барацьбой з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай, і рэшткамі контррэволюцыйнага троцкізму і прымірэнцтвам да іх контрольныя камісіі змогуць і надалей замацаваць адзінства радоў партыі і на гэтай падставе выканаць тыя задачы, якія ставяцца перад імі новымі ўмовамі і новымі абставінамі.

# Аб прыёме асьпірантаў па гісторыі КП(б)Б і ленінізму

Інстытут Гісторыі Партыі пры ЦК КП(б)Б абвяшчае прыём асьпірантаў:

1) Асьпірантура пры Інстытуце Гісторыі Партыі ставіць сабе мэтаю падрыхтаваць: а) выкладчыкаў гісторыі партыі, Кастрычнікавай рэволюцыі ў Беларусі і ленінізму для вышэйшых навучальных і навуковых установ; б) самастойных дасьледчыкаў у гэтым абсягу.

2) Тэрмін заняткаў асьпірантаў трохгадовы. Першы год прысьвячаецца заняткам па дыялектычным матэрыялізьме, ленінізьме і гісторыі ЎсеКП(б). Другі год—гісторыі КП(б)Б і рэв. руху ў Беларусі, і спэц. сэмінару для леніністаў. Трэці год—распрацоўцы паасобных проблем і ўдзелу ў навукова-дасьледчай рабоце Інстытуту. Па пастанове Інстытуту паасобныя асьпіранты, пачынаючы з 3 курсу, могуць быць накіраваны для ўдасканаленьня ў адпаведныя навуковыя установы СССР.

Пачынаючы з 2 курсу ўсе асьпіранты ў абавязковым парадку прыцягваюцца да выкладчыцкай работы.

3) Для залічэньня ў асьпіранты Інстытуту неабходна: а) ня менш як 5-гадовы партыйны стаж; б) трохгадовы стаж партыйнай работы.

Агульная тэорэтычная падрыхтоўка паступаючых ў асьпіранты патрабуецца ў абсягу програмы Комвузу ці гістарычнага аддзяленьня Пэдфаку БДУ.

4) У асьпіранты Інстытуту прымаюцца камандыраваныя са скончыўшых Комвуз і соц. гістар. аддз. Пэдфаку БДУ (па асобным адборы з лепш скончыўшых) мясцовымі партыйнымі організацыямі і па асабістых заявах членаў партыі ў інстытут, здавальняючыя ўмовам, вызначаным ў пункце 3-м.

Для паступаючых у асьпіранты (апрача паасобна адабраных з ліку скончыўшых Комвуз і соц. гістарычнае аддзяленьне Пэдфаку БДУ) будзе організавана ўступная конфэрэнцыя на працягу сьнежня месяца г. г.

Іспытальныя заняткі будуць весьціся па наступных дысцыплінах: дыялектычн.матэр. і ленінізму, гісторыі народаў СССР і гісторыі ЎсеКП(б). Прынятымі будуць лічыцца тыя таварышы, якія пасьпяхова пройдуць гэтыя іспытальныя заняткі.

Сьпіс тэм і літаратуры будзе апублікаваны дадаткова ў „Бальшавіку Беларусі".

6) Забясьпечаньне — згодна палажэньня, якое існуе для ўсіх асьпірантаў.

7) Заявы прымаюцца Інстытутам Гісторыі Партыі з 10 жніўня па 25 верасьня г. г. (вул. Карла Маркса, 14, ЦК КП(б)Б). Пачатак навучальнага году з 1 студзеня 1932 г.

Увага: Усе паступаючыя ў асьпіранты Інстытуту Гісторыі Партыі залічаюцца толькі пасьля зацьверджаньня іх ЦК КП(б)Б. Пасьля залічэньня кожны таварыш атрымлівае месячны водпуск для падрыхтоўкі да іспытаў.

Сакратар ЦК КП(б)Б *Гей*

Дырэктар Інстытуту Гісторыі Партыі
пры ЦК КП(б)Б *Сэрбэнта*

## У рэдакцыю „Бальшавіка Беларусі“.

У № 5-6 „Бальшавіка Беларусі“ (май — чэрвень), у артыкуле М.М.З. „Супроць нацдэмаўшчыны, кандрацьеўшчыны“ і г. д., зьмешчаны ліст, які быў напісаны мною ў 1924 годзе ў Горацкую сэкцыю н. п. з протэстам супроць абстаноўкі выбараў бягучага, 1924 г., у Горацкім, у той час, с.-г. інстытуце.

Ліст даволі доўгі, але сутнасьць яго можа быць зьведзена да наступнага: гэта ёсьць протэст абараняючага сваю „годнасьць“ профэсара супроць запаланеньня куры профэсароў і выкладчыкаў інстытуту „блёкам“ навуковых супрацоўнікаў (студэнтаў), які, „дзякуючы сваёй колькасьці і кругавой паруцы (Sic!), прадрашае вынікі галасаваньня незалежна ад раскладу галасоў выкладчыкаў і профэсароў“.

Дакумэнт, мякка кажучы, няўдалы, а проста — неразумны і рэакцыйны, які змог-бы даставіць ня мала радасьці абы-якой замежнай газэтцы, якая галосіць аб прыніжэньні навукі і інтэлігенцыі ў Савецкім Саюзе.

Прайшло толькі сем год ад часу зьяўленьня гэтага „пасланьня“, але-ж, калі жывеш у час, у які кожны год зьяўляецца цэлай гістарычнай эпохай, то цяжка спазнаць самога сябе ў крывым люстры сваіх уласных учынкаў яшчэ зусім нядаўняга мінулага.

Аднак, іменна дзякуючы перажытаму за гэтыя гады глыбокаму ідэолёгічнаму зруху, яскрава бачыш карані тых грубейшых палітычных памылак, якія ў свой час здаваліся героічнай праявай грамадзянскай адвагі і годнасьці сапраўднага „жраца навукі“.

Карані гэтыя ляжаць у перажытках мінулага інтэлігенцкага самалюбаваньня ў процістаўленьні сябе, як „солі зямлі“, як вартаўніка „акадэмічных традыцый“, масе, якая павінна пакарацца і маўчаць. Адгэтуль гурткоўшчына, замкнутасьць і нецярпімасьць у адносінах да падымаючай галаву і голас зьмены, ідучай з задорам моладасьці і, нярэдка, з значна большай палітычнай сьвядомасьцю ламаць аджыўшы хлам і ставіць вехі новай, рэволюцыйнай будоўлі; адгэтуль адрыў ад партыйнага і грамадзкага контролю і небясьпека, у лепшым выпадку, адстаць ад лёзунгаў і тэмпаў жыцьця, у горшым — апынуцца „па другі бок барыкад“.

У абставінах пролетарскай рэволюцыі тое, што магчыма было-б у папярэдні час назваць консэрватызмам — перарастае ў яўную рэакцыйнасьць, а каставая адасобленасьць і гурткоўшчына робяцца адной з праяў клясавай барацьбы на ідэолёгічным фронце.

У неразуменьні гэтага і зьмяшчалася галоўная памылка тых, хто, выступаючы „за чыстату традыцый“, па сутнасьці змагаўся супроць

Рэдакцыя „Бальшавіка Беларусі“, зьмяшчаючы ліст у рэдакцыю проф. Кайгародава, са здавальненьнем констатуе, што проф. Кайгародаў падвяргае ў гэтым лісьце свае папярэднія палітычныя памылкі рашучай крытыцы.

партыйнай і савецкай грамадзкасьці, супроць генэральнай лініі партыі, супроць рэволюцыйнай плыні жыцьця, якога ён, нават будучы „спачуваючым“, не зразумеў і не прадумаў да канца.

За сем год многае зьмянілася ў корані. Клясавая барацьба, якая разгортваецца з усё большай сілай з кожным посьпехам соцыялістычнага будаўніцтва, давяла да канца ідэолёгічнае распластаваньне. Усе пытаньні пастаўлены рубам, ускрыты карані ўсіх ідэолёгічных „недаацэнак“, „рознагалосьсяў“, „ухілаў“ і г. д.

Грандыёзнасьць эпохі, якая перажываецца намі, не абуджае энтузіязму толькі ў безнадзейна сьляпых або канчаткова зьвіхнуўшыхся людзях, і адкрытае прызнаньне сваіх памылак зьяўляецца, у нашых умовах, лепшым шляхам падтрымаць годнасьць савецкага працаўніка і дзеяча навукі.

Гэта я і раблю сваім лістом перад тварам усёй савецкай грамадзкасьці, спадзяючыся на тое, што мая навуковая і грамадзкая праца на працягу 13 апошніх гадоў зьяўляецца дастатковай гарантыяй шчырасьці маіх пабуджэньняў і жаданьняў, наколькі хопіць сіл, аддаць іх вялікай справе, якую творыць пролетарыят Савецкага Саюзу пад цьвёрдым кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

*А. Кайгародаў.*

---



Менск. Друкарня БАН. Галоўлітбел № 356. Заказ № 3598. Тыр. 2700. 6 арк. і 10 стар.

